# Крыніца

2(62)
2001
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

# Крыніца

Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

№ 2 (62)
2001

Выдаецца са студзеня 1988 года

**Заснавальнікі:**
калектыў рэдакцыі, Саюз беларускіх пісьменнікаў

Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года





Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца



**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП,**
**вул. Кісялёва,11**

**e-mail:krynitsa@open.by**

**Звaніце:**
**2-366-113, 2-366-142**



Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 12.02.2001. Фармат 60x84 1/16.
Папера афсетная № 1. Гарнітура «Peterburg». Афсетны друк.
Ум.-друк.арк. 11,16. Тыраж 819 экз. Зак. 276.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

# Жыццяпіс

*1900 год – 26 студзеня* ў вёсцы Зазер'е Ігуменскага павета Мінскай губерні ў сям'і вясковага цесляра нарадзіўся першынец — сын Аркадзь. Раннія дзіцячыя ўспаміны звязаныя з роднымі мясцінамі, з маляўнічымі Пухавіцкімі краявідамі. Тут, у Зазер'і, пасябраваў з дзецьмі зазерскага эканома братамі Буйламі, разам з імі наведваў школу, ад іх аднойчы атрымаў стос газет "Наша ніва". Гэта стала першым знаёмствам з творамі беларускай літаратуры, яны моцна ўразілі хлапчука і паўплывалі на яго далейшы лёс. З 10-гадовага ўзросту робіць першыя літаратурныя спробы, пачынае пісаць вершы.

*1916 год* – насуперак волі бацькі, кінуў гаспадарку ў роднай вёсцы і, апантаны прагай ведаў, накіраваўся ў Мінск, дзе паступіў на курсы тэлеграфістаў, пасля заканчэння якіх да 1924 года працаваў на станцыі "Мінск" Лібава-Роменскай чыгункі. Тут пазнаёміўся і пасябраваў з супрацоўніцай тэлеграфа Ксеняй Лаўрэнцьеўнай Няхайчык.

*1919 год* – прымаў удзел у барацьбе супраць белапалякаў, партызаніў у Дукорскіх лясах. Нечакана памерла маці – Марыя Максімаўна Рудовіч. З гэтага часу слабеюць сувязі Моркаўкі з вёскай, са сваякамі.

*1922 год* – вучоба ў рабочым тэхнікуме ў Мінску. Упершыню выступае ў друку: у газеце "Вольны сцяг" № 1 з'явіўся верш "К новаму году". З 1923 года яго вершы публікуюць

часопісы "Маладняк", "Полымя", пазней "Узвышша", розныя газеты, але складаныя ўмовы жыцця не дазваляюць надаваць належную ўвагу творчасці, як след займацца літаратурнай працай.

*1924 год* – прымае актыўны ўдзел у літаратурным жыцці Беларусі: доўгі час, на працягу некалькіх гадоў, быў членам літаратурнай арганізацыі пісьменнікаў "Маладняк", членам рэдкалегіі часопісаў "Маладняк" і "Полымя", шмат сіл і часу аддаваў культурна-асветнай рабоце, што наладжвала літаратурная арганізацыя "Маладняк", падтрымліваў цесныя сувязі з Паўлюком Трусам, Тодарам Кляшторным, Валерыем Мараковым ды іншымі маладнякоўцамі.

*31 жніўня 1924 года* бярэ шлюб з Ксеняй Лаўрэнцьеўнай Няхайчык. У гэтым жа годзе паступае ў Віцебскі электрамеханічны тэхнікум. (У Віцебску ён, паводле сведчання Максіма Гарэцкага, вёў заняткі па паэтыцы і беларускай літаратуры ў літаратурнай студыі Віцебскай філіі "Маладняка".)

*1925 год* – удзельнічае ў рабоце Першага Усебеларускага з'езда паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк".

*1926 год* – у друку з'яўляецца артыкул З.Жылуновіча "Купчастыя руні" з разглядам творчай дзейнасці Аркадзя Моркаўкі.

*1927 год* – заканчвае Віцебскі электрамеханічны тэхнікум. Працуе тэхнікам-стажорам мінскага завода "Беларусь". У выніку расколу "Маладняка" стаў сябрам творчага аб'яднання беларускіх пісьменнікаў "Узвышша". 25 чэрвеня 1927 года нарадзілася дачка Ларыса.

*1928 год* – убачыў свет адзіны прыжыццёвы зборнік паэзіі "Дым жыцця", які атрымаў станоўчы водгук Максіма Гарэцкага. Працаваў у Палаце мер і вагі на пасадзе тэхніка-электрыка і адначасова вучыўся на вячэрнім аддзяленні энергетычнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута.

*30-я гады* – пад ціскам тагачасных грамадскіх абставін на працяглы час адышоў ад літаратурнага жыцця.

*1934 год* – скончыў Беларускі політэхнічны інстытут, атрымаў спецыяльнасць інжынера-электрыка.

*1935 год* – інжынер праектнага аддзела Электрапрама

УЭТ, загадчык электралабараторыі Кіраўніцтва Камітэта па справах мер і вагі і вымяральных прыбораў пры СМ БССР.

*1939 год* – у званні капітана прымаў удзел у вызваленчым паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь.

*1941 год* – на самым пачатку вайны, 25 чэрвеня, згарэла кватэра паэта, а разам з ёю ўвесь архіў, дзе захоўваліся напісаныя і не апублікаваныя ў 30-я гады творы. А.Моркаўка не змог пакінуць горад і вымушаны быў разам з сям'ёй заставацца ў акупіраваным Мінску ажно да вызвалення Беларусі ў 1944 годзе. Пад уплывам жахлівых падзей Аркадзь Андрэевіч вяртаецца да актыўнай творчай працы. Большая частка найлепшых твораў напісана менавіта ў гады вайны, у час акупацыі.

*З 1942 года* прымае ўдзел у падпольным руху.

*1943 год* – у вёсцы Рыбцы пад Мінскам фашысты жыўцом спалілі сястру паэта, Надзею, разам з дзецьмі.

*1944 год* – з верасня працуе на пасадзе галоўнага інжынера Палаты мер і вагі.

*1945 год* – упершыню пасля доўгага перапынку ў часопісе "Полымя" з'явіліся вершы А.Моркаўкі з цыкла "Дні і пачуцці"; у лістападзе ў газеце "ЛіМ" апублікаваны вершы з цыкла "Беларусь у няволі".

*1949 год* – у вёсцы Закружка памёр бацька Аркадзя Андрэевіча, Андрэй Кандратавіч Моркаўка.

*1955-1956 гады* – А.Моркаўка рыхтуе да друку зборнік паэзіі "Гады, як ветразі".

*24 красавіка 1957 года* – Аркадзь Моркаўка памёр у Мінску ад невылечнай хваробы, пахаваны на Вайсковых могілках.

*1959 год* – выйшла кніга вершаў "Гады, як ветразі".

*1973 год* – у выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў серыі "Бібліятэка беларускай паэзіі" ўбачыў свет зборнік "Вершы".

*2000 год* – літаратурная грамадскасць адзначыла 100-годдзе з дня нараджэння А.Моркаўкі. На радзіме паэта адкрыта мемарыяльная дошка, у Пухавіцкім раённым краязнаўчым музеі разгорнута экспазіцыя, прысвечаная жыццю і дзейнасці Аркадзя Моркаўкі.

**Падрыхтавала Ірына КАЧАТКОВА**

Верш Аркадзя Моркаўкі... пад назваю "Крык вуліцы" літаральна прагучаў перуном вялікай сілы. Прачытаўшы яго, адзін з беларускіх літаратараў з захапленьнем выказаўся: "Які слаўны твор! Калі яго пісаў пісьменьнік з маладых, то гэта нязвычайны талент". І сапраўды, Аркадзь Моркаўка "Крыкам вуліцы" прыгожа з'явіўся на беларускі Парнас. Рыцарам, прыгатаваным да цяжкае бойкі, сьмелым, адважным, геройскім. Да прызыўных, цьвёрдых клічаў папярэдніх сабе поэтаў ён дадаваў свае рашучыя, палкія, увераныя рытмы – верныя, як удары молата.

Як бачым... пясьняр правільна ўглядае бок, з якога сьвятло надыходзіць – гэта адраджэньне краю, агульная доля, якая "знойдзена", зразумела, у кутку вялікіх выбухаў... у гэтым пункце нявыбраны скарб поэтычнага натхненьня ... асеянага грамавою зыркасьцю, бліскучай бадзёрасьцю.

**З. Жылуновіч**

Аркадзь Моркаўка быў з тых, хто праторваў першыя сцяжыны ў маладой беларускай савецкай паэзіі. Ісці часта даводзілася па цаліку, шукаючы сваё месца ў літаратуры, імкнучыся сказаць па-свойму, не падобна на іншых. Калі гэта ўдавалася, нараджаліся творы, прасякнутыя пафасам часу, напоўненыя бурлівасцю яго неспакойных працоўных будняў... А.Моркаўку, як і іншым

Цытатнік

беларускім паэтам, хто адначасова з ім уваходзіў у літаратуру, было не займаць жыццялюбства, бадзёрасці, веры ў шчаслівую будучыню, у вечную радасць жыцця... Нараджаліся вершы, у якіх бачылася асоба самога аўтара, чуўся ягоны шчыры голас – голас паэта-лірыка, паэта-аптыміста, што бачыць сапраўдную паэзію ў паўсядзённасці... Лепшае з напісанага ім і сёння радуе сваёй шчырасцю і праўдзівасцю.

**С.Вірзоўскі**

Гэты чалавек, які ўвесь час быў звязаны з тэхнікай, шчыра любіў літаратуру, меў добры эстэтычны густ і валодаў значнай паэтычнай культурай... Яго лірыка з ускладнёнымі вобразамі не кожнаму была зразумелай. Але калі паэт пачынае звяртацца да вобраза простага чалавека, асабліва вясковага, які бліжэй яму, дык і вершы яго становяцца... дакладнымі, канкрэтнымі і ўсхваляванымі, бо ў іх адчуваецца сапраўдны подых жыцця.

**А.Есакоў**

Беларускі паэт з ліку тых, хто ў першыя паслярэвалюцыйныя часы распачынаў беларускую савецкую паэзію, безумоўна, варты таго, каб ягоныя імя і творчасць успаміналі часцей, чым мы рабілі дагэтуль... Самае лепшае сярод... твораў Аркадзя Моркаўкі – яго інтэлектуальная лірыка, чамусьці не заўважаныя намі як след ягоныя вершы пра моц чалавечага розуму, які намерыўся авалодаць сляпым хаосам Сусвету. Па-мойму, гэта надзвычай добрыя вершы – яны прымушаюць успомніць вельмі дасканалыя ўзоры.

**Р.Бярозкін**

Аркадзь Моркаўка – інтэлігент сялянскага паходжання, з нахілам да філасофскіх разважанняў, да сімвалічных вобразаў і да класічнай формы ў вершаскладанні... праз якія хоча ён, як відаць, знайсці прымірэнне з жыццём... Галоўны матыў –

... разважанні на тэму аб тым, што няма нічога вечнага на гэтым марным свеце, але шкадаваць не варта, трэба жыць і знаходзіць імпэт да жыцця хоць бы ў гэтай філасофіі прыціснутага вечнасцю... Скрозь у яго – філасофія, праз якую імкнецца ён знайсці сэнс і хараство ў жыцці ўсяе прыроды і чалавека, імкнецца прыняць і ўславіць працэсы жыцця такімі, якія яны ў сваім асноўным былі, ёсць і будуць —але, пэўна, ён стаіць за ўсё тое, што вядзе чалавецтва далей наперад... Аркадзь Моркаўка – праўдзівы паэт, праўдзівы мастак...

**М.Гарэцкі**

"У Моркаўкі ёсць поўная сугучнасць матываў, адпавядаючых сучаснасці, бадзёрасць... Асобна стаіць верш "Я жыў", дзе паэт разважае над ідэяй колазвароту свету, але і тут ён бадзёры..."

**П.Фралоў**

"У сваіх вершах Моркаўка адбівае і свае індывідуальныя настроі, і розныя выдатныя здарэнні грамадскага жыцця ... Чыстая лірыка, асабістыя перажыванні, часам з водценнем псіхалагізму, таксама займаюць у творчасці Моркаўкі выдатнае месца. Наглядаецца часам імкненне аўтара ўвайсці ў глыб сваіх унутраных перажыванняў. Пэўная частка вершаў пабудавана на эмацыянальных адносінах да рэчаіснасці, адчуваецца нейкі, часам беспрадметны, меланхалічны сум; у другіх вершах – наадварот – глыбокі, філасофскі падыход да тых ці іншых жыццёвых з'яў, даюцца інтэлектуальныя, разумовыя адносіны песняра да ўсяго навакольнага, часам – наглядаюцца спробы філасофскага іх абагульнення... Некаторыя вершы Моркаўкі – безумоўна, не для мас, некаторыя з іх занадта складаныя і заблытаныя як у сэнсе формы, так і ў сэнсе зместу... У сэнсе формы ў творчасці Аркадзя Моркаўкі адчуваецца некаторы ўплыў экспрэсіянізму ды імажынізму; апошняе выразна выступае ў сістэме пабудовы вобразаў, якія, між іншым, у Моркаўкі часта бываюць вельмі моцныя і вельмі смелыя".

**А.Гародня**

***

Расцяла неба зорнае
Шату сваю ўгары,
А тут вось глеба чорная —
Працуй штодзень, твары.

Працуй, пакуль не зморany
Агонь тваёй душы,
Пакуль загон не ўзораны
Сусветнае глушы.

А там... там радасць вечная
На шэрагі вякоў...
Дык дзякуй тым сардэчнае,
Хто рваў метал акоў!

*1923*

## Я ЖЫЎ...

Мільёны год таму назад я жыў...
Яшчэ зямля, ад сонца адарваўшыся,
У згоду лёсу астывала,
Як след на попеле мой вырысы лажыў,
І зорка ў сэрцы начавала...
Вуголлі, помню, тлелі каля кучы
Камення вострага.
Я падышоў да іх,
У попел ногі палажыў
І крыкнуў першы раз у вышу гучна:
– Жыў! –
І рукі грэў,
І ў першы раз з грудзей памкнуўся спеў,
Мой спеў!..

А дні ішлі звычайнай чарадою,
Я вартаваў іх.
Я быў першы,
Хто здзіўлена сачыў за грамадою
Хмар свінцовых.

Тады ж і вершы
Зароіліся ў сэрцы, сэрцы новым...
Калі ж мільёны зор выходзілі на пашу
І мігаценнем роўным вабілі углыб;
Калі зямлю цяперашнюю нашу
Маланкі секлі, быццам дровы;

Калі зара ружовіла абшары,–
Я пазіраў, як стылі хмары,
Я дзівіўся,
І – стромы чулі мае словы –
Я – маліўся...

Вякі плылі, бы ціхая вада.
Я сёння – ўнук. Я заўтра – дзед.
Я – грамада...
Пясок Егіпту мой хавае след,
Дзе я пастроіў піраміды,
Я – раб... Мае балелі рукі,
Мяне тапілі акіяны мукі,–
Я ж абышоў зямныя кругавіды,
Стварыў мільёны дзіў
І – сам дзіўлюся...
Я – жыў...
Але нікому не малюся.

*1925*

***

Месяц, месяц з залатой дугою,
Хто твой твар бялявы затуліў?
Ці не хочаш ты дарогаю другою
Уцячы, адгэтуль з нашых ніў?

Ззяеш ты над Францыяй прыгожай,
Над Італіяй блакітнай ззяеш ты,
Але ўсё ж твой бледны твар не можа
Кінуць нашы вёскі, балаты.

Бо ў пасцелі мяккай хмар крылатых
Адпачыці гэтак ты б не мог,
Як у шэрай вопратцы аратых,
З-пад якой на свет тарчыць твой рог.
*1925*

***

Пашчапалі ў бойцы шмат касцей,
У дажджы жалезным вар'яцелі,
А любоў, як раніца, цвіце,
А любоў, як смага тая ў целе.

Ты казала... шмат казала ты,
Але ростань нас дарыла болем.
Дзён тваіх напарстак залаты
Не трымаць мне ўжо ніколі болей.

Травень... травень... Хай гусцее ліст,
Хай вішэннік ліст гусцее новы.
Скажам потым мы: і мы жылі
І ў дажджы жалезным, і ў любові.
*1927*

***

Лена груган праляцеў над страхой,
Крыллямі зрушыў зімовы спакой,
Нехаця комам за плотам упаў,
Важка прайшоўся і ў гурбах прапаў.

Крык свой скрыпучы груган прыглушыў.
Мёртвая вёска... нідзе ні душы.
Шыбы пабітыя выкляты лёс
Плакаць прымусіў нячутна, без слёз.

Што ж не чуваць ні жанок, ні дзяцей?
Што з нашых ніў не жадае зляцець
Выкляты, чорны, як сажа, груган,
Чорны, як смерць, як нямая туга?

Грай жа, музыка, папраўся і – грай!
Гэтакім суджана бачыць наш край!
Суджана смерці у вочы глядзець,
Суджана ехаць бядзе на бядзе.

*1942*

***

Ці вершы складаю, ці поле ару,
Ці сею увесну пшаніцу –
Заўсёды краіна мая Беларусь
Ляжыць прада мной плашчаніцай.

З балючае раны кроў млява цячэ
На сцежку... па кроплі... вякамі...
І сум датлявае у глыбі вачэй...
Пад голаў – падкінуты камень...

Распнулі цябе на крыжы, Беларусь,
Цвікамі скалечылі рукі...
Ці ж бачыш ты з крыжа на ўсходзе зару, —
Канец гэтай вечнае мукі?..

*1942*

***

Струны рвуцца, мітусяцца, —
зноўку скрыпка плача,
Але йдзе другі музыка. Ён заграе йначай.

З ясным тварам, —
чыстым сэрцам ад мінорных струнаў
Ён падорыць дыяменты старажытных рунаў.

Ён гамоніць сёння з ветрам,
ён гамоніць з пушчай,
Ён склікае на купалле
вастракрылых птушак.

І цякуць са струн свабодна нашых
песень гукі,
Каб заўсёды іх пяялі нашы дзеці, ўнукі.

Каб на гонях нашых вёсак хлопцы
і дзяўчаты
Не цураліся народу й беларускай хаты.

Ой, радзіма залатая, ой, радзіма-маці,
Ты дазволь табе, што маю, ўсё,
што маю, даці;

Наквець песень, адкаваных на гарне музыкі,
А у песнях – мужнасць сэрца,
і мой сум вялікі.

Каб я весела і звонка апяваў краіну,
Сум бязмежны і бясконцы –
о, каб ён загінуў! –

І народ мой, у няволю немцам не забраны,
І былыя перагасы, і былыя раны.

Ой, радзіма залатая, ой, радзіма-маці,
Ты дазволь мне ў дзень суровы тваім
воем стаці,

Бараніць твае загоны, каб ніякі вораг
Не знайшоў сабе прытулку ні ў галлі,
ні ў норах.

Бачу, крыллі пазвісалі,
крыллі груганковы,
Бачу, слёзы рассявае
жоўты ліст кляновы.

Зноўку скрыпка сумна грае,–
сэрца ные, плача,
Але йдзе другі музыка. Ён заграе йначай.

*1942*

***

Ціха плюскоча крыніца,
Мышы схаваліся ў норах.

Зноў на дзядоўскай званіцы
Ў цемры запалім газніцу,
Вызванім горкае гора.

Зноўку прыйшлі чужаніцы,
Нашу Радзіму забралі –
Нашу святую крыніцу.
Гэй, званары, – на званіцы!
Хай закалышуцца далі!

Маці, матуля, ніколі
Дзеці Радзіме не здрадзяць!
Помняць, што маці ў няволі,
Знаюць, што вораг у полі
Кветкі крывавыя садзіць!

Зноў на дзядоўскай званіцы
Ў цемры газніцу запалім,
Каб у адвечнай крыніцы
Золатам сталі зарніцы,
Ворагі ж нашы прапалі!

*1942*

***

Пазалочаны кволы ліст
Сумнай музыкай падаў з клёнаў.
Журавы ад яго паплылі
Да другіх берагоў, зялёных.

Пазляталі з палеткаў сны,
І ваўкі у пагоне выюць.
Але ўсё ж пад ярэмы сыны
Не падставяць ніколі шыі!

Залілася ты ўся слязьмі,
У пакуце сваёй святая.
Дык хоць сэрца маё вазьмі,
Мая матухна залатая!

*1943*

* * *

Можна жалезам прымусіць і льва,
А беларуса – ніколі!

Падаў і ён інагды далавах
Ад нетаронага болю.
Падаў, каб зноў гартаваным падняцца,
Тройчы адпомсціць і з сонцам абняцца.

Золата можа фашыста купіць,
А беларуса – ніколі!

Горда ён будзе малодзіва піць
З конаўкі ўласнае долі.
Горда па роднай краіне ісці,
Песні змагання складаць у трысці.
Можна й дубы пазгінаць у дугу,
А беларуса – ніколі!

Чорныя цені над краем бягуць,
Цені шурпатай няволі...
Гэй жа, запалім у сэрцы газніцу,
Гэй жа, нап'емся жывое вадзіцы,
Радасным клічам спаткаем зару:
– Ты не памрэш, Беларусь!

*1943*

***

Хочацца вочы ад страху рукамі закрыць,
Каб не глядзець у душу чалавека;
Яркім крывавым рубінам нянавісць гарыць
Ныне і прысна й на векі.

Помстай напружана кожная кропля крыві:
Час наш і суд наш калісьці надыдзе!..
Ворагаў люду, Радзіма, мяне благаславі
Ўсёю крывёй ненавідзець!

Так ненавідзець, каб колас у полі дрыжаў,
Сохла, як дрот пераблытаны, рута,
Каб ад нянавісці вострае джала нажа
Пахла смяротнай атрутай.

*1943*

## ЛІСТАПАД

Прыгожы ціхі лістапад
Пайшоў гуляць па жоўтым лісці.
Адданы лёсу, прагна сад
Чакае снежаньскага прыйсця.

Што гаварыць нам, што было...
Было усё, што быць павінна!
Спачатку серабро цвіло,
А потым спелі журавіны.

Ужо апошнія снапы
Дзяўчаты дружна везлі ў пуні,
І з-пад калёс ружовы пыл
Лажыўся побач з рэхам сумным.

І зноў цудоўны лістапад
Па залатым гуляе лісці.
І сёння золату я рад,
Як серабру быў рад калісьці.

*1946*

* * *

Вецер подыхам гарачым
Несупынна дзьме у твар.
За пяскамі вочы бачаць
Кругавіды хараства.

Не спяшаючы, вярблюды
Капытамі мнуць пяскі.
Ўспамінаюцца, як цуды,
Беларускія ляскі.

За узгоркам – гукі песні,
Каласістыя снапы,
Рокат рэха ў звонкім лесе
І кудлаты срэбны пыл.

Быццам велічнае мора,
Залілі пяскі ўвесь круг.
Па начах чужыя зоры
Рассцілаюць свой абрус.

Несупынна цягне, вабіць
Шлях бясконцы нас удаль,
Дзе цяністыя прысады,
Незнаёмая вада.

Гэта – потым... гэта – потым...
А пакуль – бясконцы шлях

На абшарах пазалотай
Лёг у жоўтых пырсках дня.

Хутка – пальмы і аазіс,
Незнаёмая вада...
І пясок з-пад ног адразу
Пачынае асядаць.

А няспынныя вярблюды
Капытамі мнуць пяскі...
У аазісах мы будзем
Сніць хваёвыя ляскі.

*1946*

***

Назвы песням сваім салавей
Не дае, рассыпаючы сказы...
Мнагаструнныя вершы мае,
Не даю вам таксама назвы.

Падлічаючы ночы і дні,
Вас пакіну ў зялёнай прасторы,
Дзе гарадзь залатыя агні
Гарадоў нашых, вёсак і зоры.

Цалкам сэрца гучанню аддам,
Каб карункамі сталі сказы...
А калі будзе суджана, вам
Дасць народ беларускі назвы.

Нізка месяц чырвоны гарыць,
Пасцілаючы срэбную вехаць...

Гэты верш у палях паўтары
Праз гады, легкакрылае рэха.

*1947*

***

Уранавы камень праменіць пагрозу
Віхуры смяротнай раз'юшаных сіл...
А тут, у бары, залатыя бярозы
Лістоту страсаюць на сцежкі у пыл.
Над атамным векам заслона узнята...
У гульбішчы дзікім напружаных сіл
Бурліць несціхана стрывожаны атам,
Каб выбухнуць сонцам ці смерцю для ўсіх.
І сэрца жывое, як мечам заклятым,
Наскрозь пранізалі надзея і жах...
Над атамным векам заслона узнята,
І золак яго – ў чалавечых вачах.
Магутныя сілы ў будовах з бетону
Бушуюць віхурамі млечных шляхоў...
Няхай у віхурах сумненне патоне,
Няхай яно згіне на векі вякоў!
Няспынна і цвёрда да пэўнае мэты
Мы будзем ісці у наступныя дні,
Бо полымем сэрца з маленства сагрэта,
Бо ў ім патушыць немагчыма агні...
І будзе ўладарыць сумненне і розум
Над бурай сляпой пераможаных сіл...
І зноўку паволі увосень бярозы
Накрыюць нячутна лістотаю пыл.

*1954*

# ЭНЕРГІЯ

І зорны рої, і кожны атам,
І плынь няспынная гадзін –
Усё ў бясконцасці узнята
Сляпою воляй дзікіх сіл.
Усё у формулы замкнута,
Якія склаў адвечны рух –
І Млечны Шлях з агня адкуты
І твор умелы здольных рук.
У дзікай прорве акіянаў,
Віроў міжзорных і азёр
Бушуе безліч сіл, сабраных
Для утварэння новых зор.
У цемры чорнай і бясконцай
На ланцугах няўхільных мэт
Ляцяць мільярды яркіх сонцаў
Галактык лёгкіх і планет.
Закон адзіны і няўхільны:
Усім – няспынны творчы рух.
Таму на камені і гліне
Ляжыць і наш агністы круг.
Таму, узнятыя ў бясконцасць,
Зямлёю кінутыя ў дні,
Мы смагла любім наша сонца
І нашы хатнія агні.

*1955*

# СВЕЧКА ПЕРАД ВЕЧНАЮ КРАСОЙ

Уся біяграфія Аркадзя Моркаўкі нібы свядома "працавала" на тое, каб ён быў чалавекам, далёкім ад паэзіі. Аднак ён не толькі палюбіў яе, але і стаў паэтам. Паэтам, якога ва ўсёй значнасці яго таленту мы толькі пачынаем адкрываць. І на тое – некалькі прычын. Хораша заявіўшы пра сябе ў пачатку 20-х гадоў, ён, па сутнасці, замоўк у 30-я... Не ў апошнюю чаргу таму, што тагачасныя абставіны не надта спрыялі самавыяўленню таленту, а пісаць на патрэбу дня А.Моркаўка не хацеў, дый не ўмеў, бо па складу свайго творчага даравання ў асноўным заставаўся ўсё ж "ціхім" лірыкам. І вайну, вядома, нельга назваць спрыяльным перыядам для паэта, хоць, як мы цяпер ведаем, знаходзячыся ў акупіраваным Мінску, Аркадзь Андрэевіч з пяром не развітваўся, пісаў для сябе. А ў пасляваенныя гады таксама трэба было весці барацьбу на выжыванне з неўладкаванасцю, з нішчымніцаю, з сумненнямі наконт таго, а ці варта нешта надалей прапаноўваць у друк, калі ўзрост ужо не сказаць, каб вельмі "паэтычны". Аднак галоўная прычына ўсё ж у сціпласці А. Моркаўкі. І, як вынік, няўменне (і зноў жа нежаданне) прабіваць свае творы ў друк. Таму і застаўся ён аўтарам толькі адной прыжыццёвай кнігі "Дым жыцця", якая выйшла ў 1928 годзе. Другая – "Гады, як ветразі" — пабачыла свет праз два гады пасля смерці паэта. А потым яшчэ быў зборнічак у серыі "Бібліятэка беларускай паэзіі", стрымана

названы "Вершы" (1973). У бліжэйшых планах выдавецтва "Мастацкая літаратура" — выданне аднатомніка А. Моркаўкі "А ў полі вярба", што папоўніць серыю "Спадчына". Зразумела, у ім знойдзецца месца і неапублікаваным творам А. Моркаўкі. І не толькі вершам, якіх, калі б сабраць усе разам, дык набярэцца больш за дзвесце, а і паэмам – усяго іх чатыры, адна, праўда, незавершаная.

А ўваходзіў А. Моркаўка ў літаратуру на хвалі таго агульнага ўздыму, што быў выкліканы абуджэнцкімі працэсамі, якія сталі вынікам паслярэвалюцыйных сацыяльных змен у жыцці грамадства. Яны, гэтыя змены, "мабілізавалі" і ў паэзію, і ў прозу нямала таленавітай моладзі, найперш дзяцей сялян і рабочых (А. Моркаўка нарадзіўся ў сям'і чыгуначніка). У гэтым сэнсе можна сказаць, што А. Моркаўка не толькі тыповы прадстаўнік свайго часу. У раннім творчым узросце ён мала чым розніўся і ад сяброў па пяру. Звычайны маладняковец, які спяшаўся паспець за ходой часу і не адстаць ад іншых ва ўслаўленні сацыялістычнай рэчаіснасці, якая ўспрымалася і адпаведна падавалася ў святле ружовым, рамантычным, а таму далёкай ад сапраўднасці. Гэтаксама не звяртаў увагі на тое, што часам "спявае" не сваім голасам, а паўтарае неаднойчы сказанае. Аднак з той жа падставай можна засведчыць, што сёй-той паўтараў і яго, А.Моркаўку. У рэшце рэшт, гэта быў зладжаны хор, у якім голас асобнага выканаўцы няшмат значыць ды і не павінен вылучацца, інакш страцяцца зладжанасць і цэласнасць успрымання. Таму першыя вершы А. Моркаўкі – гэта і яго творы, і не яго. Для прыкладу, адзін з вершаў, пазначаны 1922 годам, а згаданы год і стаў пачаткам творчай працы паэта:

*Я не маю роскашы чырвонцаў,*
*Не заўсёды нават маю медзь,*
*Не ўладар я залатога сонца,*
*Каб цябе, мой край, агнём сагрэць.*

*Але маю ў сэрцы звоны веча,*
*Але маю пчолак-песень рой,*

*Што падслухаў у калядны вечар,*
*Што збіраў я роснаю зарой.*

*Ды і гэта я аддам балотам,*
*Ды і гэта я пушчу ў аўсы;*
*Хай паслухае вясковая галота,*
*Аб чым звоніць яе брат і сын.*

Стаў у канцы твора прозвішча каго-небудзь іншага (можна Станіслава Шушкевіча, можна Валерыя Маракова, нават Петруся Броўкі, Пятра Глебкі) — і недасведчаны чытач падману не заўважыць і не адчуе. Верш па сваіх мастацкіх вартасцях "прыстойны" і асаблівых нараканняў не выклікае. І ў той жа час, ён нейкі безаблічны. Найперш з-за гэтай сваёй правільнасці.

У ранніх вершах А.Моркаўкі адчувальныя тыя штампы, якія ўвогуле спадарожнічалі паэзіі 20-х гадоў. Але ж тымі гадамі датаваны і верш А. Моркаўкі "Я жыў..." Напісаны ён у 1925-м, а адчуванне такое, што пазначаны сённяшнім днём. Настолькі ў творы прысутнічае маштабнасць думкі, гэтак моцна сучаснасць знітавана з даўнасцю, той прошласцю, што адносіцца яшчэ да дагістарычных часоў. І, што самае галоўнае, лірычны герой – гэта і сам паэт, які жыве і ў тым даўнім часе. Праўда, наконт гэтага ў Рыгора Бярозкіна было іншае меркаванне: "У Моркаўкі той самы Адам звяртаецца да нас ад першай асобы". Аднак, па-мойму, сцвярджаць падобным чынам — значыць, звужаць аўтарскую задуму. "Прысутнасць" лірычнага героя ў дагістарычным часе – гэта лішні доказ, наколькі ў жыцці чалавецтва ўсё пераплецена і наколькі глыбінная сутнасць самога быцця, а кожны лёс – гэта і маленькае звяно ў ланцугу бясконцасці, а таму ён не можа не адчуваць сваёй еднасці з тым (і з тымі!), што было і хто калісь:

*Мільёны год таму назад я жыў...*
*Яшчэ зямля, ад сонца адарваўшыся,*
*У згоду лёсу астывала,*
*Як след на попеле мой вырысы лажыў,*
*І зорка ў сэрцы начавала...*

Міжволі ўспамінаеш куляшоўскае: "Мільёны лёсаў змешаны ў маім..." Але А.Куляшоў – гэта сучасная паэзія, абсягі якой настолькі пашырыліся, аб чым і падумаць не маглі паэты ў 20-я гады. Не кажучы пра чытачоў. А. Моркаўка ж, як бачым, свой час абганяў. Нават не на шмат гадоў, а на некалькі дзесяцігоддзяў. Падобнае даецца нямногім. І такой чуйнасцю наўрад ці маглі пахваліцца асобныя з творцаў, якія пазней былі ўдастоены розных званняў.

Паэзію А. Моркаўкі любілі Янка Купала, Цішка Гартны... Відаць, падабаўся ім і верш "Срэбнай казкай сад..." Не мог не падабацца, бо напісаны прафесійна, з тонкім лірызмам, з тым адчуваннем слова, калі пры ашчадным выкарыстанні вобразна-выяўленчых сродкаў можна сказаць вельмі шмат. Нават аглядаючы сёння ўсю творчасць паэта, можна смела запэўніць, што гэта адзін з лепшых яго твораў. А пісаўся ж ён А. Моркаўкам у дваццацівасьмігадовым узросце:

*Срэбнай казкай сад у снежні стыне,*
*Дрэвы шэпчуць у глыбокім сне.*
*Грузка шэрань лапамі сваімі*
*Звісла ў снег.*

*Кволым шклом абложаны галінкі, –*
*У палях закутыя вятры...*
*Сны пра сонца, пра снапы,*
*Дажынкі,*
*Вецер, вецер,*
*Не сатры!*

Тонка адчуты і перададзены настрой чалавека ў зімовую пару. А яшчэ, паяднанасць лірычнага героя з усёй прыродай. Настолькі трывалая, такая асязальная, што немагчыма цалкам аддзяліць іх, яны дапаўняюць адзін аднаго:

*Сніцца дрэвам...*
*А мо' сэрцу сніцца*
*Строма жыцця, дзён інакшых даль,*

*Сонца поўдня, васількі у жыце*
*І зямля ў садах.*

“Сніцца дрэвам...// А мо сэрцу сніцца...” – гэтая няпэўнасць вельмі да месца. У падобнай, кажучы словамі Р. Бярозкіна, “нявысветленасці (сад альбо сэрца?) — уся сутнасць верша, ягоны “сакрэт”, які хвалюе і сёння”. Разам з тым нельга не заўважыць, што і той жа Р. Бярозкін, гаворачы пра творчасць А. Моркаўкі (у артыкуле-прадмове “Ён быў сярод першых” да кнігі ў серыі “Бібліятэка беларускай паэзіі”), на жаль, не мог адысці ад звыклых патрабаванняў, якія крытыка (адначасова чытай і так: прадстаўнікі афіцыйнай ідэалогіі) прад’яўляла творцам на працягу не аднаго дзесяцігоддзя: “Шкада, вядома, што, пераадольваючы абстрактнасць першых маладнякоўскіх твораў, Моркаўка амаль занядбаў непасрэдна грамадскую тэму, выключыўся з яе”. Праўда, разумеючы беспадстаўнасць падобных папрокаў, разумеючы, што А. Моркаўка, па складу свайго таленту, — найперш лірык, Р. Бярозкін мусіў зрабіць удакладненне, прытым істотнае: “Згодзімся, аднак, што чалавек, які ўмее разгадаць і сны зімовага саду аб сонцы, аб волі і гэтак жа шчыра радуецца прыходу друга (Р. Бярозкін меў на ўвазе такія радкі А. Моркаўкі: “Стукні ў дзверы, ціха стукні ў дзверы,// І табе, як сонцу, буду рад...” – А.М.), – па-свойму, вельмі перспектыўны чалавек з пункту гледжання тэндэнцый рэвалюцыйнага часу і яго гуманістычнай маралі”.

Аднак перспектыўнасць гэтая — з агледзін 70-х гадоў. Тады, у 20-я, яе не заўважалі. Дый убачыць не маглі. Прычына зразумелая: у літаратуры былі іншыя творчыя арыенціры. Але тое, чаго не заўважалі іншыя, адчуваў сам А. Моркаўка. Ён разумеў, што яго “ціхая” лірыка гучыць не ва унісон “палітычнаму трубадурству”, таму і мусіў адысці ад паэзіі. Амаль дзесяць гадоў, па сутнасці, нічога не пісаў. А калі штосьці і клалася на паперу, дык не выходзіла за межы той традыцыйнасці, якая не вылучаецца не толькі знешняй, але і ўнутранай навізной.

Яго вершы перыяду акупацыі — не ваенныя творы, а

антываенныя. У тым сэнсе, што паэт не ўслаўляе мужнасць народа, які змагаўся з фашызмам, а паказвае пакуты гэтага народа. А канкрэтней – пакуты не як фізічны стан, а як стан душы. Гэтым ён, безумоўна, розніцца ад іншых творцаў, хто браўся тады за асэнсаванне трагізму краіны, таго ж народа. Розніцца нават ад Сяргея Дзяргая, які, як вядома, апынуўся ў падобных абставінах – Сяргей Сцяпанавіч таксама з'яўляўся падпольшчыкам, толькі ў Гомелі. Яго лепшыя вершы гэтага часу "Акупацыя", "Патруль", "Трое ўначы" – спасціжэнне самой сутнасці таго, што адбывалася, але адначасова і нібы анатамічны зрэз зараджэння супраціўлення фашызму.

Аркадзь жа Моркаўка ішоў іншым шляхам. Яго тагачасная паэзія – гэта паэзія філасофскага кшталту, роздум аўтара ў якой не абмяжоўваецца зямнымі праблемамі, а сягае ў паднябессе, да касмічных высяў. На тое, што здарылася, А. Моркаўка глядзіць як на з'яву глабальнай сутнасці. А бачыць у гэтым нейкую наканаванасць, фатальную непазбежнасць. Пацвярджэнне таму — верш "Вока суровае...", што напісаўся 7 кастрычніка 1941 года. І хоць яна ў творы не згадваецца, сумнення няма, верш гэты менавіта пра Беларусь у час найсуровейшых выпрабаванняў:

*Вока суровае поглядам жорсткім*
*Сочыць за намі аднекуль.*
*Змоўкніце, людзі, абшары і вёскі,*
*Станьце, крыніцы і рэкі!*

*Станьце, спыніцеся... сёння між намі*
*Нехта нябачаны блудзіць,*
*Сведчыць магіламі, кажа званамі:*
*Выйсця няма і не будзе.*
*Боль над зямлёю ходзіць, як хмары,*
*Болем напружаны жылкі.*
*Што ж, яшчэ будуць жывыя ахвяры –*
*Ёсць жа чужыя памылкі.*

Шматзначна гучыць вось гэтае: "Ёсць жа чужыя

памылкі". Што меў на ўвазе А. Моркаўка, пішучы такое, можна толькі здагадвацца. А калі прыняць пад увагу, што нейкія дзесяць гадоў у паэзіі маўчаў, "замкнуўся" ў сабе, дык, відаць, многае. У тым ліку і тое, што было звязана са сталінізмам. Думаць мог і думаў. Сказаць хацеў, але не мог. Нават для сябе, нават без прапановы ў друк. А каб надрукавацца, трэба было трымацца іншай арыентацыі. Супрацоўніцтва з выданнямі, якія выдавалі на беларускай мове немцы, заставалася не для яго, падпольшчыка...

Для сябе пісалася і з усведамленнем, што наўрад ці ўдасца гэта надрукаваць пасля вызвалення ад фашысцкай навалы. Яно не ўкладвалася ў рамкі паэзіі, якая клікала на бой. Бо вельмі было асабістае. У той жа час, здзіўляючай абагульняючай сілы. А. Моркаўка, адштурхоўваючыся ад перажытага, глядзеў і на ўвесь шлях, пройдзены беларускім народам, на ўсю яго шматпакутную гісторыю. Пры гэтым карыстаўся і фальклорнымі матывамі, што яшчэ больш узмацняла відавочнасць рэчаіснасці і прошласці:

*Горда па зорнаму шляху*
*Лебедзі ноччу плылі.*
*Іх палічылі з-за гмахаў*
*Рукі апаленых ліп.*

*Лічачы птахаў, угору*
*Крыўду узнеслі да хмар.*
*Падала зорамі гора –*
*Наш гістарычны ўладар.*
*("Горда па зорнаму шляху...")*

Наўрад ці знойдзеш яшчэ ў каго-небудзь з паэтаў ( і нават у сучасных!) нешта падобнае: "...гора – наш гістарычны ўладар"! І цяжка знайсці гэткае ўсведамленне асабістай маральнай віны, як у вершы А. Моркаўкі "Багіня – цудоўная Муза...":

*Ой сумна!.. Балюча мне й сумна...*
*як быццам і я вінаваты,*

*Што сціхнула рэчка у лесе, што Муза у полі маўчыць...*
*Багіня, ўваскросні!.. прыйдзі ў нашы хмурныя хаты,*
*Ружоваю раніцай стань уначы!*

А "цудоўная Муза" не пакідала яго ні на міг. Нават у самыя цяжкія моманты, калі наперадзе было яшчэ столькі няпэўнасці, паэт, бачачы смерць і слёзы, праводзячы час за варштатам, робячы запалы для мін і снарадаў, не мог забыць аб цудадзейнай сіле хараства, якое жыло ў яго душы, жывіла яе жыватворнымі сокамі.

Талент А.Моркаўкі да апошняга дня не растраціў сваіх магчымасцяў і хоць раскрываўся паступова, няспешна, вершы атрымліваліся арыгінальныя, па-майстэрску напісаныя. І надзіва сучасныя. Не ў апошнюю чаргу — сваёй "касмічнасцю", як "Энергія", дзе А. Моркаўку ўдалося спасцігнуць саму сутнасць усяго жывога ў свеце і Сусвеце, адчуць заканамернасць працэсаў, што адбываюцца, а чалавека і чалавецтва ўбачыць часцінкай несупынных працэсаў, якія праходзяць па адным ім вядомых законах:

*І зорны рой, і кожны атам,*
*І плынь няспынная гадзін –*
*Усё ў бясконцасці узнята*
*Сляпою воляй дзікіх сіл.*

— — — — — — — — — — — — — —

*Закон адзіны і няўхільны:*
*Усім – няспынны творчы рух.*
*Таму на камені і гліне*
*Ляжыць і наш агністы круг.*

Нялёгка пісалася А.Моркаўку, няпроста жылося.

Яго паэзія вартая ўвагі і павагі да сябе. Той, хто ўпершыню судакранаецца з ёй, несумненна, перажыве радасныя, шчаслівыя хвіліны. Той жа, хто паспеў палюбіць яе, стаў духоўна багацейшы.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# “СОНЦАМ АДЗНАЧЫЦЬ СВОЙ КРУГ”, або МАЁ АДКРЫЦЦЁ ПАЭТА

Памятаю, што імя, дакладней — само прозвішча Моркаўка, мяне здзівіла. А было гэта ў аспіранцкія гады, калі я чытаў нейкі артыкул, у якім паэт згадваўся ў абойме імёнаў маладнякоўцаў. Падалося, Моркаўка — гэта не сапраўднае прозвішча, а чыйсьці псеўданім, як, скажам, псеўданімы Колас, Верас, Васілёк... Хто ж ён, Аркадзь Моркаўка?

Скажу шчыра: я не паспяшаў пазнаёміцца з кніжкамі і творамі А. Моркаўкі, таму яго паэзія заставалася для мяне terra incognita. Тады нават не думаў, што калі-небудзь яго лірычнае слова так моцна ўсхвалюе і запалоніць мяне. Першае знаёмства з творчасцю паэта адбылося ў 1993 г., калі я набыў чарговы том “Анталогіі беларускай паэзіі” і прачытаў яго восем вершаў. Уразіў вобраз укрыжаванай Беларусі ў творы “Ці вершы складаю, ці поле ару...”, пад якім быў пазначаны год напісання: 1942. Нешта я не мог узгадаць падобнай вобразатворчасці ваеннага часу:

*Распнулі цябе на крыжы, Беларусь,*
*Цвікамі скалечылі рукі...*
*Ці ж бачыш ты з крыжа*
*на ўсходзе зару, —*
*Канец гэтай вечнае мукі?..*

Біблейска-хрысціянскія вобразы плашчаніцы, крыжа, матыў укрыжавання тут выступаюць сімваламі пакутаў, надаюць вершу глыбока трагедыйны характар гучання. Беларуская паэзія ваеннага часу запомнілася са школьных гадоў як лірыка палкіх заклікаў,

лозунгаў, героіка-вызваленчага пафасу. З гэтага і іншых вершаў А. Моркаўкі перада мной вымалёўваўся вобраз спакутаванай асобы — чалавека, які зведаў, што такое акупацыя, і ўнутрана не прымаў нявольніцтва, паэта, які прызнаваўся, што не можа так далей "жыць у няпэўнасці чорнай". Беларусь — рана і трывога паэтавай душы, таму ён знаходзіўся ў абладзе дэпрэсіўнага смутку, выказваў свой чалавечы боль, імкнучыся да псіхалагічна-ўражальнай вобразнай сімволікі: "Тройчы на дзіды я падаю ніцма, // Тройчы сцякаю крывёю" ("Рукі свае прасціраю ўдалеч..."). Некалі ў сярэдзіне 20-х герой паэзіі У. Дубоўкі, звяртаючыся да Беларусі, гаварыў: "Пялёсткамі тваімі стану, // На дзіды сэрца накалю..." ("О Беларусь, мая шыпшына"). Вобразная пераклічка тут узнікае міжволі: у вершы А. Моркаўкі сон пра дзіды яшчэ больш драматычна раскрывае ўнутраны стан чалавека. У А. Моркаўкі трагедыя вайны вынікае з пачуццяў-перажыванняў асобнага чалавека, яна – гэта глыбока асабісты боль, вялікая ўнутраная бяда, неадлучная ад гора-бяды Беларусі. Гэтым і кранальная яго паэзія ваеннай пары. Самарэфлексія ідзе з самых глыбіняў параненага сэрца ў вершы "Пазалочаны кволы ліст..." Твор зачапіў мяне сваім пранізлівым лірызмам асабліва моцна:

*Залілася ты ўся слязьмі,*
*У пакуце сваёй святая.*
*Дык хоць сэрца маё вазьмі,*
*Мая матухна залатая!*

Ужо пасля гэтага верша, напісанага ў лірыка-алегарычным ключы, я зажадаў як мага болей прачытаць твораў паэта, уведаць пра ягоны лёс. Так неўзабаве перада мной на бібліятэчны стол леглі зборнікі А. Моркаўкі "Дым жыцця" (1928), "Гады, як ветразі" (1959) і "Вершы" (1973). Для сябе я адкрыў цудоўнага паэта-лірыка, найперш лірыка прыроды, а таксама паэта алегарычна-філасофскага складу мыслення. Між тым згадаў, што ў кнізе Р. Бярозкіна "Паэзія — маё жыццё"(1989) сустракаў артыкул пра А. Моркаўку "З пакалення першых", які ў болей шырокім выглядзе паўтарае прадмову крытыка да зборніка вершаў. Артыкул прачытаў, але пра асобу А. Моркаўкі даведаўся не так і багата. Сёе-тое пазней, ужо зусім нядаўна,

пачуў ад даследчыка літаратуры М. Мішчанчука, які, дарэчы, пісаў пра А. Моркаўку. І вось часопіс "Полымя" ў 1998 годзе (№4) змясціў дзве паэмы і слова дачкі паэта, Л. Пронінай. Яе згадкі запоўнілі той прабел, які тычыўся майго няведання асобных момантаў біяграфіі А. Моркаўкі, пашырылі ўяўленне пра яго як творцу і чалавека. Даведаўшыся пра перыпетыі пасляваеннага лёсу паэта і ягонай дачкі, міжволі нагарнулася сляза (у КДБ Моркаўку катавалі пытаннем: "Калі ты быў за савецкую ўладу, то чаму застаўся жывы?", ён цяжка перажываў гэта абвінавачванне, а восенню 1944 г. яго ледзь не застрэліў самадур-начальнік, але дома ён пра гэта не абмовіўся і словам, насіў боль у сабе).

Мяркую, што распавядаць пра мастацкую эвалюцыю паэта ў маю задачу не ўваходзіць, бо перш за ўсё хочацца сказаць пра тое, што найбольш моцна адгукнулася ў душы. Гэта, перадусім, створаныя мастаком слова вобразна-маляўнічыя выявы прыроды. Пішучы пра А. Моркаўку, Р. Бярозкін, між іншым, адзначае, што "пейзаж ёсць пейзаж, і свет яго абмежаваны". Ды адразу як бы і запярэчыў сабе: "Але праз пейзаж з намі размаўляе душа чалавека". А ці не ў гэтым асновасутнаснае ў паэзіі — выказваць сябе, "меркаваць пра свет па сабе" (М. Прышвін), імкнуцца крануць суразмоўцу-чытача душэўнай непасрэднасцю, шчырай даверлівасцю і, урэшце, прымусіць прамоўленае з вуснаў паэта адчуць як штосьці асабістае і блізкае? А. Моркаўка — гэта той рэдкі і тонкі паэт-пейзажыст, які знаходзіў у прыродзе адбітак свайго ўнутранага "я". У сне зімовага саду і бяздонным зорным небе, у вечаровым зацішку і спевах ветру ён з чуйнасцю адшукваў лірычную паэзію споведзі, медытатыўных адчуванняў і філасофскіх аналогій. У многіх выпадках ён адметна сузіраў і цудоўна выяўляў прыгажосць прыроды, даводзіў, што "шчасце, хто можа бачыць красу", "шчасце, хто можа жыць для красы" (верш "Лёгкія крылы..."). А. Моркаўка з тых нашых беларускіх творцаў (М. Багдановіч, У. Дубоўка, У. Жылка, Н. Арсеннева), для каго краса — высокі і глыбокі сэнс існавання на зямлі. Магчыма, ён як паэт нярэдка ўцякаў ад рэальнасці жыцця, якое было няшчадным да яго, адчуваў тую дысгарманічнасць свету, пра якую рускі паэт і пісьменнік сказаў так: "Земля — вертеп обмана, лжи и зла. // Живите красотою

неизменной" (І. Бунін). Паэт А. Моркаўка ішоў да прыроды, давяраў ёй самае запаветнае, радаснае і балюча-шчымлівае, знаходзіў у яе вечнай красе духоўную падтрымку. Ён любіў стан цішыні-одуму:

*У поўдзень зманлівая ціша*
*Нячутна пойдзе па траве,*
*Таму міжвольна зноўку пішаш*
*Пейзажны і звычайны верш.*

**("Ваду па каплі выціскае...")**

Асабліва блізкая яму была зорна-начная цішыня, бо ў гэты час "зоры і сумленне тваіх крокаў не асудзяць" ("Ночы"). Цішыня — гэта як запаветны востраў і рай для паэта, ягоныя праўда і боль, гэта стан, калі надзвычай востра адчуваеш, кажучы словамі К. Станіслаўскага, што "адбываецца ў душы... свету". Зрэшты, ці не таму вядомая паэтка Г. Ахматава сказала наступнае: "Налево беру и направо // И даже без чувства вины, // Немного у жизни лукавой //И все — у ночной тишины" ("Тайны ремесла"). Ёсць у паэта верш з назвай "Ціша", у якім ён лапідарнымі штрыхамі малюе начны краявід: "Ноч. Урачыстая ціша. // Глыб і міжзорны пыл. // Толькі зямля ледзьве дыша // Гарачынёй на снапы". Мы адчуваем, як цішыня балюча кратае сэрца паэта. А пачувалася паэту нялёгка: "Чым жа ад цішы сягоння // шчыльна накрыць галаву?" А. Моркаўка пісаў з лірычнай самапаглыбленасцю, выказваючы і свой асабісты сум, сваю тугу, сумненні, роздумныя запытанні, імкнуўся затрымаць і перадаць у вершы цудоўна-непаўторныя імгненні жыцця душы пасярод прыроды. І, Божа мой, якім блізкім, людскім, інтымна-даверлівым, душэўна праўдзівым здаецца паэт. Усё гэта асабліва добра адчуваеш, чытаючы яго лірыку 40—50-х гг., дарэчы, лірыку таго часу, калі — трэба заўважыць — у нашай паэзіі чулася столькі грукату, фальшывай рыторыкі і патэтыкі.

Пейзаж зрабіўся ў А. Моркаўкі "камертонам" эмацыянальна-псіхалагічнага самавыяўлення. Вось як ён успрымае і перадае сваё адчуванне свету, калі ў прыродзе пануе "незвычайная цішыня":

*Жыць бы тысячы-тысячы дзён,*
*Слухаць поле і шум лясны...*
*І на схоне пачуць ціхі звон*
*Журавоў залатое вясны.*

Гэта радкі з верша “Неабдымная шыр палёў...”, якi напісаны жыццялюбна і светла. А. Моркаўка ствараў пейзажныя вершы, здавалася б, з выгляду простыя, але ў той жа час яны і незвычайныя, бо ў іх гучыць жывы рытм паэтавага сэрца, тут нямала сакавітай метафорыкі, яркіх фарбаў: “Грузка шэрань лапамі сваімі // Звісла ў снег”; “Ваду па каплі выціскае // З ліловай лужыны зіма. // І плот зламаны зубы скаліць...”; “Сінія крылы — // Тонкі сацін, — // Вытканы ў поўдзень // З плыні гадзін” і інш. Сярод выдатных прыродаапісанняў — пейзажы “І ў зацішшы, кажуць, ёсць навалы...”, “Пачынаецца жніўны сказ...”, “Веснавому ветру”, “Лістапад” і некаторыя іншыя. У гэтых творах выяўляецца ціхая замілаванасць “кругавідамі хараства”, чуйная паяднанасць “я” чалавека і прыроды.

І яшчэ адна адметнасць лірыкі А. Моркаўкі — гэта пранікнёная музычнасць слова. Паэт імкнуўся да эмацыянальна выразнай і інтанацыйна-гукавой маляўнічасці радка. Яго крэдам было, можна сказаць, наступнае прызнанне: “Злажы пявучыя радкі // Ў лірычны верш, як вечар, просты” (“Калі лірычны вецярок...”). Музыка яго вершаў нягучная, у радках чуюцца “суголоссі... мілагучнай песні...” У паэтавых творах “снег пявучы”, “ліст сумнай музыкай падае”, “б’юць галінак лёгкія цымбалы”... Ён імкнецца зафіксаваць першаснае імгненне нейкай прыгожай, дзіўнай праявы свету, і найперш — праз вычуванне гукаў прыроды. Музыка прыроды — гэта гукапіс паэтавай душы, яе настрою, адчуванняў. У значнай ступені А. Моркаўка — гэта пейзажыст імпрэсіяністычнай манеры пісьма.

Значнае месца ў яго лірыцы адыгрывае паэтыка вобразаў-сімвалаў і алегорый. У творчасці ваеннага часу, напрыклад, прыкметнае сэнсава-сімвалічнае напаўненне набываюць вобразы крыжа і груганоў. Ён — паэт сонца, любіць залаты колер, невыпадкова таму жадае “сонцам адзначыць свой круг” (“Вецер свавольны ў трысці...”). Яго герой, з аднаго боку, — сапраўдны

 





сонцалюб, які вітае золак, раніцу, "жыватворчае сонца". Беларусь ён называе "сонцам залатым". А з другога, ён любіць часіну, калі "разгорнуцца, бы кніга, прад табою зоры ў небе ў сваёй вялікай праўдзе, у мігценні залатым" ("Ночы"). Родны край бачыцца паэту зорным. Ці няма тут супярэчнасці? Думаецца, што не: вобразы касмічнага плану — сонца і зоры — увасабленне нечага ідэальнага, непераходна-вечнага, праўдзівага, роднага і ў той жа час агульначалавечага: "— Дзе ісціна? — пытаю я, // Збянтэжаны, у зор высокіх" (верш "— Дзе ісціна? — пытаю я..."). Згаданыя вобразы ў паэзіі А. Моркаўкі такія ж рамантычна ўзвышаныя і сэнсава значныя, як і ў Я. Купалы. У Моркаўкі зоры не халодныя, яны ззяюць залатым мігценнем, праходзяць залатыя кругі. Сонца — сімвал жыцця — у ваеннай лірыцы набывае трагедыйнае гучанне: "Затанула сонца у крыві..." ("Ой, памёр наш малады араты..."). З сонцам і зорамі ў паэта звязана канцэпцыя непарушнасці жыцця, будучыні і, калі браць шырэй, сусвету: "Дык жа вып'ем за зорную ноч // І за сонечны дзень залаты" ("Дык сядайце, хлопцы, на кут..."). Ад усходу сонца і да зорнага вечара і ночы — адвечны круг існавання на гэтай зямлі беларуса, чалавека-працаўніка, што паэт выдатна раскрывае ў вершы "Прыказала сонца дажынаць...", у якім, дарэчы, гучаць традыцыйныя фальклорныя матывы. Між тым, і ў рэальным жыцці паэта вабіў зорны космас, пра што згадвае ягоная дачка: "Мы разглядалі зорнае неба, ён паказваў мне Вялікую Мядзведзіцу, Паўночную зорку, расказваў у даступнай форме пра ўзаемасувязі ў сусвеце, пра паўшар'і і кантыненты, пра зямны рух, пра Каперніка..."

Гледзячы ў зорны сусвет, паэт не мог не задумвацца над тым, наколькі недасканалы і грэшны гэты зямны свет, куды ідзе грамадства. Вось, напрыклад, верш "Золак", напісаны ў 1930 г., заканчваецца радкамі, якія ўспрымаюцца неадназначна, бо ў іх — прадчуванне чагосьці драматычнага:

*Край наш жыве,*
*Край не загінуў!*
*Дзень будзе сёння прыгожы...*
*Хто ж не кахае маці-краіну?*



 

*Рукі хто зложыць?*
*Рукі хто зложыць?*

У лірыка-філасофскай паэме "Разважанні пра зоры, сумленне і іншыя цьмяныя рэчы, непатрэбныя ў жыцці" ён сутыкнуў касмічнае і зямное, высокае і нізкае, сказаў пра ўсю жахлівасць і пачварнасць людскіх нораваў, пра маральную дэградацыю грамадства і трагічнае пачуванне ў асяроддзі зла і маны чалавека, які мусіць пераносіць "нялюдскі свой лёс". Твор гэты нязвычны па сваім гучанні і змесце для беларускай паэзіі савецкага часу, ён сведчыць пра неардынарны погляд паэта на розныя рэчы. А. Моркаўка гаварыў, што дэвальвуюцца вечныя каштоўнасці, здолеў выказаць асабіста зведаны боль і крыўды. А гэта аказалася і бязлітаснай праўдай пра чалавека і грамадства таго даваеннага і ваеннага часу, на жаль, горкай праўдай. Радкі паэта гнеўныя, нават знішчальна суровыя:

*Звяр'ё разыгралася: з мордаў звяр'я*
*Упалі звычайныя маскі.*
*Куды ні зірнеш, дык усюды — свіння...*
*І кожны зубамі заляскаў.*

*Мая вам пашана, падлюгі і шваль!*
*Глядзець на вас прыкра і нудзіць!*
*Нядаўна з вас кожныману вышываў,*
*Маною вылазіў у людзі!*

Паэма А. Моркаўкі — скарга патаптанай душы, выбух і суд сумлення, гэта пратэст супраць таго, што народ "цягне прадвечны ланцуг і рабства прадвечнага знакі", гэта слова ў абарону духоўнай свабоды, чалавечнасці. Паэтычныя радкі тут не проста зарыфмаваныя, а выпакутаваныя, выдыхнутыя з душэўным хваляваннем і ўзрушанасцю.

А. Моркаўка — паэт светлага і мужнага таленту. Ён наперакор суровым вятрам часу застаўся адданым сынам сваёй сонечна-зорнай Беларусі.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

*Гісторыя адкрыцця Аркадзя Моркаўкі*

**1985 год.** Тады Ленінская, цяпер – Нацыянальная бібліятэка. Чытальная зала. Працую над вучэбным дапаможнікам для студэнтаў-філолагаў пра паэзію 20-х гадоў XX стагоддзя. Адкрываю постаці забытыя ці слаба адкрытыя чытачу. Міхась Багун (Блошкін). Прачытаў пра яго ў кніжцы Станіслава Шушкевіча-старэйшага "Вяртанне ў маладосць". Як ён верыў у святасць і недакранальнасць У.І. Леніна і з-за гэтай веры вокамгненна загінуў у высылцы, падчас вандроўкі па сцюдзёнай сібірскай рацэ разам з іншымі спецперасяленцамі. Неразрэзаныя старонкі кніжкі вершаў Змітрака Віталіна. Бяру з павагай і верай у новыя магчымыя адкрыцці для сябе і Чаротаву "Завіруху" (многія элегічныя, сумна-трагедыйныя вершы потым проста не перадрукоўваліся, бо выломваліся з агульнай аптымістычнай канцэпцыі творчасці песняра-бунтара), і Пушчаву танклявую кніжачку "Раніца рыкае". І, нарэшце, трымаю ў руках тоненькую кніжачку, якую можна змясціць у верхнюю кішэньку пінжака, – "Дым жыцця". Засяроджваюся на назве – філасофскай, асацыятыўнай, блізкай да вядомага грыбаедаўскага "І дым Айчыны нам салодкі і прыемны". Далей – болей: верш "Я жыў" запамінаецца грандыёзным, малавядомым тагачаснай беларускай лірыцы паваротам праблемы апісання чалавечага лёсу на Зямлі ў абстрактна-філасофскі план, уражвае імкненнем аўтара спасцігнуць

"...ТЫ ХОЧАШ ІСЦІНЫ? – КРАНІ ЖЫВОЙ РУКОЙ ЖЫВЫЯ РАНЫ..."

дыялектыку жыцця ў цэлым, паказаць паступовае нараджэнне чалавечай свядомасці, сам працэсператварэння чалавека з раба абставінаў, прыроды ў гаспадара над імі. Менавіта тады падумалася: "Божа, гэтак мысліць будуць пазней наш Куляшоў з яго формулай "На паўмільярдным кіламетры //Паміж наступным і былым"; рускі паэт Мартынаў, які закліча чалавека жыць не толькі ў цяперашнім часе, а ўявіць сябе "идущим// По границе прошлого с грядущим"; Межэлайціс, які выведзе чалавека ў Космас, надзеліць яго функцыямі рэгуліроўшчыка жыццёвай каруселі (формула ўсё таго ж А. Куляшова) у маштабах Сусвету. Ды ўсё гэта будзе значна пазней, у пачатку шасцідзесятых гадоў XX стагоддзя. Аркадзь Моркаўка апярэдзіў свой час па многіх пазіцыях: па здольнасці не толькі захапляцца знешнімі прыкметамі чалавечага жыцця, але і даваць ім глыбокую, маштабную ацэнку; паводле ўмення спалучаць розныя часавыя вымярэнні і тым самым жыць не толькі ў межах "малога", але і "вялікага" (тэрміны М. Бахціна) часу; па аналітыцы, асацыятыўнасці мыслення, якая была "невядомай зямлёй" для маладнякоўцаў; па глыбіні гуманістычнага пафасу, што выключаў, поўнасцю ці часткова, агульнапубліцыстычную канстатацыю абстрактных лозунгаў. І па многім іншым.

І сёння яшчэ ўражвае напісаны ў 1925 годзе верш "Сфінкс". Паэт спрабуе даць адказ на пытанне пра вечнае і часовае, параўнаць тагачасны дзень з днём мінулым. Аснову верша складае роздум аўтара, заключаны ў пытаннях: чаму дасюль нерухома і застыгла стаіць Сфінкс і раўнадушна пазірае на ўсё, што робіцца навокал?; няўжо ён непадуладны часу?; а калі так, дык чаму падобнае адбылося? Перш чым адказаць на гэтыя пытанні хоць бы прыблізна, паэт намаляваў цудоўныя, пластычныя, ледзь не застыглыя карціны жыцця, якое ўсё ж павольна рухаецца, цячэ, плыве, роіцца навокал нерухомай статуі. Малюнкі атрымаліся паўднёвыя, але не настолькі, каб у чытача стварылася ўражанне іх абсалютнай незвычайнасці і экзатычнасці. Яны блізкія і зразумелыя нам, жывым людзям, сведкам усяго, што робіцца (і рабілася многа стагоддзяў назад) на зямлі:

*Вось караван вярблюджы,*
*Бы карабель, сярод маўклівых хваль пяску,*
*Ідзе-плыве туды, дзе служыць*
*Яму ратункам цень у пальмавым ляску.*

Сутыкнуўшы вечнае і часовае, нерухомае, застыглае і зменлівае, абвастрыўшы і чытацкае —"Дык чаму ж усё-такі такое здарылася? Чым заслужыла гэтая скамянелая постаць права быць маўклівым суддзёй нашых дзеянняў і ўчынкаў?" – паэт выводзіць апавяданне на нечаканую выснову: "Ці не мастак умелы ў мур умазаў твой рабоў усіх праклён?!" Але вывад гэты нечаканы толькі на першы погляд.

У асобе загадкавага Сфінкса, у яго скамянелай, на першы погляд, неўміручасці і ўсёбачнасці — неўміручасць тых, хто працуе, а не жывіцца з чужой працы. Пазней М. Танк (паэма "Люцыян Таполя"), Дз. Кедрын ("Зодчие") разгорнуць формулу Аркадзя Моркаўкі ў значныя ліра-эпічныя палотны, паглыбяць раскрыццё праблемы вечнасці ў звязцы з праблемай працы ў адметных ліра-эпічных палотнах. Аднак пастаноўкай толькі адзначанай праблемы не абмяжоўваецца мастак. Ідэйны пафас верша "Сфінкс" значна шырэйшы і глыбейшы. Ён — у сцвярджэнні неўміручасці дзеяў чалавечых увогуле, у спачуванні тым, хто пазбаўлены права называцца людзьмі (безыменныя рабы стварылі прыгажосць на многія стагоддзі). Урэшце, пафас твора зводзіцца і да закліку-звароту да чалавецтва: не страчваць сваёй годнасці, шанаваць, працягваць і ўвекавечваць прыгажосць, дзеі сваіх рук. Вывады верша – шматмерныя, неаднязначныя. Рыторыка адсутнічае. Эмацыянальна, страсна і ў той жа час разважліва, доказна абараняецца ідэя сапраўдных каштоўнасцяў як выніку дзейнасці чалавецтва.

Чытаючы верш за вершам з тоненькай кніжачкі, я пераконваўся, што менавіта Моркаўка ў 20-я гады, як і Звонак у такіх вершах, як "Васількі", як і Чарот у элегіі "На шляху адраджэння", як Дубоўка ў абсалютнай большасці твораў аб прыродзе, ішоў дарогай стварэння нягучнай, удумлівай, засяроджанай на вечных (а пераважная большасць іх – маральна-этычныя) праблемах жыцця прыроды і чалавека. Захацелася

больш даведацца пра паэта, які кінуў выклік тагачасным установкам "Маладняка", адмовіўся ад рыторыкі, хай сабе і гарантуючай поспех лідэра ў літаратурным руху. Што, дарэчы, і здарылася з Міхасём Чаротам. Чаго не пазбег, на жаль, у канцы 20-х гадоў неўміручы і светлы Янка Купала. Чаго саромеўся і з чым змагаўся (невыпадкова ж гадамі не браўся за лірыку) Якуб Колас. Менш значны, малавядомы, Моркаўка замаўчаў на ўсе трыццатыя гады. Выключыў сябе сам з літаратурнага працэсу. "Па якіх прычынах? Чаму?" — гэтыя пытанні не давалі мне спакою. Давялося звяртацца за дапамогай да родзічаў, да архіўных матэрыялаў.

***

Знаёмлюся з асабовай справай Аркадзя Моркаўкі ў Доме літаратара. Тонкая папка. У ёй дзве паперчыны: лаканічныя звесткі пра аўтара, заява дачкі, Пронінай Ларысы Аркадзьеўны, на перавыданне твораў бацькі. Выходжу на Ларысу Аркадзьеўну — настаўніцу гісторыі, рупную, інтэлігентную, добрую жанчыну. Знаходжу яе адрас – вуліца Сядых у Зялёным Лузе. Знаёмімся сем'ямі. Дзелімся думкамі пра літаратуру і з ёй, і з яе дачкой, унучкай пісьменніка – Качатковай Ірынай Львоўнай. І з праўнукамі Юрасём ды Кацярынай. Вялікая радасць – жывая, актыўная, дзейная, рухомая Ксенія Лаўрэнцьеўна – удава пісьменніка. За дзевяноста, а сама сябе глядзіць. Нават на сустрэчу ў цяперашні педуніверсітэт імя Максіма Танка дабралася тралейбусам, без дапамогі. Сустрэча была выдатная: равесніца-жонка, дачка, унучка, праўнучак – чатыры пакаленні сабраліся разам, каб расказаць і паслухаць пра жыццё і творчасць незвычайна сціплага чалавека, выдатнага паэта. З іх вуснаў студэнты-філолагі даведаліся, што Аркадзь Моркаўка быў у гады вайны падпольшчыкам, але пазней не карыстаўся ніякімі прывілеямі. Што так і не прынялі яго (пры такіх высокіх дасягненнях!) у Саюз пісьменнікаў Беларусі. Што ён ужо ў дваццатыя гады, пад уплывам успрымання дэфармацый у жыцці грамадства не да лепшага, выйшаў з радоў камуністычнай партыі (гэта было сказана з насцярогай). Што ў 30-я гады паэт многа пісаў, але нідзе не друкаваўся, і што ў самым пачатку вайны

ўсе рукапісы згарэлі. А гэта ж было б такое багацце, сведчанне нестандартнасці, арыгінальнасці мыслення выдатнага майстра! Ксенія Лаўрэнцьеўна многа гаварыла пра суровасць бацькі паэта, які адправіў у Мінск сына з неахвотай, хацеў, каб той працаваў на зямлі, а не стаў тэлеграфістам, а затым – інжынерам. Многа было расказана і ў неафіцыйных абставінах пазней. Пра негарманічныя адносіны, кажучы мякка, літаратара з кіраўнікамі Саюза пісьменнікаў, пра страшэнную хваробу страўніка, што звяла так рана ў магілу.Пасля ж сустрэчы лёгенькая, ценькая, з невялічкай кульбачкай у руцэ, Ксенія Лаўрэнцьеўна сама паднялася ў тралейбус. А было ёй гадоў блізка да ста. І вось цяпер яе няма. Няма светлага, да болю простага чалавека, усё жыццё якога прайшло хоць і ў горадзе, але ў нялёгкай працы і без матэрыяльных выгод.

Кніжку “Выбранае” рыхтаваў да друку вядомы крытык Рыгор Бярозкін. На словы пра ўключэнне ў яе трагедыйных зместам твораў перыяду Вялікай Айчыннай вайны таленавіты даследчык адказаў прыкладна так: “Час друкаваць гэтыя вершы яшчэ не прыйшоў. Трэба пачакаць”. Не прыйшоў. А былі ж гэта гады пасля “адлігі”. Не прыйшоў і пазней. У гады “перабудовы”. Колькі ў нас іх ужо было! Не паспеем хоць нешта больш-менш людскае пабудаваць, як адразу перабудоўваемся. Вершы і паэмы (а сярод іх і сатырычна-парадыйная пра сітуацыю, калі наваяўленага Тараса не пускаюць на Парнас ужо пры савецкім часе, і поўная непрыхаванага трагізму “Паэма пра зоры...” – такая блізкая па духу раманам Кузьмы Чорнага пра Вялікую Айчынную вайну як трагедыю касмічнага маштабу, Вялікае Спустошанне пад Млечным Шляхам) Аркадзя Моркаўкі не друкаваліся і наўрад ці надрукуюцца ў бліжэйшы час. У гэтых творах не вера ў перамогу над ворагам гучыць, а сусветны смутак пра разбурэнне гармоніі жыцця, і не толькі чалавечага, а прыроднага, натуральнага, спрадвечнага:

*За Радзімаю няшчаснай сочыць жудаснае вока,*
*Нехта жудасны над краем свае крыллі распасцёр.*

*І узнёсся цень пакуты у сусвет да зор далёкіх,*
*І расой крывавай палі слёзы матак і сясцёр.*

*А захопнік баль спраўляе, а захопнік нівы месіць...*
*Палюбі музыку стрэлаў прадвячорнай цішыні! –*
*І узойдуць ў небе зоры, і узойдзе ў небе месяц,*
*Каб убачыць наша гора з недасяжнай вышыні.*

Гэта радкі з верша 1942 года "На абшарах, папялішчах засяваюць жыта кулі..." Трагедыйнага па-сапраўднаму. Балючага, як нямногія творы Куляшова і Панчанкі, Танка і Броўкі. Падобнага на панчанкаўскі шэдэўр "Кожны з нас прыпасае Радзімы куток..." На невыказна горкі пасмяротны запавет Міколы Сурначова "У стоптаным жыце". На творы нямногіх іншых аўтараў, якія назіралі трагедыі як бы знутры, з самага эпіцэнтра падзей, перажывалі і асабістую драму, і драму ўкрыжаванай ворагам-чужынцам Радзімы. Хто прыме і сёння такую прасякнутую невымерным болем лірыку, якая не адпавядала нібыта настрою савецкага народа перыяду Вялікай Айчыннай вайны? А настрой жа гэты быў шматмерны: побач з нянавісцю гнездаваўся ў сэрцах жах (прыгадаем дзяргаеўскі твор "Акупацыя"), з радасцю – сум і смутак, з надзеяй — безнадзейнасць і ўпадніцтва. І ці паказвала яго *такім шматмерным і складаным* літаратура ваеннай пары? Вось у чым пытанне. Аркадзь Моркаўка, падобна аўтару раманаў "Млечны шлях" і "Вялікі дзень" Кузьме Чорнаму, паказаў глыбінную, бяздонную трагедыю народа, пакінутага на здзекі і гвалт іншаземцаў-захопнікаў, *бяда якога не была да канца зразумелая кіраўнікам сталінскага гатунку.* Народ часта аказваўся сам-насам са сваім вялікім горам, самастойна стараўся выжыць у экстрэмальных умовах. Пра гэта — у вершах Моркаўкі, у аповесцях Васіля Быкава, усіх без выключэння, напісаных пра суровы час суровых выпрабаванняў.

***

Здзіўляе ў творах Аркадзя Моркаўкі нестандартнасць, разняволенасць мыслення. Тая ўнутраная свабода, якая выклікае

да жыцця яркае, сінтэтычнае мысленне. З глыбокім падтэкстам. З пастаяннымі выхадамі на звышрэалістычнае мастацтва, арыгінальную асацыятыўную вобразнасць. За круг дазволенага тэарэтыкамі сацыялістычнага рэалізму. Паэт раз-пораз як бы вяртаецца да традыцый пачатку XX стагоддзя, калі разбураліся звыклыя рамкі апісальнай творчасці, як факел свяцілася Купалава паэма “Сон на кургане”, зырчэлі яго арыгінальныя і непаўторныя вобразы-сімвалы, рассыпаліся скрозь Коласавы і Бядулевы алегорыі з “Казак жыцця” і “Абразкоў”. Здзіўляе пастаянны перавод канкрэтнага ў абстрактнае, агульназначнае і наадварот:

*Агністыя коні у дзікі табун*
*Спляліся на вогненных дахах,*
*I з грыў іх шугаюць да хмар угару*
*Пунсовыя сполахі жаху.*

— — — — — — — — — — — — — — — — — — —

*Усё, што узнята на грэбні вякоў, –*
*Ўсё гіне у пене крывавай.*
*У зарыве тухнуць, як бляск светлякоў,*
*Агні чалавечае славы.*

Гэта радкі з верша “Агністыя коні у дзікі табун...”, датаванага 1941–1945 гадамі. Якія табуны? Што за коні дзейнічаюць у творы? Што за сусветны пажар мае на ўвазе паэт? Ці не падказаны верш падзеямі канкрэтнымі? Чаму твор, пачаты ў 1941 г., быў закончаны толькі праз чатырнаццаць гадоў? Пытанняў шмат. Іх можа быць і больш. Бо твор не дае павярхоўнае, плоскаснае адлюстраванне рэчаіснасці, а адкрывае перад намі вертыкальны зрэз роздуму аўтара над канкрэтнай і адначасна абстрактнай з’явай, якой з’яўляецца вайна. І не толькі вайна, а кожная спусташальная, разбуральная з’ява. Яе Кузьма Чорны назваў Вялікім Спустошаннем.

Аркадзь Моркаўка пашырае абсягі дзеяння незвычайна, выводзіць яго ў Космас, так, як некалі гэта спрабаваў рабіць Янка Купала, як разам з паэтам-падпольшчыкам рабіла гэта Наталля Арсеннева — паэтка-эмігрантка. І тут адбываецца выйсце за круг, абмежаванне месца дзеяння на зямлі, у яе

пэўным куточку. Арэнай дзеяння ў творах малавядомага паэта становіцца сусвет, асабліва ў вершах ваеннай пары. І,заўважым, толькі пазней, у канцы 50-х – пачатку 60-х гадоў, да такога перамяшчэння арэны дзеяння прыйдзе Аркадзь Куляшоў, а следам за ім і Максім Танк – прызнаныя класікі нашай нацыянальнай літаратуры. Малавядомы паэт даваў фору прызнаным класікам не механічным пашырэннем рамак жыццядзейнасці, а ўменнем перадаць яго натуральную маштабнасць, шырыню і неабсяжнасць. Таму і незакончаны твор эпічна-лірычнага характару "Паэма пра зоры...", як і лірычную творчасць, ён не абмежаваў чыста зямнымі рамкамі дзеяння, раскрыў трагедыю чалавецтва як сусветную, касмічную. Таму і гора яго – гора пакутніка Зямлі і касмічнага прышэльца, чалавека і Бога-заступніка. Падобная прасторавая шырыня паэзіі Моркаўкі – сведчанне высокага інтэлекту паэта, нацэленасці яго погляду на бязмежжа як філасофскую катэгорыю, форму існавання матэрыі і духу. Нешта падобнае назіралася асабліва ў Багдановіча і часткова ў Купалы перыяду "Гусляра" і "Шляхам жыцця". А пазней – у Максіма Танка, для якога бязмежнасць матэрыі, бясконцасць і лагічнасць пераўтварэнняў прасторавых і духоўных становяцца ісцінамі бясспрэчнымі і відавочнымі (зборнікі "Збор калосся", "Мой каўчэг" і нават часткова першы пасляваенны зборнік цудоўных твораў "Каб ведалі"). Так паступова, дзякуючы намаганням класікаў нашай нацыянальнай літаратуры, а таксама не класіка – малавядомага аўтара Аркадзя Моркаўкі, наша нацыянальная паэзія адрывалася ад зямлі, узнімалася да касмічных прастораў і даляў, пераадольвала вузкую абмежаванасць месца дзеяння:

*Ходзяць зоры залатыя у вялікую бясконцасць*
*Благаславеннымі шляхамі несупынна з веку ў век.*
*І,народжаны ў праменні жыватворчых сіл і сонцаў,*
*Разам з зорамі імкнецца у бязмежнасць чалавек.*

*Разгарнулася ўрачыста глыбіня міжзорнай далі,*
*Брыльянцістымі дажджамі разліваецца абшар.*

*Хай яшчэ раз чысцінёю песні лірнае уславіць*
*Лічбы зораў, пыркі сонца ўсхваляваная душа.*

*Зноў мігціцца у бязмежжы з зораў выкладзены строгі*
*Шлях птушыны, прамяністы – залаты міжзорны сцяг...*
*Зорнай наквеццю працяты ўсе шляхі і ўсе дарогі,*
*Ўсе вузлы няпэўнай долі чалавечага жыцця.*

Падобныя радкі цяжка каментаваць. Чытач можа сам, без падказкі, бачыць, як высока ўзнялася думка песняра і даверылася Бязмежнасці, Птушынаму Шляху (Млечны Шлях), Міжзорнаму Сцягу. І ў цэнтры гэтай велічнай прасторы — чалавечая душа, што прагне такой сама велічнасці і, магчыма, гармоніі, суладдзя думак і мараў.

Не застылы, а рухомы, зменлівы ў паэзіі Моркаўкі час. Мастак свабодна і нязмушана злучае ў адно цэлае вякі, эпохі, пераключаецца з тагачаснай сучаснасці (ваеннай і пасляваеннай) на мінулае, зазірае ў будучыню. Час набывае ў многіх яго вершах, як і прастора, адзнакі бязмежнасці, бясконцасці:

*І гарыць, палае сэрца...*
*і кладуцца ў песню словы,*
*Каб уславіць перад сонцам кожны знак і кожны ліст.*
*І праз далеч бачаць вочы, як у моры пурпуровым*
*Караблі натхнёнай песні мільганулі й паплылі.*

Няма, не хапае месца на зямлі яго трагічнай песні. Не хапае часавых рамак, каб выказацца да канца, каб адкрыцца поўнасцю. І ляцяць яго думкі ў міжзорныя далі, і ўскалыхваюць касмічныя званы часу, б'юць трывогу, якую могуць пачуць душы памерлых, прадстаўнікі іншых цывілізацый. Вялікі ў памкненнях паэт. Малавядомы, а такі непаўторны, такі смелы ў марах пра надземнае, вышэйшае, тое, што стаіць *нават над звычайным чалавечым горам.* Ці не марыў паэт пра тое, што менавіта перажытае гора, веліч людзей у яго пераадоленні становяцца гарантамі духоўнага ачышчэння чалавецтва і ганьбавання д'яблаў са зброяй у руках? Ці не караў ён зорным,

касмічным мячом справядлівасці чужынцаў, прышэльцаў на нашыя землі? Відавочна, што выхад паэта ў неабсяжны касмічны прастор і ў бясконцы, вялікі час – нечуваная з'ява для беларускай паэзіі ваеннай пары (ва ўсякім выпадку – вельмі рэдкая). Тут Моркаўка – ці не першы ў нашай нацыянальнай літаратуры. Зоры, Сонца, Птушыны Шлях, Недасяжная Вышыня, Сусвет становяцца такімі ж удзельнікамі ваенных падзей, як і Абшары, Папялішчы, Гарматы, Крывавыя Каляіны, Нівы, Кулі, Стрэлы. Становяцца героямі яго паэзіі і таямнічыя героі блокаўскага кшталту – Жудаснае вока, Нехта жудасны, Цень пакуты ("На абшарах, папялішчах засяваюць жыта кулі..."). Творы ператвараюцца ў споведзі параненай, пашкамутанай болем чалавечай душы, якая, відавочна, не можа разарваць сіло трагедыйных абставінаў. Але яна, гэтая душа, годная і высакародная і ў бяссіллі фізічным. Яе адметнасць і знак – знак духоўнага ўзвышэння, знак сапраўднай чалавечнасці і ў бязмерных пакутах:

*Прасачы за глыбінёю зорнай велічы дзівоснай,*
*Адгукніся рэхам звонкім на гары і пад гарой...*
*І уткнуцца слёзы сэрца ніткай срэбнаю у кросны,*
*І адкрые мак пялёсткі, каб украсіць твой гарод.*

"Слёзы сэрца" – які цудоўны вобраз-дэталь! Якая пякучая праўда ў гэтых двух радках! Слёзы на вачах бачыць кожны, хто мае зрок. А слёзы сэрца – не бачацца, а чуюцца, успрымаюцца, пра іх здагадваецца сумовец паэта, чытач, проста чалавек. Здагадваецца па паводзінах, па ледзь прыкметных дэталях руху, па скамянеласці і нерухомасці ўрэшце.

***

Пра многае можна было б пісаць. Можа, напішацца. Хутчэй за ўсё – напішацца. Бо нельга не пісаць, не думаць пра такую паэзію. Яна ж апярэджвала час. Імкнулася да свабоды духу і формы. Выломвалася з даваеннага, ваеннага і пасляваеннага літаратурнага працэсу сваёй маштабнасцю,

філасафічнасцю, скіраванасцю на вечныя катэгорыі жыцця. І гэта — прыкмета яе ўнутранай свабоды і разняволенасці:

Падуладны сілам руху –
Ўсемагутнаму закону, –
Песні зораў прагна слухай,
Будзь суцэльны аж да скону!

Ён быў "суцэльны аж да скону". Ён – смелы мастак. Малавядомы і вялікі. Як загадкавы Сфінкс, песню якому ён сам склаў у пачатку дарогі.

**Мікола МІШЧАНЧУК**

# ЗОЛАТА І СРЭБРА

У кнізе выбраных вершаў Аркадзя Моркаўкі, што выйшла ў серыі "Бібліятэка беларускай паэзіі", мяне ўразіў верш "Энергія". Ен напісаны ў рытміцы Брусава ("Быть может эти электроны..."), у сімволіцы Забалоцкага ("Звезды, розы и квадраты", "Ночной сад"), але гэта верш менавіта беларускага паэта. Па адукацыі і роду заняткаў ён быў інжынерам-энергетыкам, тым не менш, на працягу ўсяго творчага жыцця Моркаўка ўнікаў тэмаў свайго будзённага існавання, звяртаючыся да звыклых вобразаў, сыходзячы ў паралельны свет прыгожага пісьменства. А тут — штодзённае і летуценнае судакрануліся, закарацілі, як аголеныя правады пад токам:

*У дзікай прорве акіянаў,*
*Віроў міжзорных і азёр,*

*Бушуе безліч сіл, сабраных*
*Для утварэння новых зор.*

Для беларускай паэзіі, асабліва сучаснай аўтару працытаваных радкоў, гэты верш сапраўды ўяўляў з сябе прарыў галактычнага маштабу да новай тэматыкі. І каб у ім двойчы не паўтаралася рыфма "сонца — бясконца", ён быў бы ўзорам дасканаласці. Хаця, хто ведае, магчыма там, у бязмежнай сусветнай прасторы, гэтая рыфма набывае новы кшталт.

"Энергія" створана на схіле жыцця паэта – у 1955 годзе, да пачатку касмічнай эпапеі чалавецтва. Гэты верш – як песня сузорнага Лебедзя ў ненаселенай галактыцы беларускай натурфіласофскай лірыкі.

Сінонім сонца – золата. Прынамсі, так лічылі старажытныя мудрацы. У Моркаўкі сусветнае золата сціскаецца да золата зямнога, якое метафарычна ўвасабляюць пчолы. Пералятаючы з радка ў радок, яны не гудуць, не зумкаюць, не звіняць, як у радках іншых паэтаў. Моркаўкавы пчолы бязгучна і засяроджана збіраюць мёд. Яны лункія і бязважкія, нібыта вышытыя каніцеллю на бялюткім палатне:

*Бароняць пчолы родны вулей,*
*А праллі залатую пражу.*

Ці вось яшчэ:

*Пажадаю вам мёду ліп*
*І увесь залаты прасцяг.*

Пчолы насяляюць і верш дзіўнай, "нетутэйшай" сілы, напісаны ў ракавым сорак першым, магчыма, за некалькі дзён да вайны. Прыводзім яго цалкам.

*На ружовыя кветкі усходу,*
*На азёры празрыстай расы*
*Сыпануліся пчол карагоды*
*Дзеля мёду і дзеля красы.*

*А тым часам пунсовыя далі*
*Разгарнулі свой кволы пажар,*
*Каб аб ім пчолы песню складалі,*
*Сабіраючы мёдавы дар.*

*Прывітанне вам, кветкі радзімы!*
*Дзякуй вам за ваш мёд і красу!*
*Дар ваш беражна пчолы падымуць*
*І ў каморы свае занясуць.*

Сны аб якіх пажарах натхнілі паэта на гэты верш? Якая яму трызнілася краса?..

Золата – метал каралеўскай улады і пышнай геральдыкі. Некалі маладыя паэты ўжо маёй генерацыі ў Каралішчавічах гаварылі пра... буслоў. Гутарка звялася да таго, што, маўляў, нашу боскую птушку, якая гняздзіцца ў творах ледзь не кожнага версіфікатара, магчыма выратаваць ад дэвальвацыі з дапамогай "залатога" эпітэта. І закружыліся па старонках "Першых кніг паэта" залатыя буслы... Забылася, што Моркаўка яшчэ ў 1941 годзе напісаў:

*А сімвал маёй Беларусі –*
*Задумлівы срэбраны бусел*
*На куп'і гадзінамі стыне.*

Ён не залаты, а сярэбраны, наш горды птах, калі нізкае дзённае свяціла, маленькая зорка-сонца ахінае яго сваімі промнямі. А недзе

*На ланцугах няўхільных мэт*
*Ляцяць мільярды яркіх сонцаў*
*Галактык лёгкіх і планет.*

Шлях кожнага з гэтых сонцаў самотны і прадвызначаны, як і шлях паэта, таму што

*Усё запісана ў кнізе*
*Наймагутнага жыцця.*

Запісана залатымі і сярэбранымі літарамі...

**Галіна БУЛЫКА**



# Мікола ШАБОВІЧ

***

Яшчэ нічога не было,
А ты дрыжыш, нібы лісцінка,
Нібы спайманая ў сіло,
Мая чарнявая дзяўчынка...

Рукой кранучца валасоў –
І трапяткое ўспомніць лета,
Калі ў палоне верасоў
Былі мы ласкаю сагрэты,

І вусны прагнулі хутчэй
Прыпасці да гарачых вуснаў,
Каб аж праз тысячы начэй
Зноў прыгадаць той міг спакусны

І шкадаваць, што ўсё прайшло,
Сплыло, нібыта аблачынка...
Яшчэ ж нічога не было,
А ты дрыжыш, мая дзяўчынка...



Ганна Сцепулёнак

# КАХАННЕ

*"Вера – гэта вялікая справа. Гэта болей, чым перамога на франтах... Беражыце дзяцей!.."*

**(З размовы ў электрычцы)**

Табе я не дарую ані слова, ні пагляда,
Хлусні, дзе будзе здрадніцтва пылок.
Як на ружанцы пацеры штовечары,
штораніцы сцвярджаю:
Жыць чыста, мудра, як ракі выток.

Сыходзіш ты... Ну што ж, ідзі.
І як даўней, цябе я не паклічу.
Табе не трэба гэта ,мусіць, у жыцці,
А я кахаю чыстага, табе таго не зычу.

Табе я не дарую ані слова, ні пагляда,
Хай будзе шчасна адзіноту мне сцярпець.
Як на ружанцы пацеры штодня сцвярджаю:
"Прыўкрасна жыць, як песню пець".

*(напісана па-расейску ў 24 гады,*
*пераклад зроблены 14.10.99 г.)*

Алег ДАШКЕВІЧ

# Карфаген

Капітан яхты з назвай "Хмарачос" голасам добрага чарадзея запрашаў да выхаду на прагулку ў адкрытае мора. Яхта стаяла на прыколе крыху далей, маленькая, лёгкая, зграбная, з трыма гнуткімі мачтамі. На самым версе найбольшай сярэдняй мачты сядзела вялікая сіняя птушка.

Капітан жмурыўся на яркае сонца ды прыкрываўся далоняй, нібыта ці напраўду ўсміхаючыся.

– Шаноўнае спадарства, запрашаем на фантастычную яхту "Хмарачос"! – час ад часу ляцела з дапатопнага мегафона, напаўняючы паветра пералівамі, патрэскваннем ды вібрацыяй гукаў. Было раным-рана, калі неба яшчэ абсалютна чыстае, мора зусім спакойнае, а сонныя гандляры драбязой, што ўсталёўвалі свой скарб у складных каляровых шапіках, яшчэ ненадакучлівыя.

– Матуля, хадзем на яхту, мы ж хутка з'язджаем! Ну хадзем!

Дзяўчынка ўпарта цягнула маці за руку ў бок "Хмарачоса", і тая нехаця мусіла здацца. Да яхты паціху падыходзілі пасажыры, якія ў такі ранні час апынуліся ля прыстані. Белая фуражка капітана мела залатое сонца ды высунуты з-за яго акрайчык маладзіка заміж

звыклага краба на кукардзе. Не было ў капітана ні адпаведнай шкіперскай люлькі, ні суворых вачэй. Хіба што ссівелая барада ды стары мегафон, што разносіў па наваколлі запрашэнне ў падарожжа.

З-за мора падымаўся велізарны аранжавы шар.

* * *

Сустракаць раніцу на адкрытай тэрасе летняга рэстаранчыка доктару падабалася. Ён прыходзіў сюды кожнага разу, калі не прасыпаў, афіцыянты віталі яго ўжо як сталага наведвальніка. Звычайна ў такі ранішні час доктар быў адзіным кліентам, але сёння ў кутку за скрайнім столікам, усутыч да сцяны, ад якой пачыналіся парэнчы, прымасціўся яшчэ адзін чалавек. У абодвух на стале быў звычайны камплект першых наведвальнікаў — кава, сок, цыгарэты і газеты. Кава была смачная, ранак цёплы, настрой разняволены. Не было жадання нават гартаць газеты, але доктар усё ж неўсвядомлена, па звычцы, пацягнуўся да іх і, разгарнуўшы першую, пачаў праглядаць афіцыйную хроніку. Нічога цікавага, адно ўвагу прыцягнуў фотаздымак чалавека з лысым чэрапам, які быў, здавалася, намёртва замацаваны на магутнай шыі. Позірку вузка пасаджаных вачэй было не разабраць з-за дрэннай якасці друку. Яго атачэнне, такога ж выгляду, схаванае ў чорныя супрацьсонечныя акуляры, нагадвала рэкламны здымак са свежаспечанага галівудскага баевіка. Доктар падумаў, што цяпер не разабраць, хто на каго больш уплывае — свет на Галівуд ці наадварот. Інфармацыя пад здымкам паведамляла, што ў мястэчка на кароткатэрміновы адпачынак прыбудзе Старшыня... Твар доктара скруціла грымаса. Які старшыня, чаго, адкуль, ён цікавіцца не стаў. Па-першае, ён недалюбліваў гэтую пароду людзей-

ратвейлераў, ім бракавала гумару. Па-другое, задужа розныя ролі яны выконвалі ў жыцці. Сябе, паводле вынайдзенай ім сістэмы, доктар адносіў да ньюфаўндлендаў. "Ньюф" – парода прыстойная, спакойная і самастойная", – ён пасміхнуўся з атрыманае рыфмы. Ён — доктар "хуткай дапамогі", яго жыццёвая задача — быць ньюфаўндлендам. Гэта не абмяжоўвалася выключна працай, служба ў экіпажы "хуткай" ёсць адно вонкавай праявай. Насамрэч усё шырэй, ён — ньюфаўндленд. Ён вызначаў тых, хто тануў, па зусім незаўважных знаках, і стараўся выцягнуць. Ён разумеў, спачатку інтуітыўна, а пасля ўсё больш рэальна, што тым самым ён набывае нейкую надзвычайную ўпэўненасць і надзейнасць, якія дазвалялі трымаць на плаву не толькі пацярпелых, але і сябе. Усведамленне гэтага бараніла яго значна надзейней, чым чорныя акуляры тых ратвейлераў.

Адзінае, у чым ён быў падобны да іх, гэта ў цынічным стаўленні да рэчаіснасці. Так было прасцей. Ён рабіў людзям балюча даволі часта і даволі спакойна. Бывала, яны крычалі, бывала, трывалі моўчкі, але амаль ніколі не крыўдавалі. Хіба можна крыўдаваць на ньюфаўндленда? Але часам яму невыносна хацелася сарвацца да цёплага мора з добрай кавай і аранжавым сонцам, і ўжо тут ён не хацеў бачыць нікога: ні калег, ні знаёмых, ні тых, каго цыраваў, зашываў, выцягваў з таго свету, ні, пагатоў, такіх ратвейлераў.

Гартаць газеты далей жаданне знікла. Доктар яшчэ раз глянуў на чэрап, супрацьсонечныя акуляры, пасля адклаў газету ўбок і азірнуўся.

Чалавек з другога краю тэрасы таксама быў заняты прэсай. Чалавек меў твар прафесіянала, які займаецца сур'ёзнай справай, але найбольш уражваў

ірваны шнар над левым брывом. Ён глядзеў у газету працяглым позіркам, рэдка і павольна змыкаючы вейкі. Доктар адразу згадаў позірк палярнага ваўка, якога бачыў некалі ў перадачы “National Geografic”. Такі самы працяглы, амаль немігатлівы містычны позірк містычнага звера. Але, разам з тым, было ў яго позірку нешта: так увосень, у непагадзь, здалёк глядзяць на старое месца. Шнар замінаў брыву падымацца, і ад таго твар набываў адбітак пакуты. “Гэты, відаць, з тае пароды людзей, якіх можна цыраваць не абязбольваючы, якія разлічваюць заўжды і толькі на сябе”, — доктар адвярнуўся, каб не прыцягваць да сябе ягонай увагі. Чалавек са шнарам уважліва глядзеў у газету.

* * *

Квадратны лоб, маленькія, вузка пасаджаныя вочы, просты вялікі нос, пашкоджанае правае вуха. Здымак раздражняў няякаснасцю, ён дэталёва разглядаў твар ворага, ён мусіў зразумець яго і апярэдзіць.

Ён і Старшыня мечаныя. Вуха разменена на шнар. Вайна, якой яны жылі, забірала іх цалкам. Яны нагадвалі счэпленых мёртвай хваткай, зацятых, скрываўленых псоў. А ці магло стацца інакш? Можа, і магло, але цяпер позна, цяпер яны мечаныя. Рамантычныя колеры змагання ператварыліся ў пажоўклае старое фота.

Студэнцкія хваляванні ва універсітэцкім гарадку, барыкады, сцягі, улёткі.

Спецаддзел паліцыі атакуе іхні сектар, град камення, дубінкі, газ. Далей смак крыві, пах мокрага бруку і яго паліраваная прахалода пад скроняй. Паміж

брукам і скроняй, то напінаючыся, то знікаючы, тахкала і сутаргава выпроствалася жылка. Ён дагэтуль памятае ейнае адасобленае метраномнае тахканне.

Наўпрост пад каштанам — разгублены салдат з круглым сялянскім тварам і ўражліва раскрытымі няўцямнымі вачыма. Каска ссунута набок, дубінка матляецца на запясці.

Нерухомы студэнт, утаптаны ў брук, у калюзе крыві, сустракаецца позіркам з салдатам спецпаліцыі. Гэта цягнецца, здаецца, бясконца, вакол тлум з камянёў, палак, уніформы, скажоных твараў, банданаў, дыму. Не адрываючы погляду, салдат паціху спаўзае па камлі на кукішкі і... плача, па-дзіцячаму кулакамі выціраючы слёзы, дубінка соўгаецца па зямлі, паўтараючы рухі рукі, што выцірае слёзы.

Аднекуль з шатаў зрываецца каштан і павольна ляціць да зямлі. Каштан ляціць так доўга, што ён паспявае разгледзець кожную голку на ягонай шкарлупцы.

Ад удару шкарлупіна разлятаецца, і каштан, падскокваючы, коціцца па мокрым бруку.

Нешта самае важнае засталося незаўважаным, шукаць яго цяпер ужо нес тавала часу. Цяпер ёсць толькі ён і Старшыня. Яны паляўнічыя. Паляванне зрабілася іхняй справай. Каштан ушчэнт разнёс сваю шкарлупіну, праскакаў па універсітэцкім бруку і знік разам з магчымасцю вяртання.

З прыстані захрыпеў мегафон, запрашаючы на марскую прагулку. Доктар і чалавек са шнарам адарваліся ад сваіх заняткаў і зірнулі ў бок мора.

Дама з дзяўчынкай збочылі на прыстань, за імі туды ж скіраваўся круглы, на кароткіх ножках,

чалавечак з нявыспаным тварам, які спрабаваў завязаць з імі размову, забягаючы то з аднаго, то з другога боку. Пасядзеўшы яшчэ, доктар падняўся і, пакінуўшы газеты на століку, рушыў за імі.

Чалавек са шнарам глядзеў, як сыходзіў доктар, як ён схаваўся ў зяляніне прыбярэжнай алеі, як вынырнуў з яе ля самай прыстані.

З яхты апошні раз азваўся запрашэннем мегафон. Сонца было невычэрпна яркае.

* * *

Цень гелікаптэра назірання налез на прытармазіўшыя джыпы аховы, што рухаліся на адлегласці наперадзе. Лопасці выраблялі мудрагелістыя штукі, спрабуючы абсекчы сонечныя прамяні. У салоне ягонага аўто гуку не было чуваць, толькі імклівая гульня святла і ценю.

Старшыня неадрыўна, амаль нерухома, глядзеў у акно. Серпанцін дарогі не дазваляў набраць звыклую хуткасць, і таму прысутнічала не тое што нервовасць – лёгкае раздражненне. Малая хуткасць выклікала адчуванне, што нешта замінае, перашкаджае. Гэтага адчування не пазбаўляў нават краявід, што адкрыўся з вышыні горнай дарогі. Старшыня нават паморшчыўся ад прыкрасці, што тут, на гэтай горнай шашы, яму прыходзіцца падладжвацца пад абставіны. Злавіўшы сябе на такой думцы, ён раззлаваўся ўжо на сябе і нервова крутнуў шыяй. Ён мусіў даўно пазбыцца гэтага комплексу, але так і не здолеў. Комплекс параўнання пераследаваў яго і гвалтоўна, не зважаючы на яго волю, вяртаў у мінулае, якому цяпер не засталося месца. Гэтыя вяртанні былі невыносныя і выклікалі ледзьве не слёзы, прачуласці і нянавісці адначасова. Ён ненавідзеў гэтую прачуласць, ён шалеў ад яе, сёння

яна была нават не лішняя, яна была небяспечная. Сёння ён ёсць Старшыня, сёння ён ёсць Пераможца.

Старшыня дастаў насоўку і звыклым рухам выцер спацелы голы чэрап і моцную таўстую шыю.

Цень гелікаптэра зноў завіс над джыпамі, але неўзабаве споўз на шашу. Ён мусіў пагадзіцца з шэфам сваёй аховы на наземны маршрут, бо краіна была чужая.

Кавалькада зменшыла хуткасць, мінаючы надта закручаны паварот. З левага боку шашы, аж да самага берага, гара абрывалася, а на грудзе скал, далёка закінутых у мора, стаяла пясочнага колеру адмыслова спраектаваная спаруда, якая здавалася працягам скалы і нагадвала ці то палац, ці то крэпасць. На самым версе спаруды красавала карона з белага мармуру, якую абвіваў чорны надпіс: “Карфаген”.

– Што такое Карфаген? – спытаў Старшыня, ледзь хітнуўшы галавой. Сакратар адарваўся ад газеты.

– Увогуле? – паспрабаваў ён удакладніць, пасля здзіўлена зірнуў з-пад акуляраў і, не пачуўшы адказу, пачаў тлумачыць. – Старажытная дзяржава, места і крэпасць, разбураная рымлянамі прыкладна каля дзвюх соцень гадоў да нашай эры.

– Карфаген, – паўтарыў Старшыня і змоўк.

“Жыццё – гэта вайна”, – такую выснову ён зрабіў для сябе даўно. Дзеля таго каб жыць, трэба перамагаць, дзеля таго каб перамагаць, патрэбна воля. Абсалютная. Як скала. Карфаген.

Кавалькада павольна ўпаўзала ў мястэчка. Старшыня азірнуўся, працягла і ўважліва, яшчэ раз глянуў на палац-крэпасць.

– І ніякія рымляне, – ледзь чутна, але жорстка прамовіў ён.

* * *

Жанчына з дачкой уладкоўваліся на карме.

Доктар ступіў на палубу і прайшоў на нос, дзе ўжо стаялі некалькі чалавек. Яхта ўпэўнена аддалялася ад берага, мачты паціху парыпвалі, пырскі з-пад кіля іскрыліся ў сонечным святле, а таямнічая сіняя птушка выпрасталася насустрач ветру, час ад часу распраўляючы крылы. У гэтыя моманты яна набывала незвычайную веліч і прыгажосць, маленькая яхта здавалася ейным працягам. Вакол панавала ціша, змоўклі нават пасажыры.

– Дзядзечка капітан, а чаму вашая яхта мае такую дзіўную назву – “Хма-ра-чос?” – па складах прагаварыла дзяўчынка, нарэшце перарваўшы цішыню.

– Бачыш, у маёй яхты тры мачты. Калі падымаюцца хвалі, яна гэтымі мачтамі дастае да воблачкаў і хмарак, і здалёк можна ўбачыць, як яна іх прычэсвае.

– Гэта значыць, робіць хмаркам фрызуркі?

– Так. Робіць фрызуркі.

– А якія?

– Добрыя. Вельмі прыгожыя. Зараз хмаркі яшчэ спяць, але калі ты ўбачыш акуратна прычасаныя хмаркі, дык ведай, што гэта пастаралася мая маленькая яхта.

– Дык вы капітан-цырульнік?!

– Падобна на тое, – прамовіў ён.

Мора пералівалася блікамі, люструючы сонца і неба, яшчэ крыху – і ўжо няможна было б разабраць, дзе насамрэч мора, дзе неба. Ад захаплення спакоем і прасторай доктар аж прымружыў вочы. У ягонай краіне мора не было.

– Матуля! Матуля, глядзі – дэльфіны!

Дзяўчынка, прыціснуўшы далонькі да тварыка,

шырока расплюшчыўшы вочы, захоплена глядзела за борт. Праз секунду непадалёк ад яхты з марской глыбіні выскачылі дэльфіны. Яны пра нешта крычалі паміж сабой. Іх палёт быў вясёлы і лёгкі, як у птушак, а дасканалыя целы, зноў кранаючыся вады, раставалі ў выбухах пырскаў да наступнага палёту. Усе паўскоквалі са сваіх месцаў і стараліся разгледзець дэльфінаў, міжволі прасякаючыся іхняй незвычайнай прыгажосцю.

– Добры знак, – заўважыў капітан.

– Матуля! Хіба дэльфіны могуць лётаць? А хто яны тады – рыбы ці птушкі?

Ад дзіцячага пытання маці сумелася.

– Яны як людзі, – апярэдзіўшы жанчыну, вымавіў капітан. – Толькі добрыя. Паглядзі ўважліва.

Дзяўчынка ўшчыльную падышла да борта. Дэльфіны ў чарговы раз імкліва вылецелі з вады.

– А злыя людзі, гэта хто – акулы? – праз паўзу, наўпрост гледзячы на капітана, спытала дзяўчынка.

– О, бачыш, зноў, – капітан хітнуў у бок дэльфінаў, якія, здаецца, у сваім незвычайным палёце даляталі і краналіся сонца. – Глядзі пакуль на добрых і вясёлых.

– А яны могуць даляцець да сонца? — захопленае відовішчам, спытала дзяўчо.

– А хіба ты не бачыш? — адказаў капітан.

– Матуля! А ў нашай краіне мора ёсць?

– Няма.

– Значыць, і дэльфінаў няма?

– Няма, – расчаравана працягнула жанчына.

– Значыць, і добрых людзей няма, – сумна зазначыла дзяўчынка і крыху пазней дадала:

– Як кепска, калі краіна не мае мора.

“Кепска”, – моўчкі пагадзіўся з ёю доктар.

– Не журыся, сонейка, – капітан усміхнуўся і ссунуў сваю капітанскую фуражку з незвычайнай кукардай на патыліцу. – Дэльфіны існуюць і без мора, і я табе па сакрэце скажу: кожны можа стаць дэльфінам, проста не трэба часта злавацца. І тады можна навучыцца далятаць да сонца.

* * *

Жанчына, адкінуўшы галаў, трымалася паднятымі ўгору рукамі за нейкія карабельныя прыстасаванні. Вецер надзімаў ветразі, хвалі манатонна гайдалі яхту. Каля рубкі, відаць, пра нешта надзвычай цікавае і сур'ёзнае размаўлялі капітан з дзяўчынкай. Кругленькі сядзеў на баку і цягнуў з бляшанкі піва, спрачаючыся пра штосьці з суседзямі. Ягоныя ножкі, што выглядалі з шырачэзных шортаў, боўталіся ў паветры, не дастаючы да палубы.

Дама была напраўду цікавая, але ў чым выяўлялася гэтая цікавасць для яго, доктар ніяк не мог зразумець. Ён ажно заёрзаў, пачаўшы губляць цярпенне. Разглядаць яе далей здавалася няёмкім, але крадком ён працягваў гэта рабіць.

Натуральны, без макіяжу, твар жанчыны выдаваў задужа заспакоеным, крыху заўважныя прыпалыя кружкі вакол вачэй падкрэслівалі гэтую празмерную заспакоенасць. Радзімка паміж куточкам вока і скроняй. Светлыя валасы. Бровы, што разляталіся па высокім ілбе.

Жанчына спахмурнела, паміж бровамі над пераноссем з'явілася невялічкая зморшчынка. Доктар хацеў адвесці позірк, але...

Зморшчынка, невялічкая складка над пераноссем...

Дзяўчынка-лета. Ле-та...

Ён забыўся на тое далёкае лета, ці рабіў выгляд, што забыўся. Ён выпусціў яго, як дзіцячы балонік, а калі і згадваў, то згадваў адасоблена, быццам гэтае лета здарылася не з ім, а з кімсьці іншым. Ён даўно перастаў яе сніць, але ж дастаткова было белай яхты і жанчыны з пранізліва знаёмай зморшчынкай між броваў... Ле-та...

Можа, у таго лета такая ж дачка.

Панцыр, што нарос на ім з таго часу, прымушаў глядзець на рэчы пад крыху іншым вуглом, чым глядзелі астатнія. Праца ў экіпажы "хуткай" толькі спрыяла таму. Яму нават падабаўся такі стан рэчаў. Ён сачыў за пачуццямі іншых (а таемна спадзяваўся, што і за сваімі таксама) нібыта з-за сцяны, нібыта за гульнёй у шахматы, калі назіраеш збоку, як перасоўваюць фігуры шахматысты. Белыя ваявалі з чорнымі, спраўджваючы і правальваючы разумныя і не вельмі разумныя камбінацыі, рабіліся шахі, ставіліся маты. Але настаў момант, калі ён зразумеў, што гэта ніякія не шахматы, што гэта вайна. Ён не заўважыў, як апынуўся на гэтай вайне, як яна зацягнула яго ў сваё віраванне. Ён згубіў нешта самае-самае, вясёлку, наўзамен атрымаўшы панцыр, абарончую сцяну, за якой ён нібыта схаваўся. Вакол ішла вайна.

Праўда на гэтай вайне выглядала ярка, але яшчэ ярчэй выглядалі кроў і цынізм. Кроў была розных адценняў – бурая, брунатная, ружовая, чорная, блакітная, нават зялёная, але заўжды невыносна яркая. Цынізм быў шэры, як браня, але таксама яркі настолькі, што нават яму трэба было прывыкаць, каб не рэзала вочы, калі ён раптам гэта зразумеў. Адкрыццё, якое ён зрабіў, спачатку выклікала ў яго шок, пасля паніку, затым – глыбокі і працяглы сум. Ён, стомлены

"ньюфаўндленд", мусіў ратаваць сябе. Гэта было нязвыкла, але трэ' было сыходзіць з вайны. Яго сыход быў цяжкі, доўгі і ўпарты. Ён цягнуў на сабе свой панцыр і адбіваўся ад вайны, якая пераследавала і даставала яго. Але ён упарта сыходзіў.

Так ён апынуўся тут, у ціхім мястэчку, на маленькай яхце, побач з нечакана ўзніклым, забытым летам, тым летам, дзе не было вайны. Толькі зараз, на гэтай яхце, ён зразумеў: вайна скончылася, лета растварыла яе. Ягоны панцыр побач з летам выглядаў недарэчнасцю, але скінуць, вызваліцца ад яго было страшна, столькі часу гэта была такая надзейная абарона.

Схамянуўшыся, доктар зноў зірнуў на жанчыну. Яна не мяняла паставы.

* * *

Скрозь вейкі прабіралася сонца. Ёй было спакойна халаднаватым спакоем перахварэлага. Тады гэты спакой быў такі неабходны.

Вецер чарговы раз шпурнуў валасы. Адпусціўшы адну руку, яна папravіла іх далоняй.

Тады, здавалася, усё было знішчана. Душыла крыўда. Яна вырвалася, яна старалася ўцячы ад болю і крыўды. Яна не ведала, што рабіць, яна была падобная да выкінутага ў шторм пасажыра камфартабельнага лайнера, дзе ўсё было наладжана, цёпла і спакойна. Яна нагадвала чалавека, які ў хвалях хапаецца за першае, што дазваляе хоць як утрымацца на паверхні.

Яна не памятала яго твару ўжо праз пару дзён, толькі "тату" мудрагелістага ўзору на плячы ды быццам

смяшлівыя забаўкі, якія ён няспынна выстрэльваў увесь вечар і з якіх яна спрабавала смяяцца.

Наступнай раніцы зрабілася яшчэ горш. Забаўкі былі такія ж банальныя, як кава, якую ён прынёс ёй у ложак. Ён казаў нейкія словы, гучна смяяўся, пра нешта недарэчна разважаў. Ёй хацелася ў душ. Душа не было. Седзячы на канапе, захутаная ў прасціну, яна піла каву і моўчкі глядзела паўз яго, зрэдку хітаючы галавой. Пасля, таксама моўчкі, апранулася і сышла, запомніўшы толькі мудрагелістае "тату" на ягоным плячы і сваю спустошанасць. Абсалютную спустошанасць. Не дапамаглі ні ціхі ранак, ні бязлюдны бераг, ні нават мора, у якое яна зайшла, не зняўшы адзення. Яна патанула ў нейкай іншай рэальнасці, дзе ўсё стала па-другому.

Вярнуўшыся дамоў, яна пачала будаваць мур, пакуль не схавалася ў ім цалкам, быццам скамянеўшы сама. З таго часу ў яе былі толькі дачка, праца і высокі магутны мур, за які не пранікаў нават хірург, з якім яна час ад часу сустракалася. Хірург меў жорсткія рукі, сур’ёзныя сталёвыя вочы і жонку ў другім канцы мегаполіса. Пры іхніх сустрэчах ён не гаварыў лішняга. Усё адбывалася як на аперацыі – анестэзія, скальпель, сціскач. Яна падазравала, што так было для абаіх.

* * *

Зморшчынка разгладзілася, жанчына павярнулася і ўбачыла перад сабой доктара.

– Хто вы? – запытала жанчына.

– Доктар, – адказаў доктар.

– Хірург? – зноў спытала яна.

– Хірург, – невядома чаму, схлусіў ён.

Ражкі яе вуснаў крыху спаўзлі ўніз.

– Вашым хірургічным вачам нестае сталі.

Сапраўдны хірург мусіць мець у вачах сталь, — спачатку падумала, а пасля і сказала яна. – Хірург мусіць быць зроблены са сталі, уключна з вачыма.

– Чаму?

– Таму што хірург – з катэгорыі тых прафесій, што валадараць над чалавечым жыццём, як, прыкладам, генералы, палітыкі, пракуроры ці суддзі. Яны не маюць права на сумненні, інакш у іх нічога не атрымаецца. Для іх сумненні — як апендыцыт, які падлягае выдаленню. Таму вы няўдалы хірург. Прызнайцеся, колькі чалавек вы зарэзалі?

– Аднаго, – збянтэжана вымавіў доктар. – Ды і таго недарэзаў, калі за няўдалую аперацыю прыняць харакіры, – ён паспрабаваў шырока і весела ўсміхнуцца.

Яна глядзела на яго і ўсё чакала, калі гэтая штучная ўсмешка, якая кацілася па ягоным твары, дастане вачэй. Ляцелі імгненні, яна напружана чакала, але так і не дачакалася. Паступова ўсмешка выветрылася, ёй стала ўтульней. Але ўсё ж засталася боязь пачуць ад яго вясёлую забаўку ці показку. Ёй здавалася, што тады тая выветраная ўсмешка вернецца і кранецца вачэй...

– Ведаеце, у вас прыгожая зморшчынка, вось там, над пераноссем.

– Вы пачынаеце размову з няўклюдных кампліментаў.

– Відаць, я не толькі дрэнны хірург?

– Так. Вы яшчэ і дрэнны самурай.

Ён паціснуў плячыма.

– Не праганяйце мяне. Давайце лепш гаварыць.

“Самурай, які вярнуўся з холаду”, – перайначыла яна сама сабе назву вядомага рамана Ле Карэ, уголас спытаўшы:

– Пра што?

– Ну, напрыклад, пра дэльфінаў.

– Вы спецыяліст па марской фауне?

– Я спецыяліст па зморшчынках між броваў.

– І пра што яны гавораць?

– Па-рознаму, але часцей за ўсё – пра страчаныя магчымасці.

– У вас, відаць, шырокі досвед?

– Досвед, на жаль, шырокі амаль ва ўсіх.

– Тады, шаноўны хірург-самурай, давайце лепш пра дэльфінаў. Яны не робяць няўдалых харакіры.

– Згодны, ім няма ў тым ніякае патрэбы. Яны ж дэльфіны.

Хлопалі ветразі, свяціла сонца, дзьмуў вецер, дэльфіны, застаўшыся ўбаку, працягвалі свае палёты, а доктар і жанчына размаўлялі пра дэльфінаў.

* * *

Яхта, абагнуўшы рог, вярталася ў бухту. Першай яе сустрэла жоўтая будыніна палаца “Карфаген”.

– Якая змрочная пабудова, – заўважыла жанчына. Пасля задуменна дадала: “Карфаген мусіць быць разбураны”.

– Так, – пагадзіўся доктар, – кожны мусіць сам бурыць свой Карфаген, інакш... інакш яго разбураць рымляне.

Мінуўшы крэпасць-палац, “Хмарачос” зманеўраваў, каб зручней прышвартавацца. Да прыстані заставалася няшмат.

– Мы заўтра з’язджаем, – сказала жанчына.

– Я яшчэ думаў пабыць, – глухавата, са слабай надзеяй прамовіў доктар.

Яны змоўклі. Пасажыры рыхтаваліся да высадкі.

– Дзякуй шаноўнаму спадарству, – сказаў

мегафон голасам капітана. Экіпаж фантастычнай яхты "Хмарачос" развітваецца з вамі. Памятайце – вы бачылі дэльфінаў, гэта добры знак.

– Спадар капітан, а дзе яшчэ вы будзеце прычэсваць хмаркі і воблачкі? – запытала дзяўчынка.

– Па ўсім свеце, сонейка, бо кожнаму воблачку і кожнай хмарцы трэба, каб яны былі прычасаныя і дагледжаныя. Праўда?

– Праўда. Да пабачэння, спадар капітан-цырульнік.

Капітан падняў дзяўчынку на рукі і паставіў на цёплы граніт прычала.

– Да пабачэння.

– Мы яшчэ пакатаемся на "Хмарачосе", праўда?

– Абавязкова, сонейка.

Сонейка свяцілася ўсмешкай.

* * *

Доктар глядзеў, як няўхільна канчаецца прыстань. Ён крыху вінавата ўсміхнуўся.

Яны ішлі побач – ён, яна і дзяўчынка. Прыстань канчалася.

"Сумны самурай", – позірк жанчыны слізгацеў па граніце прыстані. У яе далоні хавалася далонька дачушкі.

Ёй не хацелася развітвацца. Жанчына адарвала позірк ад бруку. З ягонага твару не сыходзіла вінаватая ўсмешка.

"Сумны самурай".

На кароне далёкага палаца манументальна паўставаў надпіс – "Карфаген".

Прыстань скончылася.

Яна спынілася і працягнула яму руку. Доктар працягнуў сваю. Ёй не хацелася развітвацца.

– Мы з'язджаем, – сказала яна. – Да пабачэння.

Яе далонь памалу вызвалілася з ягонай.

– Да пабачэння, – адказаў доктар.

Па небе плылі акуратныя воблачкі.

– Паглядзі, матуля, якія ў іх файныя фрызуркі. Дзядзечка капітан – сапраўдны майстар, а ў цябе вецер зусім валасы раскідаў.

Жанчына азірнулася. Праз натоўп прыстані ўжо не было відаць. Над пераноссем між бровамі ў яе з'явілася зморшчынка, крыху большая ад звычайнай.

* * *

"– Мы мусім мець абсалютную гарантыю, снайпер такой гарантыі даць не можа. Ад Старшыні не павінна застацца нічога, нават гузіка. Ён стваральнік і носьбіт ідэалогіі сістэмы. Гэта, з аднаго боку, выводзіць праблему за дужкі, з другога – замыкае яе на ім. – Сістэма і яе натхніцель падлягаюць радыкальнаму вынішчэнню.

– Будуць выпадковыя ахвяры.

– Мы не можам ставіць пад сумненне спланаваную аперацыю."

Дыялог з самім сабой праходзіў вялавата. Усё было вызначана. Даўно.

Чалавек са шнарам глядзеў, як швартаваўся "Хмарачос", як узнялася з мачты і пачала кружляць над ім прыгожая сіняя птушка. Зрабіўшы некалькі кругоў, птушка на нейкі час нерухома завісла ў паветры, а пасля павольна пачала планіраваць у адваротны ад берага бок, растаўшы недзе паміж морам і небам.

Ён мусіў мець абсалютную гарантыю. Зараз, як і тады, у яго няма выбару. Але тады гэта адбылося ўпершыню. У яе былі вялікія, крыху спалоханыя іхнім нечаканым уварваннем вочы. Ён бачыў іх зблізку. Але ёсць закон – сведка не мае шанцаў. Нават калі ў яе вялікія прыгожыя вочы. Праз увесь час ён пачуў ад яе толькі адно, дзіўнае, зусім не адпаведнае моманту пытанне: ці кахаў ён калі-небудзь?

Агеньчык запальнічкі дастаў цыгарэту.

На вайне як на вайне, але тады гэта было ўпершыню. Яна засталася крыху нахіленай у фатэлі, з маленькай ранкай акурат між броваў.

Ці кахаў ён калі-небудзь? З таго дня ён насіў гэтае пытанне, як таўро, як шнар над брывом. Галоўнае – справа. Страчана столькі сяброў. Ён павінен адпомсціць. За ўсіх, і за яе таксама. Помста – адзінае, што ратавала. Ён быў пэўны, што дастане Старшыню. У іх няма шанцаў не сустрэцца, як і няма выбару, і ён быў задаволены, што выбару няма. А пасля ён паспрабуе адказаць ёй і сабе на ейнае пытанне.

Недапалак паляцеў у сметніцу. Чарговая хваля прыбою разбілася аб скалы, якія адкідалі цені, падобныя да пачвар. Марская пена злізвала чалавечыя сляды з пляжнага пяску.

* * *

Да шахмат ён прызвычаіўся ў школе спецпаліцыі. Гэтая гульня, ды яшчэ практыкаванні ў стральбе выклікалі захапленне. Ён не пакінуў іх

дагэтуль. Старшыня любіў гуляць белымі. “Белыя пачынаюць і выйграюць”.

Ён згадаў прыемную важкасць зброі, як пасля стрэлаў ляцяць ашмёткі мішэняў – чалавечых абрысаў.

Старшыня заўжды пачынаў першы.

Да палаца “Карфаген” бясшумна падкаціла некалькі аўтамабіляў. Калі яны спыніліся, з іх імкліва выскачылі моцнага выгляду мужчыны і, не губляючы часу, скіраваліся да ўваходу.

– Мы на замову спадара Старшыні. Кухня, абслуга, ахова – нашы. З 18.00 да 6.00 ваш персанал вольны. Рахунак дашлеце на гэты адрас.

Наведвальнікі зніклі гэтак жа імкліва, як з’явіліся. На стале засталася візітоўка.

* * *

Калі за акном пачалі мільгаць вакзальныя пабудовы, яна нарэшце спынілася, села і схавала твар у далонях. Ёй нікога не хацелася бачыць. Яна ледзь дачакалася, калі сышоў праваднік з ягонымі бясконцымі – “шаноўная спадарыня”. Добра, што ў купэ нікога не было. Яна старалася быць спакойнай увесь учарашні астатак дня. Але наколькі пераканаўча яна даводзіла сабе: “Дома ўсё будзе па-ранейшаму”, – настолькі ж разумела, што па-ранейшаму не будзе.

Зморшчынкі між бровай – адбітак страчаных магчымасцяў, згадала яна. Ейны мур, у якім яна, здавалася, схавалася назаўжды ад жыццёвых прыкрасцяў, які здаваўся такім магутным і непрыступным, трэснуў і разбураўся. Кавалкамі.

“Толькі б не заплакаць”, – падумала жанчына. За акном цягніка нейкая вялікая сіняя птушка імкліва ляцела ў бок мора.

– Матуля, я хачу сёння быць дэльфінам, – дзяўчынка абняла маці, пасля ўзяла грабеньчык і асцярожна пачала расчэсваць яе доўгія валасы.

– Матуля, праўда, мы яшчэ пакатаемся на “Хмарачосе” і пагуляем з дэльфінамі?

– Праўда, – адказала маці. – Абавязкова пакатаемся.

* * *

На тэрасе рэстаранчыка было пуста, не сноўдалі нават афіцыянты. Апусціўся прыцемак. Усё ўзбярэжжа зіхацела агнямі, унізе рухалася людская плынь. Музыка, што гучала з розных бакоў, утварала неверагодную мешаніну гукаў і стыляў.

Ці змянілася б штосьці, калі б ён прамовіў нейкія словы, думаў доктар. Словы – пустое. Нешта замінала. Гэты недарэчны панцыр.

Вялікая сіняя птушка, якую доктар ледзь паспеў заўважыць, праляцеўшы над ім, шпурнула ў яго ветрам з-пад сваіх крылаў. Ён глянуў у ейным кірунку. Там бліскуча ззяла і пераліvалася фіялетавым святлом назва – “Карфаген”.

– Карфаген мусіць быць разбураны! – уголас, з імпэтам прамовіў доктар. – Катон-старэйшы. Старажытны Рым, – дадаў ён, па інерцыі, завучанае некалі ў юнацтве.

На стале застаўся аплачаны рахунак.

* * *

У камінная зале палаца, на невялікай сцэне, замоўленыя акцёры з імпэтам адпрацоўвалі высокія ганарары. У дзвярах стаяла ахова, вышкаленыя афіцыянты стрыглі вачыма. Старшыня падняўся са свайго месца і заўважыў, як напружыліся целы і вочы

астатніх, але адасоблена, заняты нечым сваім, скіраваў на невялікі ўтульны гаўбец. Па моры бегла месяцовая дарожка, нібыта мост, другі канец якога губляўся ў цемры.

Ён любіў глядзець на мора. А што ён яшчэ любіў, ці каго? Нейкі смутны вобраз ледзь паказаўся з памяці і адразу ж знік, згубіўся, растаў. Толькі гэты месяцовы мост. Раней ён жарсна любіў уладу і прагна ненавідзеў тых, хто перашкаджаў яму яе мець. Пасля ўлада проста стала ягоным жыццём. Як паветра. А нянавісць ператварылася ў механічную працу. Ён, як, прыкладам, кракадзіл, спакойна і халодна нішчыў тых, хто яму перашкаджаў. Нянавісць ужо не турбавала яго, ён пакінуў яе тым, хто няздольны стаць пераможцам, каго то тут, то там выкалупвала і знішчала ягоная служба аховы. Але ці любіў хто-небудзь яго?

Старшыня павярнуўся і паглядзеў у залу, пераводзячы позірк з ахоўнікаў на артыстаў, са сваіх падначаленых — на іх дзевачак, адмыслова падабраных для такіх вось вечароў. Ён глядзеў і бачыў іх твары, вочы, рукі. Для яго яны былі штучныя і нейкія... нежывыя.

“Выпадае, што не любяць. Баяцца. Так, баяцца. Але ж можна баяцца і любіць... Можна нават ненавідзець, але любіць... Не любяць”.

Старшыня крануў сваю руку. Рука была моцная, вялікая і халодная.

* * *

Вентыляцыйная шахта аказалася вельмі непрыдатнай. Прасоўвацца наперад было нязручна. Галоўнае – пралезці праз лопасці вентылятара, каб не быць пасечаным на кавалкі. Для гэтага ён меў пяць хвілін.

Краты паддаліся лёгка, але далей пачаліся праблемы. Праходзячы вентылятар, ён падраў вопратку, вымушаны быў пакінуць на тым баку супрацьгаз, які не засталося часу адчапіць, і ледзь-ледзь паспеў прадрацца між лопасцямі да таго, як тыя зноў пачалі секчы паветра. Зараз — да камiннай трубы: замацаваць міну, скіраваць выбух, уставіць узрывальнік, і назад. Без супрацьгазу было цяжка — дым, чад, пыл. Ён хутка ўпрэў, пот заліваў вочы, не было чым дыхаць. Каб паўзці цішэй, спатрэбілася часцей спыняцца, нястача кіслароду рабілася ўсё болей заўважнай. Чым бліжэй была мэта, тым больш было дыму і спёкі. Адсюль ужо можна было разабраць музыку. Кроў пульсавала так, што, здавалася, зараз хлыне вонкі, перад вачыма пачало плысці. Ён адарваў кавалак вопраткі, змачыў яго вадой з флягі і завязаў, як бандану. Зрабілася крыху лягчэй. "Як у юнацтве", — падумаў ён, згадаўшы студэнцкія барыкады. Найшла нейкая апантанасць.

— Карфаген мусіць быць разбураны, — заведзена паўтараў ён. — Сёння гэтая пачвара адкажа за ўсё, разам са сваімі шакаламі.

Ён прасунуўся яшчэ. Яшчэ крыху. Не было чым дыхаць. Нарэшце! Далей усё адбылося механічна. Намацаў нішу, адшпіліў міну, уставіў узрывальнік і ўключыў таймер. "Цяпер назад", — падумаў ён і ледзь стрымаўся, каб не закашляцца. Сілы пакідалі. Неабходна было паспець да наступнага спынення вентылятара. Ён уключыў ліхтарык і глянуў на гадзіннік. Лічбы разбегліся і пачалі губляць акрэсленасць. Галоўнае — не спыняцца. Ён упарта, аўтаматычна рухаўся наперад, не разбіраючы ўжо амаль нічога перад сабой. Забіваў кашаль, які больш не стрымліваўся. Рэальнасць пачала блытацца з

уяўнасцю. Вентылятар то набліжаўся, то аддаляўся, то ператвараўся ў твар салдата спецпаліцыі з супрацьсонечнымі акулярамі заміж вачэй. Ён намагаўся здзерці гэтыя акуляры, каб глянуць у схаваныя за імі вочы. Ён поўз скрозь гэтыя наплываючыя вобразы. Маці, стары дом, універсітэцкія сябры, дзяўчына з ранкай між броваў... Яму хацелася, каб яна ўбачыла яго, але ён не мог наблізіцца да яе. Ён хацеў крыкнуць і не здолеў... Хлопец з уражлівымі вачыма і круглым сялянскім тварам, у форме салдата спецпаліцыі, плакаў, седзячы на кукішках пад каштанам, дубінка коўзала па бруку ў такт руцэ, што выцірала кулаком слёзы... Апошняе, што праплыло перад вачыма, – сіняя птушка, яе ўжо ледзь было відаць. Раптам нешта падняло яго ў паветра, і ён памкнуў за ёй. Было неверагоднае адчуванне палёгкі, унізе дыхала мора, вакол віравала неба, сіняя птушка была побач, да яе можна было дакрануцца, і ён працягнуў да яе руку.

* * *

Старшыня яшчэ некаторы час назіраў за сваімі людзьмі з гаўбца, пасля вярнуўся на сваё месца ля каміна і, выпрастаўшы ногі, зноў пачаў глядзець на мора.

Дзіўная сіняя птушка села на парэнчы.

Некаторы час яны разглядалі адно аднаго.

– Яна замінае мне, – Старшыня зрабіў знак ахоўніку.

Птушка нахіліла галаву, нібыта выслухала, што было сказана, пасля, не чакаючы, махнула крыламі і знікла ў начы. Старшыня глядзеў на месяцовы мост, другі канец якога губляўся ў цемры. Ужо нішто не замінала.

* * *

Выбух быў падобны на раскат навальнічных грымотаў. Карона палыхнула фіялетавай успышкай, і некалькі імгненняў можна было назіраць, як яна разам з надпісам “Карфаген”, знікае ў чэраве расколатага палаца.

* * *

Неба паласавалі сляды знічак. Доктар лёгка крочыў цёплай вулкай начнога мястэчка. У ліхтаровым святле матылькі танчылі менуэты. Доктар вяртаўся ў лета. Ле-та. На адкрытай тэрасе летняга рэстаранчыка раставаў ягоны панцыр.

* * *

Вагон аднатонна гушкаўся на стыках рэек, побач, скруціўшыся, як кацянё, спала яе дзяўчынка, міналі вялікія і маленькія станцыі, а жанчыне сніліся дэльфіны.

* * *

Аранжавае сонца выходзіла з-за небакраю. Быў цёплы сонечны ранак. Ля прычала стаяла і гайдалася на хвалях невялікая белая яхта з вялікай сіняй птушкай на галоўнай мачце. Праз шум і трэск эфірных перашкод прабівалася музыка... з фільма “Гісторыя кахання”.

Іван ФУРСЕВІЧ

# ТАНЬКА

*Апавяданне*

Трактар з прычэпленымі да яго вялікімі драўлянымі санямі, падмінаючы гусеніцамі снег, паволі рухаўся па нябачнай дарозе. Дарога абазначалася з абодвух бакоў высокімі тычкамі, на вяршынях якіх там-сям захаваліся прывяза-ныя яшчэ восенню пучкі сухое травы. На санях, замацаваныя іржавым тросам, ляжалі пяць жалезных бочак. За імі ля аднаго борта ляжалі два салдаты ўнутраных войскаў з аўтаматамі, а ля другога борта – хлопец у шэрай зэкаўскай вопратцы з цёмнымі квадратамі на шапцы, правым сцягне і (ведалі салдаты) спіне. Салдаты час ад часу з цікавасцю паглядалі на гэтага хлопца. Яны разумелі, што ён толькі што выйшаў з лагера і некуды едзе. Ім надта карцела загаварыць з ім, даведацца, адкуль ён, за што сядзеў, куды едзе. Хлопец быў амаль што іхнім аднагодкам, толькі худы, бледны і з суровым тварам. Салдаты кожны дзень сустракаліся з зэкамі – вадзілі іх на працу, з працы, ахоўвалі на вышках, але яны былі, нібы шклом, адгароджаны ад вязняў: усё бачылі, але загаварыць з імі не маглі. Гэтым шклом была ІНСТРУКЦЫЯ. Яна забараняла любыя кантакты са

зняволенымі, акрамя хіба аднаго – аўтаматнай чаргі пры спробе ўцёкаў або нападу на канвой. Салдаты ведалі, што зэкі, ды яшчэ берлагаўцы, – ворагі народа, здраднікі, бандыты, якія толькі і мараць, каб уцячы ды пайсці забіваць і рабаваць савецкіх людзей. Таму і трымаюць іх у асобных лагерах, на асобных рэжымах. Праўда, падчас іх службы ні адзін з зэкаў нікуды не ўцёк, нікога не забіў, але гэта — толькі дзякуючы іх салдацкай пільнасці, як кажа нампаліт. Іншы раз салдатаў здзіўляла і тое, што гэтых небяспечных людзей час ад часу выпускаюць на волю, і тады яны чамусьці перастаюць быць небяспечнымі. Яны жывуць тут жа ў пасёлку, у бараках, побач з казармаю, свабодна ходзяць па пасёлку, працуюць разам з вербаванымі, разам з імі п'юць спірт, а сёй-той, хоць і рэдка, нават з'язджае на мацярык.

І гэты былы зэк, які едзе разам з імі, паводзіць сябе ціха, нават незалежна. Не звяртае на іх ніякай увагі. Інструкцыя на яго ўжо не распаўсюджваецца, але салдаты не адважваліся першыя загаварыць з ім. Калі б хто-небудзь з іх ехаў сам-насам з гэтым хлопцам, загаварыў бы абавязкова, а так адзін асцерагаўся другога, таму што баяўся, што той абавязкова данясе нампаліту. А нампаліт такія паводзіны не пахваліць. Для яго зэк – заўсёды зэк. Сёння ён на волі, а заўтра зноў стане зэкам. Гэта нампаліт паўтарае кожны раз на палітзанятках.

Сяргей Казак таксама ляжаў моўчкі. У яго свядомасці салдаты атаясамліваліся з канвоем, які быў неразлучны з ім чатыры з паловай гады, які мог у любую хвіліну прычапіцца, урэзаць па гарбу, надзець наручнікі, а то і паласнуць з аўтамата. І хоць цяпер ён быў ужо вольны і не залежны ад салдатаў, гэты

факт яшчэ не замацаваўся ў яго свядомасці. Падсвядома гэтыя салдаты засланілі яму волю. І на волі, як быццам, і тыя ж салдаты з аўтаматамі — побач. Нібы яны пільнуюць яго і цяпер.

Зрэшты, як падумаць, то якая гэта воля? Пашпарта няма — даведка аб вызваленні. А які гэта дакумент? Цяпер ён нібы і не існуе. У лагеры быў зэкам. Яго ахоўвалі, пералічвалі і кармілі два разы на дзень. А тут — сам па сабе. Нікому, акрамя каменданта, і не патрэбен. Дый пасёлак — тая ж зона, толькі большая і без дроту. З пасёлка, без дазволу каменданта, не зробіш і кроку. А ў дадатак трэба самому думаць і аб працы, і пра ежу. Праца ж нічым не адрозніваецца ад зэкаўскай. "Спецкацялкі"* працуюць у тых самых штрэках разам з зэкамі. Усяго і розніцы, што “вольныя” за сваю працу атрымоўваюць грошы, а зэкі — лагерны паёк.

Асвойтаўшыся на санях, Сяргей усхвалявана азіраўся па баках. Усё вакол было белае: высокія, крутыя справа і больш пахілыя злева горы, белая дарога, а дакладней, след ад трактара, што слаўся ззаду, белае неба, і на ім — белае сонца. Яно здаецца не сонцам, а асляпляльна-белаю бясконтурнай плямай. Зірнеш на гэтае сонца, адвядзеш вочы ўбок — і ўсё здаецца чырвоным, нібы ў крыві. Белы-белы снег іскрыўся мірыядамі іскрынак, якія ўспыхвалі ўсімі колерамі вясёлкі і рэзалі вочы. Глядзець на гэтую белізну можна было толькі прымружанымі вачамі. Сяргей ведаў, што, пабыўшы пару гадзін на такой белізне без акуляраў, чалавек слепнуў, як нахапаўшыся “зайчыкаў” ад электразваркі, і пасля не мог зусім глядзець на свет. Без акуляраў тут ніхто не

* **"Спецкацялкі"** – былыя зняволеныя спецпасяленцы.

працаваў. Былі яны і ў Сяргея. Як і ў іншых зэкаў – самаробныя, з кавалачкаў зялёнага бутэлечнага шкла, зашытага ў анучку. Але Сяргей акуляраў не надзяваў. Ён любаваўся гэтай цудоўнай белізной. Такой прыгажосці ён дагэтуль не бачыў. Ды і калі яму было што бачыць? На шахту гоняць зацемна, з шахты – зацемна. Хіба і пабачыш тое сонца, калі выпадзе выскачыць днём на некалькі хвілін з шахты, ды яшчэ летам, у чаканні разводу. Але сонца тады бывае ўжо за гарою. Калі ж працуеш у начную змену і ўдзень, прачнуўшыся, выйдзеш на двор, нічога прыгожага не пабачыш: з аднаго боку – высачэзная, да самага неба, крутая сопка, з другога – даволі палогі схіл гары, на якой размешчаны руднік і фабрыка. А з усходу і захаду – высокія горы і лагерны плот. Ды і не да прыгажосці ў лагеры. А тут ён быў, нібы на іншай планеце. Ні лагера, ні рудніка.Нават гэтыя суседзі-салдаты выглядалі неяк недарэчна, хоць і вярталі яго да рэчаіснасці, нагадвалі, што і лагер, і руднік былі і ёсць. І зусім недалёка адсюль.

Калі дарога набліжалася да крутой гары і сонца хавалася за гарою, Сяргей поўнасцю расплюшчваў вочы і бачыў, што белізна, якая панавала ўсюды, была рознай: схілы гор на сонечным баку былі бліскуча-белыя, а ў складках, куды прамыя сонечныя промні не траплялі, яны былі больш цёмныя, месцамі нават шэрыя, у глыбіні распадкаў – сінія. На схілах гор сінелі ўдалечыні і зелянелі зблізку, ярка выдзяляючыся на белым снезе, лапіны сланіку, які яшчэ не залёг пад снег на зіму. І неба было не белае, а светла-блакітнае, чыстае-чыстае, без адзінай аблачынкі, высокае-высокае. І дзівіўся Сяргей здольнасці прыроды намаляваць такую цудоўную карціну толькі двума колерамі.

Усё вакол было нерухомае. Здавалася, што кругом пануе бязмежная белая пустыня, ці белае маўчанне, як сказаў бы Джэк Лондан. Але Сяргей разумеў, што не мёртвая пустыня пануе тут. Летам у зарасніках сланіку жыравалі жвавыя паўночныя мышкі і паласатыя бурундукі, якія бегалі нават на схіле гары, недалёка ад рудніка. Ім і цяпер, пэўна, не надта холадна пад лапкамі сланіку, укрытага снежнаю коўдрай, дзе ў дадатак поўна смачных арэхаў. Сям-там, далей ад дарогі, тырчалі голыя, нібы ссохлыя, нятоўстыя лістоўніцы. А справа, то аддаляючыся, то набліжаючыся, цякла невялічкая рачулка. Сяргею здавалася, што ён едзе па роўнай дарозе, а рэчка цячэ насустрач – уверх. Уражанне было такое яркае, што не паверыць было нельга, хоць гэта супярэчыла здароваму сэнсу: рэчка цячэ насуперак законам прыроды – уверх. Парадокс, дый толькі. Аб такім ён калісьці, яшчэ ў школе, чуў – існаваў гэты парадокс пад Алма-Атою, па дарозе на Медэа. Яго паказвалі турыстам. Сам ён такое бачыў упершыню.

Калі ўзрушэнне паціху пачало спадаць, а вочы стаміліся ад яркага сонца, Сяргей, заплюшчыўшы іх, стаў успамінаць свой сённяшні, такі надзвычайны дзень, які зрабіў пералом у яго жыцці.

Брыгада Мельніка, “разабраўшыся” па пяць і ўзяўшыся пад рукі, ужо падыходзіла да варот, калі нарадчык раптам сказаў: “Казаку застацца ў зоне”.

Як токам, стукнула Сяргея: “На волю!” Захваляваліся і брыгаднікі, збіліся ў кучу. Усе пачалі віншаваць Сяргея, ціснуць рукі, жадаць шчасця на волі, але дзяжурны па лагеры закрычаў: “Разабрацца па пяць!” Сяргея выпіхнулі з калоны, як вада выкідвае з віру і адбівае да берага трэску. Брыгада, па камандзе: “Першая, другая, трэцяя!” — скіравалася да варот, а

Сяргей, разгублены, збялелы, стаяў на ўзбочыне побач з нарадчыкам. Думкі віхурай круціліся ў галаве: "На волю! Нарэшце – на волю!" Моцна стукала сэрца, ды мільгалі і іншыя, здрадніцкія, думкі: "А можа, і не на волю? Можа, зноў зачытаюць новае рашэнне ОСО* – прадоўжыць тэрмін зняволення..." Так ужо бывала не раз: дачакаецца зэк канца тэрміну зняволення, каторы нават і на працу не ходзіць тыдзень-другі, а то і месяц, ні зэк, ні вольны, чакаючы з Масквы дазволу на вызваленне, а адтуль прыходзіць папера, дзе тое ж ОСО дадае яшчэ два, тры або і пяць гадоў зняволення па той жа "справе". І зэка зноў гоняць у шахту, і ён працягвае несці свой крыж фактычна бестэрмінова. Таямнічае ОСО, якога ніхто ні разу не бачыў, было самым страшным судом. Нечаканая затрымка зэка ў зоне амаль заўсёды палохае, бо часцей за ўсё тоіць небяспеку. Таму спалохаўся і Казак.

Дакладнага тэрміну свайго вызвалення Казак, як і ўсе зэкі, не ведаў. Гэта на Захадзе, як баялі зэкі, калі цябе пасадзілі ў тры гадзіны ночы, то пасля сканчэння тэрміну зняволення выганяць з турмы ў тры гадзіны ночы. Ды тое на Захадзе... Тэарэтычна Казаку заставалася сядзець яшчэ тры з паловай гады, але былі залікі: пры перавыкананні нормы можна было атрымаць залік – скарачэнне тэрміну на адзін-тры дні за адзін дзень. Калі выканаеш норму на 111 працэнтаў – адзін дзень, калі на сто дваццаць – два дні, а на сто трыццаць – тры дні за адзін дзень. Праўда, нормы былі такія, што і на сто працэнтаў іх выканаць было немагчыма. Для высокіх паказчыкаў існавала туфта. Яна ў катаржнай працы зэка была галоўным

* **ОСО** –"Особое совещание" – камісія пры МДБ, якая завочна выносіла прысуд.

выратаваннем ад смерці. І залежала яна ад зняволенага брыгадзіра і вольнага майстра. Калі брыгадзір разумны, а яшчэ лепш – вынаходлівы, а майстар чалавечны, брыгада жыла: былі і працэнты, і пайка, і залікі, а значыць, і жыццё. Трапіцца брыгадзір-гад – не будзе ні працэнтаў, ні пайкі, ні залікаў. І пасыплюцца зэкі ў дахадзягі, а адтуль – пад сопку. Іхні брыгадзір быў чалавек. Разумны хлопец, інжынер на волі, ён добра ладзіў з майстрам, і брыгада заўсёды норму перавыконвала. Самыя высокія працэнты, з агульнай згоды брыгаднікаў, пісаліся тым, у каго былі кароткія тэрміны зняволення – можа, хоць ім удасца дацягнуць да волі. У каго было "дваццаць пяць па нагах і пяць па рагах", тым выпісваліся працэнты сярэднія – каб толькі пайка была большая. Працэнты іх цікавілі мала. На бурэнні не вытрымаеш і дзесяці гадоў, ужо праз пяць у бурыльшчыкаў развіваліся сілікоз і вібрацыйная хвароба, і іх здымалі з бурэння, а то і пераводзілі ў інваліды.

Кароткатэрміновікі самі вялі падлікі свайго тэрміну зняволення і ўпотай вылічвалі дзень вызвалення. Галоўны ж падлік быў у ПВЧ*. Там — свая бухгалтэрыя. Іх падлікі часта разыходзіліся з зэкаўскімі. Зэк налічыць сабе волю і бяжыць да нарадчыка, а той сходзіць у ПВЧ і прынясе навіну: сядзець табе, браток, тыдзень-другі, а то і больш. І сядзіць зэк, а дакладней – ходзіць у шахту, хвалюецца і зноў лічыць і са страхам чакае новага дня. Дні тыя цягнуцца марудна-марудна, нервы нацягваюцца, як струны, і не есць зэк, і не спіць, і ўсё валіцца з рук. За гэтыя дні чалавек даходзіць больш, чым у БУРы** на трохстах грамах хлеба і вадзе.

* **ПВЧ** – планава-вытворчая частка.

** **БУР** – барак узмоцненага рэжыму.

# У нас

Па заканчэнні разводу, нарадчык сказаў: “Ідзі і збірайся. Хутка прыйдзе Лялін. Пойдзеш на волю”. Сяргей глыбока ўздыхнуў. Адлягло ад сэрца. Ён паволі пайшоў у барак. Збіраць яму не было чаго. З рэчаў у Сяргея была толькі лыжка, затое адмысловая: з ручкай у выглядзе голай жанчыны. Лыжку Сяргей, як і ўсе зэкі, насіў з сабою, хоць карыстаўся ёю два разы на дзень. Мог бы абысціся без яе: суп-рататуй можна было выпіць цераз край міскі, кашу-размазню – англійскую дыетычную аўсянку – таксама можна было выпіць, а сценкі міскі ўсё адно даводзілася вычышчаць скарынкаю хлеба. Ну, а для кавалка манкі-запяканкі, што ішла на працэнтную дабаўку, лыжка таксама не патрэбная. Так што лыжкі фактычна не былі патрэбныя зусім, і многія зэкі абыходзіліся без іх. Сяргей бярог гэтую лыжку як падарунак лепшага сябра – Косці Андрэйчанкі. Іншых асабістых рэчаў у Сяргея не было. Ён, як той рымлянін, усё сваё насіў з сабою.

Бегаць па бараках не было сэнсу: брыгада пайшла на працу, а з Косцем, таксама былым студэнтам, Сяргей ужо даўно ўсё абгаварыў. Ужо даўно было намечана, што Сяргей напіша ягоным бацькам па выхадзе на волю, бо ў лагеры ім дазвалялася пасылаць толькі два лісты на год. Адрас Косцевай дзяўчыны Сяргей завучыў на памяць, і тэкст Косцевага ліста запомніў таксама.

У бараку ягонае месца было занята напарнікам па ложку, бурыльшчыкам з другой брыгады. Спалі яны па чарзе: адзін ноччу, другі – днём. Яны амаль не ведалі адзін аднаго, бо спатыкаліся толькі падчас святаў, калі зэкаў на працу не ганялі. А святаў на год было ўсяго шэсць.

Сяргей крыху пасядзеў з днявальным – старым

украінцам-заходнікам, – які, пачуўшы ад Сяргея, што той ідзе на волю, уздыхнуў і сказаў: “Дай Бог шчасця”. Днявальнаму такое шчасце не свяціла нават на гарызонце – у яго была "поўная катушка". І ўжо цяпер ён быў інвалідам.

Хутка прыбег пасыльны ад нарадчыка: “Ідзі, чакае Лялін”.

На вахце дзяжурны наглядчык загадаў распрануцца да сподняга. Ён старанна агледзеў вопратку, прамяў усе рубцы, загадаў зрэзаць латкі з нумарамі на шапцы, сцягне і на спіне. На месцах, якія знаходзіліся пад нумарамі, выступалі цёмна-шэрыя квадраты нявылінялай тканіны. Па іх усюды можна было бачыць: гэта – былы зэк-берлагавец, значыць, контрык.

Наглядчык адвёў Сяргея ў штаб лагера, які знаходзіўся адразу за “прылазнікам”*.

Начальнік спецчасці, лейтэнант Лялін, ужо чакаў. На стале ляжалі Сяргеева асабовая справа і запоўненая даведка аб вызваленні. Лялін, падаючы руку, ветліва сказаў: “Віншую вас, таварыш Казак, з вызваленнем. Жадаю поспехаў на волі”. Сяргей збянтэжана падзякаваў. Яго нават апякло слова “таварыш”. Гэтае слова было выкрэслена з лексікону ў адносінах паміж зэкамі і начальствам. Нават яшчэ падчас следства, калі ў гарачцы спрэчкі падследны звяртаўся да следчага са словамі “таварыш следчы”, той злосна бурчаў: “Тамбоўскі воўк табе таварыш”. У лагеры гэтага слова наогул не існавала, а тут зноў – таварыш! І так цёпла ўсміхаецца гэты пажылы лейтэнант... Відаць, сапраўды ён добры чалавек і жадае Сяргею дабра.

---

* "Прылазнік" – прадзоннік перад уваходам у лагер.

– А цяпер ідзіце да спецкамендантa. Ён знаходзіцца ў канторы рудніка. Ён і раскажа вам, што рабіць далей.

– Да пабачэння, – сказаў Сяргей.

– Не "да пабачэння", а бывайце, – папраівіў яго Лялін. – Не хацеў бы я з вамі тут яшчэ раз бачыцца, ды і вам гэта не патрэбна.

Казалі, што Лялін быў самым добрым чалавекам з усяго лагернага начальства. Да зэкаў ён заўсёды ставіўся па-людску. Праўда, зэкі з ім спатыкаліся рэдка: калі прыходзіла якая-небудзь паперка – адказ на скаргу з Масквы – і пры вызваленні. А яшчэ пры провадах нябожчыка пад сопку. Туды, на лагерныя могілкі, Лялін суправаджаў асабіста. Казалі, што Лялін заўсёды адварочваўся, калі наглядчык перад тым, як выпусціць з лагера мёртвага, пратыкаў яму жывот вострым жалезным прутом. Падчас пахавання ён моўчкі курыў, чакаючы, пакуль зэкі засыплюць раздзетага да бялізны нябожчыка і ўваткнуць у мёрзлы грунт калок з таблічкаю, на якой напісаны толькі лічбы – нумар рада і нумар магілкі. І на той свет зэкі ішлі толькі пад нумарамі. Казаку пашэнціла – ён пакінуў лагер сваімі нагамі.

Развітаўшыся з Лялiным, Сяргей выйшаў на ганак. Агледзеўся і разгубіўся. Каля дома нікога не было. За дваццаць метраў быў лагер. У другім баку – пасёлак. Вось стаіць ён адзін. Няма з бакоў сяброў, якія падтрымліваюць цябе пад пахі і надаюць упэўненасці, адчування, што ў натоўпе ты заўсёды нібы абаронены ад небяспекі. І ніхто цябе не сцеражэ, ніхто на цябе не крычыць. Ідзі куды хочаш. Свабода! Зрэшты, не "куды хочаш", а да каменданта. І рушыў ён паціху, нясмела, баючыся, што вось-вось хтосьці крыкне: "Стой! Рукі назад!" Ніхто не крычаў.

Праходзячы ля казармы, дзе на двары, ля нейкай скрыні, увіхаліся некалькі салдат, Сяргей мімаволі ўзяў крыху ўбок, але салдаты не звярнулі на яго ўвагі.

Камендант, сярэдніх гадоў капітан, моўчкі ўзяў Сяргееву даведку, бегла зірнуў на яе, моўчкі дастаў з шуфляды вялікую канторскую кнігу і запісаў у яе ўсе даныя з даведкі.

– У нас парадак просты: з пасёлка без дазволу не выходзіць. Кожную нядзелю прыходзіць сюды і распісвацца ў гэтай кнізе. Усё. Можаш ісці.

– А куды ісці? Дзе мне жыць? – разгубіўся Сяргей.

– А гэта не мая справа. Ідзі ў кадры. Там афармляйся на працу. Яны і дадуць жыллё.

У камбінацкім аддзеле кадраў, які знаходзіўся ў гэтым жа будынку, сядзеў важнага выгляду чыноўнік у ваенным кіцелі з сінімі кантамі. Ён зразумеў, хто перад ім і чаго прыйшоў, але Сяргееву даведку чытаў доўга, уважліва, нібы шукаючы за кожнай літарай чагосьці нябачнага, зашыфраванага.

– Куды мне ўваткнуць цябе? – задумліва спытаўся начальнік.

“Уваткнуць, нібы кол у зямлю, – падумаў Сяргей. – Уваткне, і буду тырчаць вечна”.

І тут адчыніліся дзверы кабінета. На парозе з’явіўся Андрэй Булыка – яго лепшы сябра, які год назад вызваліўся з лагера. Яны здзіўлена паглядзелі адзін на аднаго. Андрэй усё зразумеў, але не падаў выгляду перад былым чэкістам.

– Мікалай Іванавіч, – звярнуўся Булыка да начальніка аддзела кадраў. – На Перавале не засталося ні аднаго чалавека. Адзін паехаў на мацярык, а другі захварэў. Толькі што ён прыехаў у пасёлак. Кладуць у бальніцу. А без чалавека, самі ведаеце, там нельга.

– А дзе я вазьму табе людзей? Шукай сам, – незадаволена адказаў Мікалай Іванавіч.

– А дайце мне яго, ён, пэўна, яшчэ нідзе не працуе.

– Бяры, калі хочаш. Мне менш турбот.

– То дзякую.

– Пачакай, вось афармлю яго. А ты схадзі да каменданта па дазвол. Дазволіць – бяры.

– Гэта я мігам.

Кадравік не паспеў запоўніць анкеты, як з'явіўся Андрэй.

– Усё ў норме. Дазволіў. Хадзем.

Толькі на калідоры яны моцна, па-мужчынску, абняліся.

– Вось добра, Сярожка, што я цябе спаткаў. Будзеш у нашай брыгадзе. Хадзем у барак. Выдзелю месца. Зрэшты, месца табе пакуль што не патрэбна. Табе ехаць на Перавал.

– А дзе гэты Перавал? І што там рабіць? – разгублена спытаў Сяргей.

– Перавал за дваццаць кіламетраў адсюль, на перавале. Там дамок, накшталт дома адпачынку для падарожнікаў, што едуць да нас і ад нас. Там часта бываюць бураны і дарогу перамятае на некалькі дзён. Будзеш начальнікам гэтага дома адпачынку. Праца не цяжкая – як у днявальнага ў бараку: паліць печку, каб заўсёды было цёпла, бо людзі могуць заехаць у любы час. Трэба іх сагрэць. А калі здарыцца, то і пакінуць на начлег. Ездзяць не кожны дзень. Значыць, і працы будзе няшмат. Адно толькі нязручна – тыдні са два давядзецца пажыць аднаму.

– Як гэта аднаму?

– Ты ж чуў, што там нікога няма. Праз тыдні

 





два напарнік вылечыцца, і вы будзеце ўдвух. А калі ты не захочаш, то я забяру цябе ў пасёлак. Сёння трэба паслаць чалавека. Мае ж усе на працы. А трактар ідзе праз гадзіну. Так што пара збірацца.

Сяргей маўчаў.

– Ты не сумуй, Сярожка. Я да цябе праз два-тры дні прыеду. Калі не спадабаецца, забяру да сябе. Табе трэба адпачыць, пабыць аднаму, сабрацца з думкамі. Ды і гэты чмыр, – кіўнуў на дзверы начальніка аддзела кадраў Андрэй, – паслаў бы цябе куды-небудзь у лес. Ён жа былы опер, якога выперлі з МГБ. На нас ён глядзіць, як Ільіч на буржуазію. Хадзем збірацца.

– А што збіраць?

–Па-першае, трэба ўзяць прадуктаў на пару тыдняў. Тут так: едзеш на дзень — прадуктаў бяры на тыдзень.

– А дзе іх браць?

– У краме, браце, у краме, – засмяяўся Андрэй.

– Дык у мяне ж грошай няма.

– Не бядуй. Ёсць у мяне – значыць, будуць і ў цябе. – Андрэй дастаў з кішэні пачак грошай. – На, трымай. На першы час хопіць, а пасля будзе аддаць. Хадзем у краму. Толькі спачатку зойдзем у барак. Я цябе пазнаёмлю з напарнікам, дый мяшкі для прадуктаў і санкі трэба захапіць, каб не цягаць груз на плячах.

Барак – як і лагерны, толькі тапчаны аднаярусныя, ды ля кожнага стаялі скрынкі для асабістых рэчаў. Пасярэдзіне, як і ў лагерным бараку, вялікі стол, ля яго лаўкі. І печка такая ж: з бочкі. На адным з тапчаноў ляжаў сярэдняга веку чалавек.

– Валера, – з парога сказаў Андрэй, – я знайшоў табе замену. Раскажы яму, што і як.

Валера сеў на тапчане, падаў руку. Скура на



 

ягоным твары была бурая, як у якута. Пры гутарцы ён пакашліваў.

– Работа няцяжкая. Першае – абагрэць хату. Каб не замерзнуць самому. Метраў за дзвесце ад дома на дарозе ляжыць куча сланіку. Мы яго нацягалі да дарогі, але не паспелі перацягнуць да дома. Пастарайся перацягаць. І рабі гэта адразу, не чакаючы ні дня, пакуль не было бурану, бо калі занясе снегам, цягаць будзе цяжка. За домам, пад вуглом ляжыць ключ ад дзвярэй, ён прыкрыты каменьчыкам. У другім пакоі, пад сталом – тайнік з прадуктамі. Там – эн-зэ. Бяры, калі спатрэбіцца. Я вярнуся, будзем удвух.

– А што мне браць з сабою? – зноў спытаў Сяргей.

– Хадзем у краму, там разбярэмся, – сказаў Андрэй.

У краме Сяргей разгубіўся – яна была поўная прадуктаў. І выбар быў вялікі: кансервы, згушчонае малако, шпіг, масла, каўбасы, канцэнтраты. А яны ўсе гэтыя гады не наядаліся нават хлеба, простага чорнага хлеба. Ад крыўды вочы напоўніліся слязамі.

Андрэй узяў паперку і склаў спіс прадуктаў. Прадавец стаў іх насіць на прылавак. Сяргей са здзіўленнем паглядаў на харч. Там былі макароны, грэчка, рыс, два дзесяткі бляшанак кансерваў, згушчонага малака, шпіг, масла, соль, цукар, чай, цэлая гара буханак хлеба, і ўсё – белага. Пасля Андрэй папрасіў прынесці тры бутэлькі спірту і пяць пачкаў папярос.

– А гэта нашто? – здзіўлена спытаў Сяргей.

– Хай будуць. Прыеду я. Пасядзім, пагутарым, па чарцы зробім.

Яны ўпакавалі ўсё гэта ў мяшкі і паклалі на санкі.

– Слухай, Андрэй, мне ж трэба даць тэлеграму маме, – сказаў Сяргей.

– Дык пошта побач. Пайшлі.

Сяргей напісаў коратка: "Пішыце пасёлак Каньён да запатрабавання мне".

Выходзячы з пошты, яны заўважылі, што да канторы пад'язджае трактар, які цягне вялікія сані з круглых бярвенняў. На санях ляжалі жалезныя бочкі. Побач сядзелі два салдаты з аўтаматамі. Сяргей аж збялеў. Але салдаты сядзелі спакойна, на іх з Андрэем глянулі абыякава. Андрэй дапамог перанесці мяшкі з прадуктамі і, усміхаючыся, паціснуў Сяргею руку: шчасліва.

Трактарыст развітальна кіўнуў Андрэю, і трактар рушыў.

Пасёлак хутка скончыўся. Справа праплываў руднік, дзе Сяргей правёў пад зямлёю тры з паловаю гады, злева – лагер. На вышках, як звыкла, тырчалі "попкі". І яны сталі нейкімі нязвыклымі, нібы ніякага дачынення не мелі да Сяргея. Хутка і лагер застаўся ззаду, а потым і зусім знік. Знік, як карціна на кінаэкране. Нібы скончыўся кашмарны фільм і Сяргей апынуўся ў зусім іншым свеце, дзе не існавала ні лагера, ні рудніка. Нібы нічога гэтага не было ў сапраўднасці.

Рэальнасцю заставаліся гэтыя два салдаты з аўтаматамі, якія ляжалі побач. Яны напаміналі, што былі і ёсць лагер і руднік. І зусім недалёка – за горкаю.

Салдаты, закрыўшыся каўнярамі, хутка заснулі.

Непрыкметна заснуў і Сяргей. Яму прысніўся сон. Кароткі і яркі, як наяве. Быццам ідзе ён па камяністай дарозе. Адзін. Дарога нейкая нязвыклая. Ён адчувае, што гэта дарога, а яе быццам няма. Раптам пасярод дарогі Сяргей бачыць глыбокую чорную яму,

да краю напоўненую вадою. Вада празрыстая-празрыстая, а на дне ямы нерухома ляжыць Танька, яго былая аднакласніца. Спужаўся Сяргей і, ухапіўшы Таньку за плечы, выцягнуў яе з вады, а яна ператварылася ў страшную ведзьму з доўгімі кашчавымі рукамі і пачала цягнуцца да яго, шэпчучы: "Аддай мне сваё сэрца". Сяргей стараўся адсунуцца ад яе, а пальцы Танькі-ведзьмы ўсё выцягваліся і цягнуліся да ягоных грудзей. Вочы ў яе гарэлі яркім агнём. Раптам яна з усёй сілы штурханула Сяргея ў грудзі, і ён паляцеў у нейкую чорную бездань.

Сяргей прачнуўся. Прачнуўся ад штуршка саней: трактар узбіраўся на горку, трактарыст пераключыў рычаг хуткасці. Сяргеева сэрца калацілася. Салдаты спалі. Ім, як і зэкам, заўсёды не хапала часу для сну.

Пра Таньку ён не ўспамінаў ужо гадоў з пяць, дый у школе яны не сябравалі. Яна была карэнная сібірачка. Яе дом стаяў у суседстве з дамамі дзядзькоў і цётак. У доме тым жыла адна бабуля. Таньчын бацька, супрацоўнік НКВД, служыў на Калыме. Яны там жылі ўсёй сям'ёю. У Залацінку прыязджалі толькі на адпачынак. У сорак першым, перад самай вайною, яны прыехалі на радзіму разам з дзядзькам, які таксама працаваў на Калыме. У першы ж дзень вайны бацька і дзядзька паехалі на Калыму, а маці з Танькаю заставаліся ў бабулі. Тут яна і стала вучыцца ў школе. Таньку ў школе празвалі манголкаю: была яна крыху "няруская" – з раскосымі вузкаватымі вачыма і пуклатымі выліцамі.

У школе Танька трымалася ганарліва і ні з кім не сябравала, бо вельмі ганарылася сваімі бацькам і дзядзькам, але на Сяргея яна звярнула ўвагу адразу, ды Сяргей сябраваць з Танькаю не захацеў. Ён

прыпадаў за Наташкай – дачкою суседкі-настаўніцы. Жылі Наташка з маткаю сціпла. Бацька яе загінуў у фінскую вайну. Худзенькая, яна апраналася бедна, часцей хадзіла ў перашытых матчыных кофтах і спадніцах. Наташка вучылася выдатна і шмат чытала. Яны з Сяргеем мяняліся кніжкамі, сябравалі. Ці то з рэўнасці, ці то са злосці Танька аднаго разу ўголас назвала Сяргея контрай, так да яго і прыліпла гэтая мянушка – Сярожка-контра. Сяргей спачатку крыўдзіўся, але пасля маці растлумачыла яму, што да чаго, і ён змірыўся.

Трапіў Сяргей у гэтыя прыуральскія лясы ў трыццаць восьмым годзе. Пасля арышту бацькі – выкладчыка інстытута – маці выклікалі ў міліцыю і загадалі збірацца на Урал. Зборы былі нядоўгія. Узялі, што маглі панесці з сабою. А што могуць панесці жанчына ды дзесяцігадовы хлопчык? У глухім лясным пасёлку іх загналі ў вялікі барак. У адным пакоі было шэсць сем'яў – дарослых і дзяцей. Толькі мужчын не было. Яны заставаліся ў Менску, і вестак ад іх не было аніякіх. Жанчын паставілі пілаваць лес. Начальнік лесаўчастка, даведаўшыся, што Сяргеева маці – інжынер ды яшчэ ўмее друкаваць на машынцы, паслаў яе, разам з сынам, у суседнюю вёску – на працу ў кантору. Там іх пасялілі ў маленькай і старэнькай хатцы – хібарцы па-мясцоваму, – але і маці, і сын вельмі ўзрадаваліся гэтаму. Яны былі адны. І суседзі аказаліся добрыя: настаўніца, Наташка і яе бабуля. Наташчына бабуля ўпотайкі дапамагала ім: і сеннікі дала, і коўдры, і посуд з лыжкамі прынесла. Дый бульбы цэлы мяшок насыпала. А вечарам стала ставіць пад лаўку збаночак малака.

Маме далі ў канторы дроў. Сяргей пакалоў іх і

склаў на мяжы паміж дварамі. Мама сказала, каб бабуля брала дровы як свае.

Бабуля адшукала пад страхою вуды і навучыла Сяргея рабіць мушкі. Ён з Наташкаю стаў хадзіць на рэчку. Улоў быў невялікі, але хапала на юшку абедзвюм сем'ям. А пасля Сяргей з мясцовымі хлопцамі пачаў хадзіць на рыбалку за гару, на большую рэчку. Адтуль ён прыносіў па добрай торбе харыуса. Баба Насцёна выдзеліла ім невялікую бочку і навучыла і саліць, і вяліць рыбу. Рыбаю Сяргей забяспечваў дзве сям'і. Улетку збіралі ягады – у гарах было іх шмат. Ягады сушылі, варылі з іх варэнне. Увосень пайшлі грыбы. Грыбоў тут кожны насольваў па бочцы – каб на ўсю зіму хапала. У вайну стала горш. Маму зноў паслалі ў лес. Але яны ўжо прыжыліся і вайну перанеслі даволі лёгка. Толькі хваляваліся за бацьку і блізкіх, якія засталіся пад немцамі. У газетах кожны дзень пісалі пра зверствы захопнікаў, і кожны раз перад іх вачыма паўставалі родныя, якіх катуюць немцы.

Пасля вайны маці зноў перайшла ў кантору, а Сяргей працягваў вучыцца.

Сяргеевы бацькі былі не распісаны. Да вайны гэта лічылася неабавязковым. Любяць адно аднаго – і добра. Пасля арышту бацькі гэта выратавала маці – не трэба было адмаўляцца ад мужа і браць развод. Тут, праўда, гэта не мела значэння – большая частка насельніцтва пасёлка былі ссыльныя. Калі Сяргей заканчваў школу, тое, што бацькі не былі ў шлюбе, нават дапамагло. Яны вырашылі, што трэба паспрабаваць шчасця ў Ленінградзе: там жылі дзве маміны цёткі, прозвішча іх было таксама Казак. Сяргей сабраўся паступаць на гістарычны факультэт

універсітэта. У Ленінград – у педінстытут – збіралася і Наташка.

Сваю дружбу Сяргей з Наташкаю не хавалі. Ды хіба што схаваеш у вёсцы? Там, як у песні пяецца, "ни сойтись-разойтись, ни сосвататься в стороне от придирчивых глаз". Таму нічога дзіўнага не было, што разам з Сяргеем едзе і Наташа. Дый маткі былі задаволены – у Наташы будзе падтрымка, і Сяргею не будзе сумна.

А Танька пасля заканчэння школы паехала да бацькоў на Калыму. На гэтым іх адносіны і спыніліся.

Вучоба ішла нармальна. На канікулы яны з Наташаю прыехалі разам. Маткі ціха радаваліся: можа, будзе добрая пара.

Арышт Сяргея, следства, восем гадоў па ОСО разбурылі ўсе планы. Наташа закончыла інстытут, вярнулася ў Залацінку настаўніцай. Пісаць Сяргею лісты стала, як толькі ўведала адрас. Яна не магла паверыць, што Сяргей у чым-небудзь вінаваты, дый сам ён гэтак лічыў. Проста так павярнулася да яго фартуна. На другім курсе спецчасць усё ж выведала, што ён – сын "ворага народа". МГБ падаслала свайго хлопца. Той "пасябраваў" з Сяргеем. Гэты хлопец любіў расказваць анекдоты. Неяк расказаў анекдот і Сяргей. Пра Сталіна. Праз месяц Сяргея арыштавалі. Каб судзіць трыбуналам, пэўна, было мала матэрыялу, таму адправілі справу ў Маскву, а там ОСО дало дзіцячы тэрмін – восем гадоў. Праз чатыры з паловай выйшаў. І вось едзе на новае месца.

Сяргей здзівіўся: чаму прыснілася Танька? Не Наташа, а Танька...

Трактар узбіраўся на гару. Сані час ад часу торгаліся – трактарыст пераключаў хуткасць. Калі

трактар набліжаўся да скалы, зверху на твар сыпаліся дробныя, як пыл, сняжынкі. Яны праганялі сон. А салдаты спалі, закрыўшы твары вялікімі каўнярамі.

Паторгаўшыся яшчэ з паўгадзіны, трактар рэзка ўзяў направа і спыніўся на амаль роўнай пляцоўцы, якая ўпіралася ў адвесную скалу і ля якой туліўся невялікі дамок. На пляцоўцы стаялі такія ж драўляныя сані, з дзесятак бочак, ляжалі аўтамабільныя колы, тракі ад трактароў. Не глушачы матора, трактарыст высунуўся з дзверцаў і махнуў рукою: вылазь, прыехалі. Прачнуліся салдаты, Сяргей моўчкі перанёс свае клумкі на зямлю. Трактарыст коратка прасігналіў на развітанне, і трактар рушыў далей. Праз метраў чатырыста ён павярнуў направа і знік за гарою.

Сяргей застаўся адзін. Ён стаў аглядацца. Здалося, што стаіць ён на выступе вялізнай белай чашы. Унізе, метраў за пяцьсот, вілася ледзь прыкметная чорная нітачка тае рачулкі, ля якой яны спачатку ехалі. Злева, паміж тычак, пралягаў след ад іх трактара. Супрацьлеглы схіл гары мякка зліваўся з небам. Вакол стаяла абсалютная цішыня, і захацелася Сяргею ўзняць рукі, узмахнуць імі, як крыламі, узняцца ўвысь, падняцца над гэтымі маўклівымі гарамі, ляцець над імі і любавацца гэтай халоднаю мёртваю пустыняй. Захацелася забыцца на каньён, на лагеры, на каменданта, на генерала Нікішова, на вусатага "бацьку". Захацелася стаць свабодным, ні ад кога не залежным. Застацца тут назаўсёды. Але ад гэтай апошняй думкі яму раптам стала страшна. Аж дрыжыкі прайшлі па спіне. Ён спалохаўся, што сапраўды можа застацца тут назаўсёды – замерзнуць у гэтай мёртвай вечнасці. І будзе ён тут стаяць ці ляжаць такой жа нерухомай халоднай ільдзінай, аж пакуль асляпляльнае сонца не спусціцца з халоднага

неба і не растопіць усяго гэтага бязмернага і бязмежнага белага маўчання. Нікому ён тут не будзе патрэбен – ні каменданту, ні нават вусатаму "бацьку", якога цікавілі толькі жывыя контрыкі.

Спусціўшыся ад сваіх мараў на зямлю, Сяргей пайшоў шукаць ключ.

Сяней не было. Дзверы адчыняліся адразу ў пакой. У першым пакоі, ля сцяны, адзін на адным ляжала некалькі дашчаных шчытоў, на іх – куча сennікоў: пасцелі для выпадковых начлежнікаў. Ля акна прытуліўся вялікі стол, ля яго – дзве лавы. У цэнтры стаяла тыповая калымская печка – бочка з-пад бензіну з выразанымі дзвюма дзіркамі – для коміна і топкі. Самаробны бляшаны комін выходзіў праз дзірку ў столі. На печцы стаялі вядро з вадою і алюмініевы чайнік.

Другі пакой быў меншы, але больш абжыты. На сцяне віселі некалькі афіш з партрэтамі кінаактрыс. Стаялі два тапчаны, засланыя старэнькімі салдацкімі коўдрамі, на тапчанах нават ляжалі падушкі ў навалачках незразумелага колеру, ля тапчаноў месціліся дзве скрынкі-тумбачкі, ля акна – невялікі столік, над столікам – палічка з блішчастымі, як залатымі, міскамі, зробленымі з вялікіх бляшанак з-пад кансерваў; на другой палічцы ляжала колькі зачытаных кніжак; на падаконніку – некалькі капцілак, таксама з бляшанак. Печка – такая ж, як і ў першым пакоі, напалову меншая; каля печкі – кучка нашчапаных дроў і дзве сякеры.

Агледзеўшыся і крыху пасядзеўшы на тумбачцы, Сяргей стаў разважаць: з чаго ж пачынаць сваё новае жыццё? З цяпла, зразумела. Трэба спачатку распаліць печку, затым занесці рэчы, перакусіць і брацца за

выкананне наказаў напарніка – нацягаць тых сланікавых лапак, што ляжалі ля дарогі.

Набіўшы печку сланікам, Сяргей паклаў зверху сухія трэскі, а пасля выліў бляшанку саляркі. Сланік, хоць і сыры, загарэўся. Высмактаўшы цэлую бляшанку згушчонкі, Сяргей пайшоў шукаць той сланік на дарозе. Ён ляжаў у вялікай кучы, метраў за дзвесце ад дамка. Яго насеклі і нацягалі да дарогі са схілаў гары папярэднікі Сяргея. Зімою да сланіку дабірацца цяжка, а цягаць – яшчэ цяжэй: ён прыціснецца да зямлі, заб'ецца снегам і зверху пакрыецца ім, як шубаю, – і не прыкмеціш.

"О, дык тут яшчэ і шышак шмат. Будзе забава", – узрадаваўся Сяргей, разглядваючы кучу.

Падхапіўшы пад пахі па галіне, ён пацягнуў іх да дамка, замятаючы, нібы маскіруючы, свой след. Праца ішла лёгка, працавалася з ахвотай. Ніхто не падганяў, ніхто не стаяў над душою. Куча сланіку расла ля дома. А на дварэ пачало месці. Спачатку вецер быў невялікі, але пад вечар пачаў мацнець. З гор пачуўся невыразны гул. Ён з часам усё мацнеў. Гул быў нейкі незнаёмы, манатонны і трывожны, ні на што не падобны. І неба пацямнела, сонца паблякла. "Пэўна, набліжаецца буран,– падумаў Сяргей. – Трэба нацягаць як мага больш сланіку." Вецер ужо стаў замятаць ягоны след. Сонца схавалася за гару, а Сяргей усё цягаў сланік. "Трэба кідаць", – вырашыў Сяргей, калі стала цёмна і ўсхадзіўся моцны вецер. Але яму чамусьці захацелася – нібы хтосьці яго цягнуў да гэтае кучы – яшчэ раз схадзіць па сланік. Падкінуўшы дроў у печку, ён пайшоў ізноў. Падышоўшы да кучы і збіраючыся ўзяць падпашкі канцы галін, ён раптам заўважыў уваткнутыя ў снег дзве лыжныя палкі і

нешта чорнае на лапках. Аж аслупянеў Сяргей ад здзіўлення – няўжо пачаліся галюцынацыі? Чуў ён, што такое з людзьмі здараецца, калі яны бываюць доўга адны. Але палкі былі сапраўдныя. Сяргей дакрануўся да іх рукамі і адчуў холад. На сланіку ж, на баку, адвярнуўшыся ад ветру, нібыта адпачываючы, ляжаў чалавек. Сяргей нагнуўся і ўбачыў, што гэта дзяўчына. Пакратаў за плячо, але яна не рэагавала. Зубы яе дробна-дробна трымцелі.

Дзяўчына была сярэдняга росту, адзетая ў спартыўны касцюм, што яшчэ больш здзівіла Сяргея. Ён узваліў яе на спіну. Не надта і цяжкая, як тэдэскоп, што даводзілася кожны раз цягаць у забой і з забою. У пакоі ён паклаў дзяўчыну на тапчан і сеў аддыхацца.

“Во прыгода! Толькі гэтага мне не хапала. А Андрэй казаў: ціхае, спакойнае жыццё... Нішто сабе спакой...” Аддыхаўшыся, Сяргей накідаў у печку дроў ды плюхнуў бляшанку саляркі. Агонь зашугаў. Сяргей стаў узірацца ў твар дзяўчыны. Штосьці знаёмае падалося ў яе абліччы. Раскосы разрэз вачэй, рэзка выступаюць выліцы. Яна нагадвала Таньку. Але пры чым тут Танька? Гэта ж Калыма. Тут усе жанчыны падобныя да кітайцаў ці японцаў – усе на адзін твар, як казалі ў лагеры.

Ён хацеў быў расцерці дзяўчыну снегам. Але як расціраць снегам, калі яна і так дрыжыць? Ведаў Сяргей, што для расцірання карыстаюцца спіртам. Ён кінуўся да сваіх мяшкоў. Дастаў бутэльку спірту, рашуча сцягнуў з дзяўчыны спачатку куртку, а затым і світэр. Скура была халодная і шурпатая, як тарка. Наліўшы ў жменю спірту, Сяргей узяў яе бязвольную, халодную, як лёд, руку і пачаў энергічна расціраць яе. Цёр доўга, час ад часу даліваючы спірт.Праз нейкі час рука крыху пацяплела. Тады ён узяўся за другую.

А як жа ёй церці бакі, грудзі, спіну? Трэба здымаць кофтачку... Ён павярнуў яе на бок, падняў кофтачку і стаў церці спіну. Над спіной стараўся доўга. Аж сам сагрэўся да поту. Дый у хаце стала цёпла. Адпачыўшы, Сяргей зняў з яе спартыўныя штаны. Аж кроў стукнула ў твар ад няёмкасці, але, перамогшы сябе, ён стаў расціраць ногі, таксама халодныя, як лёд, якія дробна трымцелі. Падчас працы аднекуль з памяці выплыў аповяд старога калымчаніна, які баяў, што якуты, каб сагрэць замёрзлага чалавека, не расціраюць, а раздзяваюць яго, раздзяваюцца самі і прыціскаюцца да яго сваім целам, накрыўшыся цёплай вопраткай. Але ж то якуты, дый робяць яны так, пэўна, са сваімі родзічамі, а тут чужы чалавек, да таго ж, дзяўчына. Што яна падумае, калі апрытомнее? І ўсё ж, бачачы, што дзяўчына не саграецца, ён вырашыў паспрабаваць і гэты метад. Павярнуўшы дзяўчыну на бок, Сяргей хутка зняў з сябе верхнюю вопратку і застаўся толькі ў бялізне. Зняў і кашулю, лёг побач з дзяўчынаю і накрыўся коўдраю з галавою, прыціснуўся спінаю да яе спіны. Сяргея як халоднаю вадой абдалі. Інстынктыўна ён рвануўся ад яе спіны, але, перасіліўшы сябе, зноў прыціснуўся да дзяўчыны. Ці то ад холаду, ці то ад хвалявання Сяргея калаціла самога. Пакрысе яго дрыготка праходзіла. Ён адчуваў, як пакрыху саграецца і дзяўчыніна спіна. Яна як быццам і дрыжаць пачала меней.

Калі дрыготка ў дзяўчыны супакоілася, Сяргей асцярожна выслізнуў з-пад коўдры і хуценька адзеўся. Дзяўчыну ён шчыльна ўкрыў коўдраю, накрыў зверху сваім бушлатам і, высыпаўшы палову пачка чаю ў бляшанку, заліў яго кіпенем. Калі чай закіпеў, Сяргей, па зэкаўскай звычцы, накрыў бляшанку рукавіцай і

паставіў яе на тумбачку – няхай настойваецца. Чыфір, як і ўсе зэкі, Сяргей любіў.

Глытнуўшы колькі разоў гарачага горкага напою, Сяргей падкінуў дроў у печку, хоць у дамку ўжо было горача, як у лазні.

Здаецца, зрабіў усё, што ведаў і што мог, а яна не прачынаецца. Хіба толькі дрыжаць перастала і дыхае спакайней. Можа, пакрысе ачуняе. А калі не? Ад гэтае думкі Сяргея ахапіў жах. Што тады? Тады трэба будзе бегчы ў пасёлак і дакладваць аб усім. Пойдуць допыты, следства. А хто паверыць яму, учарашняму зэку?..

Яна кудысьці ішла... І калі не дайшла, то за яе павінны будуць хвалявацца, вышлюць пошук. Вышлюць заўтра, і трэба чакаць, што будзе да гэтага заўтра...

Дзяўчына праз нейкі час глыбока ўздыхнула і павярнулася на спіну. Сяргей аж падскочыў ад радасці – ажывае! Цяпер будзе жыць. Ён сядзеў моўчкі, не зводзячы вачэй з дзяўчыны. У дамку было цёмна, але ў цемры неяк было нават спакайней.

Яшчэ праз колькі часу дзяўчына паварушыла рукою, паспрабавала паднесці яе да твару, але кволая рука з'ехала на коўдру. Пасля дзяўчына ледзь чутна прашаптала: "Піць..." Сяргей узяў бляшанку з чыфірам, наліў яго ў лыжку і паднёс да яе вуснаў, углядаючыся ў твар. І зноў штосьці знаёмае падалося яму ў гэтым твары. Дзяўчына, адчуваючы дотык лыжкі, паволі растуліла вусны, і Сяргей уліў чыфір ёй у рот. Паволі, ледзь прыкметным рухам, яна праглынула.

– Пі, пі, хутчэй ачуняеш, – прашаптаў Сяргей, зноў наліваючы чыфір у лыжку.

Павекі ў дзяўчыны задрыжэлі, напружыліся і,

быццам нехаця, узняліся. Адкрыліся на імгненне затуманеныя вочы, але павекі адразу ж апалі. Сяргей паволі падносіў ёй чыфір да вуснаў. Дзяўчына паволі глытала, а пасля зноў сціхла. Сяргей усё ўважлівей углядаўся ў яе твар. Нават газоўку запаліў. Дзяўчына, безумоўна, была мясцовая. Па дарозе на працу ён здалёк бачыў мясцовых жанчын, але твараў іх разгледзець было нельга: яны блізка да зэкаўскіх калон не падыходзілі. Казалі, што ў якутаў не толькі мужчыны, але і жанчыны смела адпраўляліся на аленях у далёкія паездкі. І не баяцца яны ні холаду, ні бурану – могуць па некалькі начэй начаваць проста ў снезе, сярод аленяў ці сабак. Але ж яна была не на аленях і не на сабаках. Ішла на лыжах. Аб гэтым сведчаць і лёгкая спартыўная вопратка, і лыжа, што тырчала ля сланіку. Толькі дзе другая лыжа?

Дзяўчына нечакана адкрыла вочы і, углядаючыся ў Сяргея, ціха спытала:

– Дзе я?

– На Перавале, – адказаў Сяргей. Ён сказаў гэта радасна-ўрачыста, быццам казаў ёй, што яна на балі ў каралеўскім палацы.

– На якім перавале? – перапытала дзяўчына, паволі абводзячы вачыма столь.– А як я тут апынулася?

– Я вас знайшоў.

– Як гэта знайшоў?

– Знайшоў, як снягурку, у лесе на сланіку, – з усмешкаю адказаў Сяргей, рады, што яна ажывае.

– А ты хто? – з нейкай трывогай спытала дзяўчына.

– Я дырэктар гэтай гасцініцы, – усміхнуўся Сяргей.

– Зэк? – нейкім хрыплым голасам спытала дзяўчына, уважліва ўглядаючыся ў Сяргея.

– Былы зэк, сёння ўжо вольны, – пакрыўджана сказаў Сяргей.

– А як цябе завуць?

– Сяргеем.

– Сярожка-контра? – аж прыўзнялася на тапчане дзяўчына.– Няўжо ты? Дык гэта праўда, што гэта ты, Сярожка? Ну скажы! Чаго ты маўчыш?

– Я, – паволі сказаў Сяргей. Ён ніяк не мог паверыць у рэальнасць гэтай падзеі.

Танька неяк адразу ажыла.

– Дай мне папіць, – папрасіла яна. – Чыфір ёсць?

Сяргей здзіўлена зірнуў на Таньку: папрасіла не вады, а чыфіру. Моўчкі падаў ёй бляшанку з чыфірам. Яна прагна выпіла амаль паўбляшанкі.

– Ніяк не паверу, што гэта ты.

– І я не магу паверыць, але ж гэта факт, гэта – мы.

– Слухай, а як ты сюды трапіў? Ты ж павінен быць у Ленінградзе?

– Павінен быць у Ленінградзе, а трапіў сюды, – сумна адказаў Сяргей. – Так павярнулася фартуна.

– А дзе ты сядзеў?

– У Каньёне.

– У Берлагу? – здзіўлена спытала Танька. – Дык ты сапраўды стаў контрай?

– Як бачыш, стаў.

– А за што цябе пасадзілі?

– За непавагу да бацькоў, – жартам, як адказвалі ў такіх выпадках зэкі, сказаў Сяргей.

– Знаем мы гэтую непавагу. А канкрэтна?

– Канкрэтна – артыкул 58 – 10, – контррэ-

валюцыйная агітацыя і прапаганда, – холадна адказаў Сяргей.

– Дык у цябе "балалайка"? – нейк радасна сказала Танька. – А калі сапраўды, за што ўсё ж? – настойвала яна.

– Я падпіску даваў.

– Мне можна. Я супрацоўніца МВД. Дый па старой памяці можаш даверыць. Я нікому не скажу... Ну скажы, за якое-небудзь глупства сеў? Не мог жа ты сапраўды стаць контрыкам.

Сяргей маўчаў. А Танька ўсё глядзела на яго ў чаканні адказу.

– За анекдот, – нарэшце сказаў ён.

– Як гэта за анекдот? За анекдоты не садзяць.

– Яшчэ як садзяць...

– Слухай, а спірту ў цябе няма? – раптам спытала Танька.

– Чаму няма? Ёсць. Вунь на стале стаіць.

– Дай сюды.

Сяргей падаў бутэльку, у якой заставалася яшчэ грамаў з пяцьдзесят спірту.

– Дай кубак.

Танька выліла спірт у кубак і, уздыхнуўшы глыбока, адным глытком пракаўтнула.

У Сяргея аж рот раскрыўся ад здзіўлення.

– Дай запіць, – глыбока выдыхнуўшы, сказала Танька.

– Ты лепш закусі, – прапанаваў Сяргей.

– Не трэба.

Сяргей усё ж дастаў з мяшка бляшанку з мяснымі кансервамі і ўскрыў яе. Танька нехаця калупнула пару разоў нажом.

– Дык усё ж: за які гэта анекдот ты сядзеў?

– Не прыставай.

– А я хачу ведаць, – капрызна сказала яна.

– Адчапіся, – як ад назойлівай мухі, адмахнуўся Сяргей.

– Ну раскажы, Сярожка, – не адставала Танька.

– То слухай. На Ялцінскай канферэнцыі, пасля пасяджэнняў, Сталін прысеў адпачыць. Закурыў сваю люльку. Курыў і задрамаў. Прачнуўся. Мац-мац, а люлькі няма. “Берыю да мяне!” – загадаў ён. З’явіўся Берыя. “Слухаю, таварыш Сталін!” – “Люльку ўкралі. Знайсці і далажыць!” – “Ёсць знайсці і далажыць”.

Праз тры дні Сталін зноў зайшоў у гэты пакой. Глянуў, а люлька ляжыць у куточку канапы ля валіка. Закурыў Сталін люльку, а сам думае: трэба праверыць, як выконваюцца мае загады. “Берыю да мяне!” З’явіўся Берыя. “Як наконт люлькі?” – “Усё ў парадку, таварыш Сталін. Тры тысячы пасаджана, і ўсе прызналіся”. – “Ну, прызналіся, дык няхай сядзяць. А люлька знайшлася. Вось яна...”

– І за гэта табе далі тэрмін? Колькі?

– Восем гадоў. Сёння выйшаў. З залікамі...

– Фу ты! – са здзіўленнем і нейкай палёгкай уздыхнула Танька. – Тут такіх анекдотаў кожны дзень можна пачуць дзесятак. І нікога не садзяць.

– Дык тут жа няма каго садзіць. Адны сядзяць, а другія ахоўваюць, – з усмешкаю сказаў Сяргей.

– А закурыць у цябе няма? – раптам спытала Танька.

– Чаму гэта няма? Ёсць. – Сяргей дастаў з мяшка пачак “Беламору”.

Яна са смакам зацягнулася. Сядзела Танька на тапчане, падкурчыўшы ногі, па-японску. Сядзела ў швэдры і рэйтузах.

– Ты б адзелася, – нясмела прапанаваў Сяргей.

– А чаго? Тут так цёпла, што хоць раздзявайся

зусім, – рагатнула Танька. – Слухай, а дзе твая Наташка?

– У Залацінцы. Настаўніцай працуе.

– Піша?

– Пісала.

– А ты ёй?

– А я – не. Я мог пісаць толькі два лісты ў год. Пісаў і маме, і ёй у адным лісце.

– Ты яе кахаеш?

Сяргей маўчаў.

– Кахаеш, ведаю, – з нейкай злосцю сказала Танька. – Слухай, а ў цябе больш спірту няма?

– Чаму няма? Ёсць.

– Дык цягні сюды.

– Ці ж можна гэтулькі піць?

– Сёння можна. Сёння я знайшла цябе. Нясі, нясі, я хачу выпіць з табою.

Сяргей дастаў бутэльку спірту і падаў Таньцы. Яна сама адкаркавала бутэльку і наліла ў кубак.

– Давай і табе ліну, – прапанавала яна.

– Я не п'ю, Танька.

– Як гэта не п'ю? Я хачу, каб ты выпіў са мною.

– Не, дзякуй, я не п'ю. Прабач.

– Ты што, мяне не паважаеш? – напусцілася на яго Танька.

– Цябе я паважаю, але, прабач, піць не буду.

Памаўчаўшы і глянуўшы на кубак, Танька глыбока ўздыхнула і залпам выпіла ўвесь спірт. І толькі пасля гэтага выдыхнула – ху-у-у. Яна нейк нехаця калупнула нажом у бляшанцы з кансервамі, з'ела некалькі кавалкаў і адкінулася на тапчан.

Наступіла маўчанне. Сяргей урэшце спытаўся:

– Слухай, Танька, а дзе ты служыш?

– Скончыла ў Магадане горна-разведачны

тэхнікум. Выйшла замуж. Развялася. Працую ў Сімчане памочнікам начальніка ГПУ па камсамолу.

– Як гэта ў ГПУ?

– ГПУ – Горна-прамысловае упраўленне.

– А бацькі?

– Бацьку забілі зэкі. Маці пераехала ў Нексікан і там выйшла замуж.

– Як забілі? За што? Кім ён працаваў?

– Бацька працаваў начальнікам рэжыму ў бытавым лагеры. Зэкі прайгралі яго ў карты і зарэзалі.

– А як тут апынулася?

– Ішла на Каньён. Камбінат заняў першае месца ў сацыялістычным спаборніцтве ў гонар гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Прынята рашэнне – уручыць камсамольцам камбіната пераходны вымпел. Даставіць яго ўзялася я. Я ж памочнік па камсамолу. А каб было больш эфектна, вырашыла пайсці на лыжах.

– І не забаялася?

– А чаго баяцца? Я ж майстар спорту па лыжах, а тут усяго сорак кіламетраў. Дарога добрая, пагода ясная, цёплая.

– Якая ж яна ясная, калі вунь які буран бушуе?

– На ўсёй трасе пагода была ясная, аж звінела, а псавацца яна пачала пры пад'ёме на перавал. Вядома, мне трэба было вярнуцца назад, перачакаць на пасёлку Лазо. Я пераацаніла свае сілы. На пад'ёме давялося зняць лыжы і ісці пешкі. Хутка стамілася. Я слабела, стала мерзнуць, але выйсця не было, вырашыла цягнуць да гэтага дамка. На перавал я ўзабралася, але плялася ўжо, абапіраючыся на палкі. Мяне пачало калаціць ад холаду. Памятаю, што прыпынілася ля кучы сланіку, каб крыху адпачыць. Я ведала, што класціся ні ў якім выпадку не можна, але ногі самі

падкасіліся. Мне здалося, што я ўвайшла ў гэты дамок, а ў ім – цёпла-цёпла, і я заснула. Прачнулася, сапраўды, у дамку. А як ты мяне адаграваў?

– Як адаграваў? Расцёр спіртам, ухутаў. Пакрысе ты й сагрэлася.

– А ты мяне адразу не пазнаў?

– Не. Спачатку штосьці знаёмае мільганула, але я не мог падумаць, што гэта ты.

– Дык ты выратаваў мяне ад смерці? Дай я цябе расцалую, – п'яна пасунулася да яго Танька.

Сяргей моўчкі адсунуўся.

– Супакойся, Танька. Радуйся, што ажыла.

– А я верыла, што мы спаткаемся. Увесь час верыла. Нашы шляхі сышліся ў Залацінцы, пасля разышліся, але яны павінны былі абавязкова сысціся. Я ў гэта верыла заўсёды. І гэта павінна было адбыцца, – п'яна цягнула Танька. – Слухай, Сярожка, а давай кінем усё, сядзем на самалёт і паляцім далёка-далёка і пачнём новае жыццё.

– Як гэта сядзем на самалёт? Я ж былы зэк. У мяне ніякай паперкі, акрамя даведкі аб вызваленні, няма.

– Дакументы я арганізую. Чыстыя. Дзядзька дапаможа. Ён даўно хоча мяне з Калымы выперці, – упэўнена сказала Танька.

Сяргей маўчаў.

– Ну што ты маўчыш? Я цябе буду любіць, як ніхто на свеце. Буду табе вернай сяброўкай. Буду рабіць усё, што ты захочаш.

Сяргей маўчаў. Маўчала і Танька, чакала адказу.

– Слухай, а ты Наташку моцна любіш? Мацней за мяне? – зноў пачала яна.

Сяргей не адказаў.

– Сярожка, а ты Наташку паспрабаваў? – зноў прыставала яна.

– Адстань, як табе не сорамна?

– Сярожка, а ты хоць раз у жыцці спрабаваў бабу? – з'едліва спытала яна.

Сяргей насупіўся, але змаўчаў.

– О, дык ты яшчэ цнатлівы? Цэлачка? То хадзі, я цябе навучу гэтай прамудрасці, – памкнулася да Сяргея Танька. – Хадзі сюды, я хачу цябе, – капрызна-патрабавальна выцягнула рукі яна.

– Ты п'яная, Таня, супакойся.

– Нічога я не п'яная. Я хачу цябе, – цвёрда сказала Танька. – Ты што, зусім не любіш мяне? Нічуць-нічуць? Ні кропелькі?

– Не ў гэтым справа, Таня.

– А ў чым? Дык ты, можа, імпатэнт? – і яна хапіла Сяргея за штаны. – Не стаіць? Я падыму. Я гэта ўмею.

Сяргей адсунуўся ад тапчана.

– Супакойся, Таня, ты перапіла. Ляж, адпачні.

– Нічога я не перапіла. Я не столькі магу выпіць.

Танька, спусціўшы ногі з тапчана, села па-людску.

– Дык ты адмаўляешся ад мяне? Адмаўляешся? Так? Дзеля сваёй гэтай Наташкі? – са злосцю зашыпела Танька. Твар яе стаў страшны, шчыліны яе мангольскіх вачэй звузіліся. – А ты, зэк смярдзючы, контра недабітая, – пасунулася яна да Сяргея, – не хочаш мяне? Грэбуеш? Ты яшчэ не ведаеш мяне! Я зраблю табе так, што ты жывой п... дзесяць гадоў не панюхаеш. І Наташкі сваёй не пабачыш! Усё жыццё будзеце мяне памятаць і праклінаць!

Яна ўпала на падушку і стала галасіць. На ўсю хату, з падвываннем, заглушаючы гул ветру за акном.

Так магла плакаць толькі моцна пакрыўджаная п'яная жанчына.

А Сяргей маўчаў. Ён не ведаў, што рабіць, як сябе паводзіць.

Паволі Таньчыны ўсхліпы аціхлі, і яна, супакоіўшыся, заснула.

Сяргей асцярожна накрыў яе коўдрай, падкінуў дроў у печку, навёў парадак на стале і, лёгшы на другі тапчан, накрыўся зэкаўскім бушлатам.

Прачнуўся ён позна. Танька спала. Дыханне яе было роўнае, глыбокае. Сяргей ціхенька распаліў у печцы, узяў бляшанку згушчонкі, змяшаў малако з чыфірам і выпіў, з апетытам заеўшы гэтую сумесь белым хлебам. Ён ніяк не мог наласавацца ні малаком, ні белым хлебам, якога не бачыў з дня арышту. Затым паставіў разаграваццa кансервы, дастаў каўбасу. Трэба будзе карміць Таньку. Яна ж госць. Мала што па п'янцы напляла... І ўсё ж на душы было мутарна, балюча.

Раптам на двары затарахцеў трактар. Зірнуўшы ў акно, Сяргей убачыў, што з кабінкі вылазяць вайскоўцы.

– Уставай, Танька, людзі прыехалі, – крануў ён Таньку за плячо.

– Якія людзі? – спрасоння не магла ўцяміць Танька. Твар яе быў апухлы, пастарэлы. Яна зноў села на тапчане, падкурчыўшы ногі.

Адчыніліся дзверы, і ў парозе стаў лейтэнант. За ім стаяў салдат унутраных войскаў.

– Таварыш старшы лейтэнант, пошукавая група, накіраваная на пошук вас, вас знайшла. Старшы групы – лейтэнант Курбанаў, – дурасліва далажыў лейтэнант. – Як добра, Таццяна Мікалаеўна, што я вас знайшоў! У Сімчане ўсё ГПУ цэлую ноч не спала, хваляваліся за вас, – працягваў ён ужо сур'ёзна. – А

хутка сюды павінна прыбыць яшчэ група і з Каньёна. Во будзе радасці.

Танька моўчкі, насуплена глядзела на лейтэнанта. Той ніяк не мог зразумець, у чым справа. Сяргей стаяў у куце і таксама маўчаў. Пасля падышоў да лейтэнанта і шэптам папрасіў яго выйсці, каб Танька магла апрануцца. Лейтэнант, пачырванеўшы, выскачыў з пакоя. Танька моўчкі адзелася. Сяргей адчыніў дзверы – заходзьце.

– То распранайцеся, пагрэйцеся, чаю пап'яце, перакусіце, – прапанаваў Сяргей.

Лейтэнант, а за ім і салдаты распрануліся. Сяргей запрасіў усіх да стала. Лейтэнант сквапна паглядаў на бутэльку са спіртам.

Танька моўчкі наліла ў кубак спірту.

– А яму? – спытаў лейтэнант.

– Я не п'ю, – сказаў Сяргей.

– Зусім?

– Зусім.

– А можа, сёння вып'еш? – настойваў лейтэнант.

– Не, дзякуй.

– Ну, то за цябе, Таццяна. За тое, што ўсё скончылася добра, за Кастрычніцкую рэвалюцыю, – падняў кубак лейтэнант і, глыбока ўдыхнуўшы, а затым затрымаўшы паветра, без перадыху ўліў спірт у горла. Гэтак жа зрабіла і Танька.

Салдаты і Сяргей пілі чай са згушчонкай. Лейтэнант спрабаваў уцягнуць у гутарку Таньку. Але яна маўчала. Маўчаў і Сяргей.

На двары зноў затарахцеў трактар. З яго саскочыў афіцэр, а за ім і салдат. У хаце яны радасна павіталіся, радуючыся, што Танька жывая і здаровая. Сяргей і іх запрасіў за стол. Толькі спірту не наліў.

Спехам перакусіўшы, госці сталі збірацца ў дарогу.

– А ты, Таццяна, з намі? – спытаў сімчанскі лейтэнант.

– Не, я паеду ў Каньён. Там жа мяне чакаюць камсамольцы.

– Знаем мы тваіх камсамольцаў. Яны яшчэ ўчора пачалі цябе чакаць, а сёння, пэўна, ужо чакаюць лежачы, – з усмешкаю сказаў лейтэнант.

– Не, я паеду ў Каньён, – цвёрда сказала Танька.
– Слухай, у цябе папера ёсць? – звярнулася нечакана да лейтэнанта з Сімчана Танька.

Лейтэнант моўчкі адкрыў сумку і дастаў блакнот. З унутранай кішэні дастаў ручку-самапіску і падаў Таньцы. Танька прысела ля тумбачкі і пачала штосьці пісаць. Затым рэзка паднялася і падала паперу лейтэнанту.

– На, аддасі Коцікаву. І забяры яго з сабою, – сказала яна, кіўнуўшы галавою ў бок Сяргея.

Сяргей здзіўлена глядзеў на Таньку.

Лейтэнант моўчкі чытаў паперу. Прачытаўшы, хмыкнуў, паглядзеў на Сяргея, затым на Таньку і сказаў:

– Вось гэта цырк... Дакументы ёсць? – звярнуўся ён да Сяргея.

– А ў чым справа? – разгублена спытаў Сяргей.

– Дакументы! – патрабавальна працягнуў ён руку.

Сяргей моўчкі падаў даведку аб вызваленні. Прачытаўшы яе, лейтэнант злосна буркнуў: “Ну і шустры! Толькі што з лагера, і адразу да спадніцы. І не абы-якой, а афіцэрскай. Збірайся!”

Усе здзіўлена глядзелі на Сяргея. Сяргей збялеў.

– У чым справа? – паварочваўся ён па чарзе. Але ўсе здзіўлена маўчалі. Маўчала і Танька. Твар яе быў страшны.

– Што здарылася, Таня?

Яна адвярнулася.

Акрамя лейтэнанта і Танькі, ніхто нічога не разумеў. І ўсе збянтэжана маўчалі. Толькі што гэты былы зэк іх гасцінна карміў, і тут яго раптам арыштоўваюць!

– Ты, хлопец, збірайся. Нам ехаць трэба, – неяк спакойна сказаў лейтэнант.

Сяргей моўчкі вытрас з аднаго мяшка прадукты і пачаў пакаваць нанова. Паклаў туды кансервы, шпіг, згушчонку, цукар, хлеб. Канцэнтраты і ўсё іншае склаў у тумбачку. Пасля звярнуўся да лейтэнанта з Каньёна:

– Грамадзянін начальнік, вы ведаеце дарожнага майстра Андрэя Булыку?

– А хто ж яго не ведае?

– Дык перадайце, каб ён прыслаў чалавека на Перавал, бо мяне арыштавалі.

– Добра, перадам.

Калі пачалі выходзіць з дамка, Сяргей падышоў да Танькі.

– Што ты зрабіла? Я ж табе жыццё выратаваў, а ты гэтак...

– Лепш бы ты яго не ратаваў, – буркнула Танька і хутка пайшла да трактара.

Сяргей зноў кінуў свой мяшок на сані, а сам лёг побач. У галаве леглі салдаты. Яны цяпер не спалі. Яны добра ведалі, што ён нікуды не ўцячэ, але парадак ёсць парадак: арыштаванага трэба сцерагчы.

Трактар ішоў з перавала. Сані торгаліся. Пагода была ціхая. Бурану як і не было, але неба было зацягнута хмарамі. Спусціўшыся з перавала, трактар пайшоў па шырокай даліне. Горы расступіліся. Снег і ўсё вакол было шэрае, манатоннае. Па дарозе траплялiся невялікія гарнізонныя пасёлкі з прылепленымі збоку чатырохкутнікамі лагераў. У пасёлках чулася музыка і нават песні. Лагеры змрочна маўчалі.

# У нас

Вось і скончылася воля. Адзін дзень на волі, і той няўдалы. І праўду чэкісты кажуць: зэк, ён заўсёды зэк. Учора – у лагеры, сёння – на волі, а заўтра – зноў у лагеры. І ніколі невядома, за што яго пасадзяць, што яму дадуць. Няўжо за тое, што не захацеў з ёю легчы, можна пасадзіць? І ўспомніў, як яна ўчора крычала, што ён, Сяргей, усё жыццё будзе яе памятаць і праклінаць... Няма ў яе сумлення. Зрэшты, якое можа быць сумленне ў чэкісткі?

У райцэнтры ўсе гулялі, і дзяжурны па КПЗ адмовіўся прыняць арыштаванага. Патрэбен быў ордэр, а дзе яго возьмеш у такі святочны дзень? Лейтэнанту нічога не заставалася, як запіхнуць Сяргея ў гарнізонную гаўптвахту. Балазе яна была пустая.

Пасля святаў салдат павёў Сяргея ў якісьці будынак без шыльды. У кабінеце сядзеў капітан з апухлым тварам. На стале ў яго ляжала Таньчына паперка.

– Ну што, контра недабітая, ё... грозны? У першы ж дзень захацеў паласавацца бабай? Ды яшчэ чэкісткай? – з'едліва цадзіў скрозь зубы капітан. – Чаго маўчыш? Расказвай, як была справа.

– А што расказваць? Я нічога не ведаю.

– Як гэта не ведаеш? Тут жа ясна сказана: напаў на сонную, хацеў знасільнічаць. Дый лейтэнант Курбанаў пацвярджае – калі ён зайшоў, Дуброўцава была напаўголая.

– То я ж яе, замёрзлую, расціраў...

– А, дык усё ж расціраў? А як жа ты не знасільнічаў? Не атрымалася? Хрэн пасля лагера не падняўся?

– Не ў гэтым справа...

– А ў чым?

Сяргей маўчаў.

– Ну, вось што. Бяры паперу і пішы, як усё было.

Тады і будзем разбірацца. А ў мяне, акрамя цябе, спраў па горла.

Спраў у капітана не было. У яго трашчала галава пасля святаў.

Сяргей узяў паперу і самапіску. Падумаў крыху і сказаў:

– А можна я ў камеры напішу?

– Пішы, – згадзіўся капітан. – Толькі праўду. Брахню мы ўсё адно расколем. Мы гэта рабіць умеем. Сам ведаеш.

– Ды ўжо ж, ведаю, – уздыхнуў Сяргей.

У камеры Сяргей напісаў коратка пра ўсё, што адбылося на Перавале. Пастукаў у дзверы і аддаў паперу з асадкаю вартавому.

Праз гадзіны тры вартавы павёў Сяргея ў кабінет. Капітан быў ужо нападпітку. Усміхнуўся:

– Дык ты, выходзіць, Дуброўцаву ад смерці выратаваў? Дык, выходзіць, цябе не садзіць, а да ордэна прадстаўляць трэба? Ну, контрык! Ну, даеш!

Сяргей маўчаў.

– І што мне загадаеш з гэтымі паперамі рабіць? Але нічога, пакруцім цябе крыху – напішаш усё, што было. А то выдумаў тут байку для дзяцей. І калі толькі паспеў? Але ж вы, контрыкі, выдумляць майстры! Ідзі ў камеру і думай. А заўтра напішаш праўду.

Капітану чамусьці не хацелася “раскручваць” гэтага хлопца. Штосьці ў яго пісаніне было такое, што прымушала задумацца і паверыць яму, а не Дуброўцавай. Дуброўцаву і ён, і ўсе іншыя ў пасёлку добра ведалі. Гэта была баба, якая ўсіх халастых мужыкоў праз сябе прапусціла, дый жанатых нямала. Капітан ведаў, што каб не дзядзька-пракурор, яе даўно выгналі б з МВД. Ну і задачку задала таварыш Дуброўцава... Зрэшты, трэба схадзіць да пракурора. Па-першае, без яго санкцыі гэтага хлопца ўсё адно не

пасадзіш. Па-другое, яго пляменніца, хай сам і разбіраецца.

Пракурор моўчкі прачытаў паперкі. У адной Танька пісала, што яна, змучаная, зайшла ў дамок на Peравале. Былы зэк напаіў яе чаем, даў спірту, каб сагрэцца. А калі яна заснула, спрабаваў яе знасільнічаць. Сяргей пісаў, што, носячы сланік, калі ўжо пачаўся буран і сцямнела, заўважыў дзяўчыну, якая была непрытомная і моцна дрыжала. Ён занёс яе ў дамок і стаў расціраць спіртам. Дзеля таго часткова раздзеў яе – зняў швэдар і штаны. Калі яна апрытомнела, то папрасіла спірту выпіць. А пасля заснула. Раніцай яна напісала нейкую паперку і аддала лейтэнанту з пошукавай групы. Што было напісана ў той паперцы, ён не ведае.

Пракурор доўга думаў над гэтымі паперкамі, а пасля сказаў:

– Ну вось што, капітан, давай сюды гэтага сабаку. Я хачу з ім пагутарыць.

Калі Сяргей зайшоў, на стале ў пракурора ляжалі толькі дзве паперкі. І чырвоны аловак.

– Сядай, – кіўнуў ён Сяргею, а сам узяў аловак і стаў чытаць паперкі. Чытаў паволі. Затрымліваючыся на кожнай фразе і нібы рыхтуючыся ставіць пытальнікі пасля кожнай з іх, аднак ён паставіў вялізны пытальнік толькі ў самым канцы ліста. Памаўчаўшы, пракурор сказаў:

– Ну вось што, хлопец, сядай сюды, да стала, і расказвай усё пра сябе.

– Як гэта ўсё? – не зразумеў Сяргей.

– Усё. Ад самага нараджэння і да сённяшняга дня. І як мага падрабязней. Я табе абяцаю, што ўсё, што не адносіцца да гэтай, – ён пастукаў па паперцы, – справы, з гэтага кабінета не выйдзе.

Пад праніклівым, нібы гіпнатызуючым пракурорскім позіркам Сяргей паволі раскручваў стужку свайго жыцця. Можа, першы раз у жыцці ён так падрабязна, нібы збоку гледзячы, расказваў пра сябе. Падрабязна, нічога не ўтойваючы, расказаў і пра падзеі свайго першага і апошняга дня на волі.

Пракурор слухаў моўчкі. Ні адзін мускул не здрыгануўся на ягоным твары. Толькі вочы ягоныя глядзелі на Сяргея неяк сумна.

Пасля Сяргеевага аповяду пракурор доўга маўчаў. Раптам ён рашуча адкінуўся ў крэсле, зняў трубку тэлефона і назваў нумар.

– Пятро Іванавіч, гэта я. Прывітанне. Слухай. Зараз да цябе зойдзе хлопец. Казак прозвішча. Ты выпішы яму ўсе праязныя дакументы на мацярык. На Урал. Калі ў нас самалёт на мацярык? Паслязаўтра? Месцы ёсць? То і лады. Пакуль...

Затым пракурор устаў. Устаў і Сяргей.

– Вось што, хлопча, ты сумленны чалавек. Толькі нарадзіўся не ў свой час. Табе трэба было радзіцца гадоў сто назад, у часы Тургенева. Цяжка табе будзе ў жыцці. Але я веру, што ты выстаіш. Ты чуў нашу размову? Пойдзеш зараз да начальніка пашпартнага стала, атрымаеш дакументы. Паляціш у сваю Залацінку. Толькі запомні: пра што мы тут гутарылі, ніхто не павінен ведаць. Нават твая Наташка. І з Залацінкі – нікуды. Ні кроку. І ніякай кампаніі з незнаёмымі, асабліва выпівохамі. Працуй і чакай. Можа, хутка наступяць лепшыя часы. Шчасліва табе.

Пракурор падаў Сяргею руку.

У Сяргея хлынулі слёзы.

– Нічога, нічога, – паляпаў яго па плячы пракурор. І сам адвярнуўся.



# Пятро Прыходзька

## ДЗВЕ МАРЫІ

**Званоў царкоўных трыгалоссе**
**Ў людскія душы несла веру.**
**А бераг Бесядзі даносіў**
**Дубровы шум і пах аеру.**

**У Хоцімску – сваім мястэчку, –**
**Ў царкву прыйшоўшы**
**на прычасце,**
**Прад абразом запальваў свечку**
**Я за спачын радзімай маці.**

**Я быў зусім яшчэ маленькі**
**Тады, як маці памірала,**
**Не чуў, як вёска па тры жменькі**
**Пясочку на труну кідала...**

**Казалі – мама і ў спакою**
**Была прыгожая такая, –**
**І я ўяўляў яе такою,**
**На абразе ў царкве якая.**

**Сюды нёс кветкі лугавыя**
**Адтуль, дзе пахавана мама.**
**Мне сонца промні залатыя**
**Сцяжыну ўказвалі да храма.**

**Перад Марыяй тут Святою**
**Стаяў, паклон біў на зары ёй.**
**І маю ж маму парой тою**
**Таксама звалі ўсе Марыяй.**

**Прыносіў ім свае дары я**
**І думаў у хвіліны тыя:**
**“Дзве родных маці,**
**дзве Марыі –**
**Абедзве для мяне святыя.**

*4 лютага 1999 г.*



# Аляксей Чубат

* * *

*...а з усіх сяброў толькі ён адзін*
*у мяне і застаўся.*
**(З пачутага)**

І ў мяне таксама адзін.

Мы спавітыя адным годам,
Як тыя блізняты.
Ён – ударлявая строма,
Я – каржакаваты валун.
Жылі, вучыліся разам,
Прыглядаліся адзін да аднаго,
Раз за разам –
Спляліся душамі,
Думкамі, словамі, справамі,
Віном, шпротамі.
Хваля за хваляй
Эмоцый:
Смеху – мех.
Гаварылі мы, гутарылі,
Аж жываты трашчалі,
Ды балелі сківіцы
Суткамі.
Разуменне з паўслова,
З напаўслова,
Жыццё спрашчалі,
Як мову.
Не даравалася –
Параскідала, паразвозіла,
А мары засталіся,
Чыстыя, як вада калодзежная.

Бэйбусы дурнаватыя,
Рагочам, хоць бы хто рот залатаў.
Не сварыліся ж ніколі –
Вось дзіва!
Разам не плакалі...

Будзем жыць па-старому –
Не перайначыш нас,
За лейцы будзем жыццё браць,
Найвыкшталцонымі старастамі.

# Сон розуму

Навела "Крывавы след на снезе" замыкае паліптых пад агульнай назвай "Дванаццаць дзіўных навел" (1976 –1992). Габрыэль Гарсія Маркес мог бы і не надаваць гэтую дадатковую прыкмету сваім опусам: кожны і так ведае, што ўсё створанае ім надзвычай дзіўнае. Як, дарэчы, і сама праца над тэкстамі – фінальная навела была створана першай з усіх (можа, і чытаць кнігу трэба на арабскі манер – ад апошняй старонкі?). Сам аўтар прызнаецца ў прадмове: "Той факт, што розныя еўрапейскія гарады, у якіх разгортваюцца падзеі, апісаны мною па памяці і з адлегласці, мог бы спраўдзіць, наколькі адпавядаюць рэчаіснасці мае ўспаміны дваццацігадовай даўніны. Тады я вырашыў яшчэ раз праехацца ды разгледзецца ў Барселоне, Жэневе, Рыме і Парыжы. Рэальныя ўспаміны падаліся мне зданямі памяці, у той час як несапраўдныя ўспаміны былі настолькі пераканаўчыя, што засцілі сабой рэчаіснасць. Настолькі, што я ўжо не мог правесці рысу падзелу паміж расчараваннем і настальгіяй". А першым штуршком для старту шматгадовай працы над нізкай стаў аўтарскі сон на пачатку 70-х гадоў. Маркес прысніў уласную пахавальную працэсію ў суправаджэнні апранутых у чорнае сваіх сяброў, аднак агульны настрой быў святочны. У канцы цырымоніі, калі яны збіраліся ўжо сыходзіць, ён хацеў быў пайсці з імі. Але адзін з іх патлумачыў, што якраз яму трэба застацца на могілках. "Вось

тады я зразумеў, што памерці – гэта значыць больш не быць разам з сябрамі".

Макабрычны матыў смерці, які зніто ўвае ўсе дванаццаць кампазіцый, з'яўляецца адным з галоўных у творчасці вялікага калумбійскага майстра. Гравюры Франсіска Гоі маглі б служыць дакладнымі ілюстрацыямі выданняў Маркеса. Гісторыя пацвердзіла, што абодва геніі з процілеглых берагоў іспанскага свету расказалі аб драме чалавечага жыцця, свайго пакалення і свайго народа праўдзівей за любога рэаліста або храніста. У гэтым сакрэт сапраўднага мастацтва.

Аб гэтым сведчаць усе творы Габрыэля Гарсіі Маркеса (нар. у 1928 г. у калумбійскім горадзе Аракатака), знаёмыя нашаму чытачу ў перакладах: "Апалае лісце" (1955), "Палкоўніку ніхто не піша" (1958), "Нядобры час" (1962), "Сто гадоў самоты" (1967), "Восень патрыярха" (1975), "Хроніка абвешчанай смерці" (1981), "Каханне падчас чумы" (1985), "Генерал у сваім лабірынце" (1989). Ён з шэрагу невыпадковых лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі (1982). Яго хочацца называць калумбійскім Караткевічам.

**Валеры БУЙВАЛ**

Габрыэль ГАРСІЯ МАРКЕС

# КРЫВАВЫ СЛЕД НА СНЕЗЕ

Пад вечар, калі яны пад'язджалі да мяжы, Нэна Даконтэ адзначыла, што палец са шлюбным пярсцёнкам не перастае крывавіць. Жандарм у плашчы з чыстай воўны, накінутым на лакіраваную трохвуголку, з вялікім намаганнем, трымаючыся, каб не быць паваленым напорыстым ветрам, праверыў пашпарты пры святле акумулятарнага ліхтара. Хаця дыпламатычныя пашпарты былі ў поўным парадку, жандарм падняў ліхтар, каб упэўніцца, ці падобныя твары да фота. Нэна Даконтэ выглядала амаль як дзіця, з вачыма шчаслівай птушкі і скурай колеру меласы. Яна ўсё яшчэ выпраменьвала карыбскае сонца ў змрочных студзеньскіх прыцемках, ахутаная па шыю норкавым футрам, якога не купіць было на гадавы заробак усяго памежнага гарнізона. Білі Санчэс дэ Авіла, яе муж, які кіраваў машынай, быў на год маладзейшы за жонку, але амаль такі ж прыгожы; ён быў апрануты ў куртку-шатландку і спартыўную шапачку. У адрозненне ад жонкі, ён быў высокі і атлетычны і меў жалезныя сківіцы аматара боек. Пра іх заможнасць найлепш сведчыў ззяючы плацінай аўта-

мабіль, з нутра якога ішоў подых жывога звера, не бачанага ніколі тут, на мытні для беднякоў. Заднія сядзенні былі заваленыя новымі чамаданамі і купай яшчэ не раскрытых кардонак з падарункамі. Акрамя ўсяго іншага, там ляжаў саксафон-тэнар, які быў найвялікшым захапленнем Нэны Даконтэ, пакуль яна не паддалася палкаму каханню вядомага на ўвесь курорт валацугі.

Калі жандарм вярнуў пашпарты з пячаткамі, Білі Санчэс спытаўся: дзе яны могуць знайсці аптэку, каб заапекавацца пальцам ягонай жонкі? Жандарм пракрычаў скрозь вецер, што можна спытаць у Эндаі, на французскім баку. Але эндайскія жандармы сядзелі за сталом у адных кашулях за шклянымі сценамі буды, цёплай, ярка асветленай, і гулялі ў карты, жуючы хлеб, абмакнуты ў кубках. Ім дастаткова было ўбачыць памеры і клас машыны, каб паказаць на мігі, што тыя могуць ехаць у Францыю. Білі Санчэс некалькі разоў націснуў клаксон, але жандармы не разумелі, каго ён гукае, пакуль адзін з іх не расчыніў акенца і не крыкнуў, раз'юшаны, як вецер:

– Merde! Allez-vous-en!*

Тады Нэна Даконтэ выйшла з аўтамабіля, з галавой ухутаная ў футра, і спыталася ў жандарма на выдатнай французскай, ці ёсць тут якая-небудзь аптэка. Жандарм, з ротам, напханым хлебам, адказаў, што гэта не ягоная справа, ды яшчэ ў такую непагадзь, і памкнуўся зачыніць акенца. Але пасля ўважліва паглядзеў на жанчыну, якая смактала паранены палец, абгорнуты кавалкам натуральнай норкі, і, пэўна, яна падалася яму магічнай зданню гэтай жахлівай ночы, бо ён імгненна змяніў тон. Патлумачыў, што бліжэйшы

* Ідзіце ў задніцу *(франц.)*.

горад – Біярыц, але ўзімку ды калі вось вецер гэтак вые, як воўк на месяц, то не будзе ніводнай адкрытай аптэкі да самай Баёны, што знаходзіцца за Біярыцам.

– Нешта сур'ёзнае? – спытаў ён.

– Нічога, – усміхнулася Нэна Даконтэ, паказваючы яму палец з пярсцёнкам, абсыпаным брыльянтамі, ледзь прыкметную ранку ад ружы на кончыку пальца. – Трошкі ўкалолася.

Перад Баёнай зноў пайшоў снег. Было не больш за сёмую гадзіну, але іх сустрэлі пустыя вуліцы, зачыненыя дамы і шалёная завея. Яны доўга кружлялі па мястэчку, але, так і не знайшоўшы аптэку, урэшце вырашылі ехаць далей. Білі Санчэс узрадаваўся. У яго была ненасытная жарсць да машын экстракласа, якую ягоны бацька задавальняў са сваіх звышпрыбыткаў. Але Білі Санчэс яшчэ ніколі не кіраваў чымсьці падобным на гэты "Бэнтлі", атрыманы як вясельны падарунак. За рулём яго ахопліваў шал, і чым даўжэй ён ехаў, тым менш пачуваўся стомленым. Ён вырашыў да ночы прыехаць у Бурдэас, дзе для іх быў зарэзерваваны сямейны нумар у гатэлі "Сплендзід", і яго не маглі спыніць ні сустрэчны вецер, ні снег, што густа валіў з неба. Нэна Даконтэ, наадварот, была знясілена, асабліва апошнім пасля Мадрыда адрэзкам дарогі – нейкай горнай сцежкай для коз. Пасля Баёны яна шчыльна захутала безыменны палец у хустку, каб стрымаць кроў, якая ўсё цякла, і заснула ў кутку аўто. Білі Санчэс не зважаў на жонку да самай поўначы, калі перастаў ісці снег, сцішыўся сярод соснаў вецер і неба зазіхацела ледзянымі зорамі. Ён праехаў паўз сонныя агні Бурдэаса, спыніўся толькі, каб заліць бак на дарожнай аўтастанцыі, бо яму цяпер закарцела даехаць да Парыжа без прыпынку. Ён быў у такім захапленні ад

сваёй шыкоўнай забаўкі ў 25 000 фунтаў стэрлінгаў, што нават не спытаўся, ці падзяляе ягонае захапленне чароўная жанчына, якая спала побач, з хусткай на безыменным пальцы, набрынялай крывёю. А сон яе, зусім дзіцячы, упершыню працінала трывога.

Яны пабраліся шлюбам тры дні назад, у дзесяці тысячах кіламетраў адсюль, у Картахэне-дэль-Індзіяс, пад асабістым благаславеннем арцыбіскупа-прымаса, чым напалохалі яго і расчаравалі яе бацькоў. Ніхто, акрамя іх саміх, ані разумеў сапраўднай прычыны, ані ведаў крыніцы гэтага нечаканага кахання. Яно пачалося за тры месяцы да вяселля, на беразе мора, у нядзелю, калі кодла Білі Санчэса захапіла штурмам жаночую раздзявальню курорта Марбэлья. Нэне Даконтэ нядаўна споўнілася васемнаццаць гадоў, яна толькі што вярнулася з Шатэльні, што ў Сен-Блэзе Швейцарыі. Размаўляла на чатырох мовах без акцэнту і па-майстэрску валодала саксафонам-тэнарам – і гэта была яе першая пасля вяртання выправа на мора. Яна якраз распранулася, каб убрацца ў купальнік, калі ў суседніх кабінках пачалася панічная бегатня і пачуліся крыкі тых, хто ішоў на абардаж. Аднак яна не разумела, што адбываецца, аж покуль засаўка яе дзвярэй не вылецела з трэскамі і перад ёю не з'явіўся гвалтаўнік неймавернай прыгажосці. На ім былі толькі паласатыя плаўкі са штучнай леапардавай скуры, а ягонае эластычнае цела мела залацісты колер, натуральны для людзей мора. На кулаку правай рукі металёвай пальчаткай рымскага гладыятара быў накручаны жалезны ланцуг, які служыў яму зброяй, а на шыі вісеў медальён са святым, які маўкліва ківаўся ля сэрца.

Яны хадзілі разам у школу і пабілі шмат посуду на днях нараджэння; а яшчэ абодва належалі да

правінцыйнага роду, які распараджаўся лёсам горада з каланіяльных часоў. Але яны не бачыліся ўжо столькі гадоў, што адразу і не пазналі адно аднаго. Нэна Даконтэ стаяла нерухома, не робячы нічога, каб схаваць сваю ашаламляльную аголенасць, пакуль Білі Санчэс выконваў зухаваты рытуал: спусціў леапардавыя плаўкі і паказаў свайго натапыранага звера. Яна нават не адвярнулася.

– Я бачыла і большыя, і дужэйшыя, – сказала яна, перамагаючы спалох, і дадала: – Ты паводзіш сябе не лепш, чым які-небудзь негр.

На самой справе Нэна Даконтэ не толькі была цнатлівай, але ніколі дагэтуль не бачыла ніводнага аголенага мужчыну, – аднак манеўр аказаўся ўдалым. І Білі Санчэс з усяе моцы так грукнуў па сцяне кулаком з наматаным ланцугом, што параніў руку да косці. Яна адвезла яго ў сваёй машыне ў шпіталь, апекавала ў марудным выздараўленні, і спакваля яны пачалі займацца каханнем з агульнай згоды.

Нетаропка праміналі задушлівыя чэрвеньскія вечары на ўнутранай тэрасе дома, дзе памерлі шэсць пакаленняў продкаў сям'і Нэны Даконтэ; яна грала на саксафоне, а ён з загіпсаванай рукой назіраў з гамака за ёю ў бязмежным захапленні. Дом меў шмат вокнаў без рам, з якіх была бачная гнілая затока бухты. Гэты дом быў адным з самых вялікіх і старажытных у квартале Манга і, безумоўна, самым пачварным. Але тэраса, скрозь выкладзеная пліткамі ў шахматныя клеткі, дзе Нэна Даконтэ іграла на саксафоне, была добрым прытулкам у нязносную спёку, бо выходзіла на двор, заценены дрэвамі манга і хмызняком гінэа, пад якімі знаходзілася магіла з безыменнай плітой, больш старая і за дом, і за сямейныя хронікі. Хто нічога не разумеў у музыцы, лічыў, што гукі саксафона

– абразлівая недарэчнасць у доме славутага рода. "Раве, як параход", – сказала бабуля Нэны Даконтэ, пачуўшы ўнучку ўпершыню. А маці марна тлумачыла дачцэ, што непрыгожа іграць так, як яна гэта рабіла, дзеля зручнасці задраўшы спадніцу па самыя лыткі і рассунуўшы калені, ды яшчэ і з выразам пачуццёвасці на твары, чаго не патрабавала гэтая музыка. "Мне ўсё роўна, на якім інструменце ты іграеш, – казала яна, – толькі іграй, стуліўшы ногі". Але менавіта саксафон і эратычная манера ігры дапамаглі Нэне Даконтэ прабіць панцыр абыякавасці гвалтаўніка Білі Санчэса. Дурная слава, якую ён меў, узмоцненая знакамітым прозвішчам, не засланіла ад Нэны Даконтэ самотніка, даверлівага і пяшчотнага. Яны сталі вельмі блізкімі, пакуль гаілася ягоная рука, але ён нават напалохаўся, калі адным дажджлівым вечарам яны засталіся ў доме сам-насам і яна зацягнула яго ў свой дзявочы ложак. Штодзень а той жа гадзіне, на працягу амаль двух тыдняў яны, аголеныя, узнаўлялі любоўныя гульні пад здзіўленымі позіркамі партрэтаў шляхетных ваяроў і ненасытных бабуль, якія раней за іх спазналі рай гэтага гістарычнага ложка. А ў перапынках паміж каханнем яны адпачывалі, аголеныя, ля расчыненых вокнаў, дыхаючы смуродам выкінутага з караблёў смецця і, калі змаўкаў саксафон, слухалі штодзённыя гукі квартала: адну і тую ж песню, што спявала жаба пад хмызняком гінэа; кроплю вады, якая падала на безымянную магілу, – звычайныя гукі жыцця, на спазнанне якіх яны раней не мелі часу.

Калі бацькі Нэны Даконтэ вярталіся дадому, то яны кахаліся, калі і дзе толькі маглі, імкнучыся кожны раз вынайсці новы спосаб. Спачатку яны займаліся гэтым, утульна ўладкаваўшыся ў спартыўных машынах, якімі бацька Білі Санчэса спрабаваў выкупіць свае

ўласныя грахі. Потым, калі машыны апрыкрылі, яны хаваліся па начах у пакінутых кабінках Марбэльі, дзе, па волі лёсу, сустрэліся ўпершыню, а падчас лістападаўскага карнавалу зачыніліся ў маскарадных касцюмах у пакоі старасты старажытнага квартала рабоў Гетсэмані, у прытулку перастаркаў, якіх усяго колькі месяцаў назад тэрарызавалі Білі Санчэс і ягоныя хаўруснікі з ланцугамі. Нэна Даконтэ аддавалася каханню з той жа шалёнай жарсцю, якую раней выказвала пры ігры на саксафоне, і зацугляны ёю гвалтаўнік урэшце зразумеў, што яна мела на ўвазе, калі казала, што ён паводзіць сябе, як негр. Білі Санчэс заўсёды адказваў ёй узаемнасцю і з вялікім імпэтам. Ужо пасля шлюбу, пакуль сцюардэсы спалі, яны кахаліся пасярод Атлантыкі, ледзь зачыніўшы дзверы прыбіральні, і паміралі не столькі ад асалоды, колькі са смеху. Між іншым, праз дваццаць чатыры гадзіны пасля вяселля толькі яны ведалі, што Нэна Даконтэ цяжарная ўжо два месяцы.

Такім чынам, калі яны прыбылі ў Мадрыд, то пачуваліся як каханкі, што ўжо спатолілі свае жаданні. Але пры гэтым яны захоўвалі дастаткова вытрымкі, каб быць падобнымі да цнатлівых маладых. Бацькі абаіх прадугледзелі ўсё. Перш чым яны пакінулі самалёт, да іх у першы клас падняўся чыноўнік-цырымоніймайстар, каб уручыць Нэне Даконтэ футра з белай норкі з чорнай бліскучай аблямоўкай – вясельны падарунак ад яе бацькоў. Білі Санчэсу ён уручыў скураную куртку, навінку зімовага сезона, і немаркіраваныя ключы ад машыны, што чакала яго ў аэрапорце.

Супрацоўнікі пасольства сустрэлі маладых у салоне для афіцыйных прыёмаў. Пасол і ягоная жонка не толькі былі даўнімі сябрамі іхніх бацькоў, але ён,

медык, нават асістыраваў пры нараджэнні Нэны Даконтэ і цяпер чакаў яе з букетам руж, такіх шыкоўных і свежых, што кроплі расы на іх здаваліся дыяментамі. Нэна Даконтэ павіталася пяшчотнымі пацалункамі, узяла ружы. Пры гэтым яна ўкалола палец шыпом, але выйшла з няёмкай сітуацыі проста чароўна:

– Я гэта зрабіла наўмысна, – сказала яна, – каб вы заўважылі мой пярсцёнак.

Ад пярсцёнка, які мусіў каштаваць цэлы маёнтак, нельга было адвесці вачэй. Вабіў не столькі сам брыльянт, колькі старажытная аправа. Таму ніхто не звярнуў асаблівай увагі на кроў. Тым болей, што неўзабаве ўсе кінуліся аглядаць новую машыну. Пасол быў чалавекам з пачуццём гумару, ён прывёз машыну ў аэрапорт і загадаў запакаваць у цэлафан, перавязаны вялікім бліскучым бантам. Але Білі Санчэс не ацаніў ягонага вынаходніцтва. Яму так карцела хутчэй убачыць падарунак, што ён садраў абгортку адным рыўком і аслупянеў. Гэта быў “Бэнтлі” апошняй маркі, з унутраным аздабленнем з натуральнай скуры.

Неба было падобнае на попельны плашч, Гвадарама дыхала рэзкім ледзяным ветрам, было зябка, але Білі Санчэс зусім не адчуваў холаду. Ён трымаў супрацоўнікаў пасольства на адкрытай аўтастаянцы, не ўсведамляючы, што тыя мерзнуць з ветлівасці, аж покуль не скончыў абследаваць машыну да яе самых патаемных дэталяў. І толькі пасля агледзін пасол сеў з ім побач, каб паказаць дарогу да афіцыйнай рэзідэнцыі, дзе быў запланаваны абед. Пакуль ехалі, паказваў найбольш вядомыя мясціны горада, але кіроўца, як выглядала, быў зачараваны толькі аўтамабілем.

Білі Санчэс упершыню пакінуў сваю краіну. Ён прайшоў праз усе прыватныя і публічныя каледжы, не скончыўшы ніводнага, пакуль яго не падхапіла і не панесла стыхія нянавісці.

Першае ўражанне ад не падобнага на ягоны горада, блокі попельных дамоў у яркім святле дня, голыя дрэвы на фоне далёкага мора, – усё выклікала ў ім пачуццё безабароннасці, якое ён імкнуўся загнаць глыбей у сэрца. Аднак праз некаторы час ён на гэта забыўся. Разгулялася завея, нечаканая і бязгучная, першая за ўвесь сезон, і калі яны выходзілі з дома пасла пасля абеду, каб рушыць у дарогу на Францыю, то перад імі паўстаў горад, засыпаны зіхоткім снегам. Білі Санчэс, урэшце, забыўся пра машыну і ў прысутнасці ўсіх з крыкам захаплення пачаў сыпаць жменямі снег сабе на галаву і качацца ў сумётах проста на вуліцы.

Нэна Даконтэ ўпершыню заўважыла, што палец усё крывавіць, калі яны выязджалі з Мадрыда ў вечар, праяснелы пасля буры. Яна здзівілася, як гэта акампаніравала на саксафоне жонцы пасла, што любіла спяваць оперныя арыі па-італьянску пасля афіцыйных абедаў, і не чула болю ў безыменным пальцы. Потым, паказваючы мужу карацейшы шлях у бок мяжы, яна неасэнсавана смактала палец кожны раз, як той крывавіў, і толькі калі яны даехалі да Пірэнеяў, ёй прыйшло ў галаву пашукаць аптэку. Потым ёю зноў авалодалі недагледжаныя сны апошніх дзён, і калі яна раптам абудзілася ад задухі, нібыта машына ішла праз ваду, то доўга не ўспамінала пра хусцінку, што закарэла на пальцы. Убачыла на асветленым табло гадзінніка, што ўжо за тры гадзіны, пра сябе падлічыла, колькі яны праехалі, і толькі тады зразумела, што яны ўжо даўно прамінулі Бурдэас, а таксама Ангулем

і Пуацье, і цяпер былі на Луарскай плаціне, якая патанала ў месячным святле. Ззянне месяца прасочвалася праз фільтры туману, і сілуэты замкаў сярод соснаў здаваліся казачнымі зданямі. Нэна Даконтэ, якая ведала гэтыя мясціны на памяць, падлічыла, што да Парыжа засталося ўсяго каля трох гадзін.

– Ты проста дзікун, – сказала яна яму. – Вядзеш машыну больш за адзінаццаць гадзін, не еўшы.

А ў яго нібыта выраслі крылы ад бязмернага захаплення новай забавай. Хаця ў самалёце ён спаў мала і кепска, але адчуваў, што ў яго хопіць сіл, каб даехаць да Парыжа на золку.

– Мне даволі пасольскага абеду, – сказаў ён. І дадаў, без усялякай логікі, – а вось у Картахэне цяпер толькі выходзяць з кінатэатра. Там, здаецца, дзесятая гадзіна.

І ўсё ж Нэна Даконтэ баялася, што, згаладалы, ён засне за рулём. Яна адкрыла адну з незлічоных кардонак з падарункамі, якія ім паднеслі ў Мадрыдзе, і паспрабавала ўціснуць яму ў рот кавалак зацукраванага апельсіна. Але ён выплюнуў яго.

– Мужыкі не ядуць салодкага, – сказаў ён.

Неўзабаве пасля Арлеана густы туман рассеяўся, і незвычайна вялікая поўня асвятліла заснежаныя палеткі, але дарожны рух ускладніўся наплывам груваcткіх фур з агароднінай і цыстэрнамі з віном, што кіраваліся ў Парыж. Нэне Даконтэ хацелася дапамагчы мужу і сесці за руль, але яна нават не адважылася сказаць пра гэта, бо на самым пачатку першага іхняга сумеснага падарожжа ён папярэдзіў яе, што няма для мужчыны большага прыніжэння, чым дазволіць жонцы везці яго. Яна пачувалася асвежанай амаль пяццю гадзінамі спакойнага сну і, да таго ж, задаволенай, што яны не спыніліся ў якім-небудзь

правінцыйным французскім гатэлі, якія яна ведала яшчэ з маленства па шматлікіх падарожжах з бацькамі. "У свеце няма больш прыгожых краявідаў, – сказала яна, – але тут можна памерці ад смагі і ніхто не падасць шклянкі вады задарма". Яна настолькі добра ведала гэта, што ў апошні момант засунула ў сумачку мыла і маток туалетнай паперы, бо ў французскіх гатэлях ніколі не бывае мыла, а замест паперы ў прыбіральнях можна знайсці мінулатыднёвыя газеты, нарэзаныя квадрацікамі і наткнутыя на кручок. Адзінае, аб чым яна цяпер шкадавала, дык гэта аб тым, што згублена цэлая ноч кахання.

На гэта Білі Санчэс сказаў:

– А я цяпер думаю, як было б абалдзенна пагуляць у снежкі. Проста тут, калі хочаш.

Нэна Даконтэ сур'ёзна ўзважыла прапанову. На ўзбочыне аўтастрады снег пад святлом месяца выглядаў мяккім і цёплым, але бліжэй да прыгарадаў Парыжа рух станавіўся ўсё больш інтэнсіўным, паказаліся светлыя сілуэты фабрык і на дарозе з'явіліся рабочыя на роварах. Калі б не зіма, ужо зусім бы развіднела.

– Лепш ужо пачакаць да Парыжа, – сказала яна. – Утульны пакой і ложак з чыстымі прасцінамі, – гэта якраз для маладажонаў.

– Ты ўпершыню згаджаешся са мной, – сказаў ён.

– Вядома, – пажартавала яна. – Мы ж упершыню ажаніліся.

Перад самым світанкам яны памачыліся на ўзбочыне дарогі, спаласнулі твары ды выпілі кавы з гарачымі французскімі булачкамі на стаянцы, дзе вадзіцелі грузавікоў снедалі з чырвоным віном. Нэна Даконтэ заўважыла ў прыбіральні плямы крыві на блузцы і спадніцы, але вырашыла не адмываць іх.

Кінула ў смецце набрынялую крывёю хустку, насунула шлюбны пярсцёнак на левую руку і добра памыла паранены палец вадой з мылам. Ранка ад укола была амаль нябачная. Аднак, як толькі яны вярнуліся ў машыну, кроў пацякла зноў, ды так моцна, што Нэна Даконтэ высунула руку з акна ў спадзеве, што сцюдзёнае паветра з палеткаў хоць трохі падгоіць рану. І гэта было дарэмна, але пакуль яна пра гэта не ведала. "Калі нехта захоча знайсці нас, то гэта лёгка зрабіць, – сказала яна з чароўнай бяспечнасцю. – Трэба толькі ісці па крывавым следзе на снезе". Тут жа яна задумалася над тым, што сказала, і ў гэты момант яе твар азарыўся першымі прамянямі світанку.

– Уяві сабе, – сказала яна пазней, – крывавы след на снезе ад Мадрыда да Парыжа. Здаецца, прыгожа, як у песні?

Але ўжо было не да жартаў.У прыгарадах Парыжа палец бруіў крывёй, як крыніца, і Нэну Даконтэ ахапіла трывога. Яна зноў і зноў спрабавала спыніць крывацёк туалетнай паперай, якую мела ў сумачцы, але ледзь паспявала агарнуць палец, як яе даводзілася выкідваць за акно. Касцюм, які яна ўпершыню апранула, футра, сядзенні машыны былі запэцканыя ў кроў, але што тут паробіш? Білі Санчэс не на жарт напалохаўся і запатрабаваў шукаць аптэку, толькі яна ўжо ведала, што аптэкары тут ні пры чым.

– Мы ўжо недалёка ад Арлеанскай брамы, – сказала яна. – Едзь прама, па праспекце генерала Леклерка, там шырока і шмат дрэў, а потым я скажу, што рабіць.

То быў найцяжэйшы адрэзак усяго падарожжа. Праспект генерала Леклерка быў шчыльна запруджаны ва ўсіх напрамках легкавікамі і матацыкламі ды груваcткімі фурамі, якія імкнуліся прабіцца да

цэнтральных рынкаў. Білі Санчэса так раззлавала марнае выццё клаксонаў, што ён пачаў на ўсё горла лаяцца, як катаржнік, на вадзіцеляў і нават хацеў выскачыць з машыны, каб пабіцца з адным, але Нэна Даконтэ здолела пераканаць яго, што хоць французскія вадзіцелі – самы грубіянскі народ у свеце, але ніколі не б'юцца паміж сабой. Нэна Даконтэ з усіх сіл намагалася не страціць прытомнасць.

Каб праехаць вуліцу Ляона Бэльфора, ім спатрэбілася больш за гадзіну. Кавярні і крамы былі асветленыя, нібыта апоўначы; гэта ж быў тыповы студзеньскі аўторак у Парыжы, як заўжды пахмурны і брудны, з panылай імжой, што ўсё не магла перамяніцца на снег. Але на праспекце Дэнфэр-Рашро зрабілася свабадней, і праз некалькі кварталаў Нэна Даконтэ паказала мужу, дзе павярнуць направа і спыніцца – насупраць прыёмнага пакою вялізнага шэрага шпіталя.

Ёй спатрэбілася дапамога, каб выйсці з машыны, але яна заставалася спакойнай і нават як быццам азоранай нейкім святлом. Пакуль не падышоў дзяжурны лекар, яна прылегла на насілкі з коламі і адказвала на руцінныя пытанні медсястры. Білі Санчэс вызваліў Нэну Даконтэ ад сумачкі і ўзяў за левую руку, на якой быў заручальны пярсцёнак; рука была млявая і халодная, а вусны збялелі. Ён заставаўся побач з ёю, пакуль не прыйшоў дзяжурны лекар і пачаў аглядаць паранены палец. Гэта быў вельмі малады чалавек са скурай колеру старой медзі і выгаленай галавой. Нэна Даконтэ не звяртала на яго ўвагі, яна глядзела на мужа са слабай усмешкай.

– Не палохайся, – сказала яна з уласцівым ёй гумарам. – Адзінае, што можа здарыцца, дык толькі тое, што гэты канібал адрэжа мне руку, каб з'есці яе.

Лекар скончыў агляд і раптам уразіў іх кастыльскім вымаўленнем, хаця і з азіяцкім акцэнтам.

– Не, даражэнькія, – сказаў ён, – гэты канібал лепш памрэ з голаду, чым стане рэзаць такую прыгожую руку.

Яны збянтэжыліся, але лекар супакоіў іх ветлівым жэстам. Потым загадаў адвезці насілкі. Білі Санчэс хацеў ісці за імі, трымаючы жонку за руку, але лекар спыніў яго за локаць.

– Вам нельга, – сказаў ён. – Яна паступае на інтэнсіўную тэрапію.

Нэна Даконтэ ўсміхнулася мужу і махала рукой, пакуль насілкі не зніклі ў канцы калідора. Лекар затрымаўся, каб прагледзець звесткі, запісаныя медсястрой на таблічцы. Білі Санчэс звярнуўся да яго:

– Доктар, – сказаў ён, – яна цяжарная.

– Колькі часу?

– Два месяцы.

Лекар не надаў гэтаму асаблівага значэння. “Добра, што Вы сказалі мне”, – сказаў ён і рушыў услед за насілкамі. Білі Санчэс застаўся стаяць пасярод цёмнай залы, дзе пахла хворымі і лекамі, не ведаючы, што рабіць, і ўглядаючыся ў пусты калідор, куды звезлі Нэну Даконтэ, а потым усеўся на драўляную лаву побач з іншымі наведвальнікамі. Ён не памятаў, колькі часу прабыў тут, але калі вырашыў выйсці са шпіталя, то была другая гадзіна ночы, не сціхла імжа і ён, прыціснуты цяжарам бяды, усё не ведаў, што яму рабіць далей.

Нэна Даконтэ паступіла ў шпіталь у 9.30 у аўторак, 7 студзеня, як гэта можна было праз гады праверыць у архівах. У тую першую ноч Білі Санчэс спаў у машыне насупраць дзвярэй прыёмнага пакоя і на наступны дзень з’еў шэсць вараных яек і выпіў два

кубкі кавы ў кавярні, якую знайшоў побач, бо не еў з самага Мадрыда. Потым ён пайшоў у прыёмны пакой, каб убачыць Нэну Даконтэ, але яму растлумачылі, што за даведкамі трэба зайсці ў цэнтральны ўваход. Там, урэшце, адзін астурыец з абслугі дапамог яму паразумецца з дзяжурным, і той пацвердзіў, што сапраўды Нэна Даконтэ зарэгістравана ў шпіталі, але наведванні дазваляюцца толькі па аўторках, з дзевяці да чатырох. Гэта значыць, праз шэсць дзён. Білі Санчэс спрабаваў пабачыцца з лекарам, што размаўляў па-кастыльску, якога апісаў як негра з выгаленай галавой, але ніхто не апазнаў яго па гэтых прыкметах.

Супакоены паведамленнем, што Нэна Даконтэ ўнесена ў рэгістр, ён вярнуўся да машыны, дзе служачы аўтаінспекцыі прымусіў яго прыпаркавацца на два кварталы далей, на вельмі вузкай вулачцы, з няцотнага боку. Праз ходнік насупраць быў адрэстаўраваны будынак з шыльдай “Гатэль Ніколь”. На шыльдзе была толькі адна зорачка, а ў рэгістрацыйным холе не было нічога, акрамя сафы і старога піяніна, але гаспадар сваім меладычным голасам мог паразумецца з кліентамі на любой мове, абы было чым плаціць. Білі Санчэс пасяліўся, з адзінаццаццю чамаданамі і дзевяццю кардонкамі, у адзіным вольным пакоі ў трохкутнай мансардзе на дзевятым паверсе, куды трэба было падымацца па спіральнай лесвіцы, прапахлай варанай цвятной капустай. Сцены пакоя былі завешаны цьмянымі дыванамі, а праз адзінае акно не прабівалася нічога, акрамя прыцемкаў унутранага двара. Двухспальны ложак, вялікая шафа, звычайнае крэсла, пераноснае бідэ і ўмывальнік з кранам і глякам займалі ўсю прастору, так што адзіным магчымым спосабам знаходзіцца ў пакоі было ляжанне ў ложку. Усё тут

было нейкім нішчымным, але ж вельмі чыстым і не пазбаўленым нядаўняй санапрацоўкі.

Білі Санчэс яшчэ мала пажыў, каб адразу зразумець сутнасць гэтага свету, заснаванага на таленце сквапнасці. Ён няхутка расшыфраваў загадку святла на лесвіцы, якое выключалася, перш чым ён даходзіў да свайго паверха, і не ведаў, як зноў уключыць яго. Яму спатрэбілася паўраніцы, каб высветліць, што на лесвічнай пляцоўцы кожнага паверха ёсць прыбіральня, якая зачыняецца на ланцужок. Ён ужо быў вырашыў карыстацца ёю ў прыцемках, як выпадкова адкрыў, што святло запальвалася, калі зачыняць засаўку знутры, каб ніхто не забыўся пайсці, не выключыўшы святло. Душ, што знаходзіўся ў канцы калідора і якім ён па звычцы карыстаўся двойчы на дзень, як у сябе дома, аплочваўся дадаткова, але гарачая вада канчалася праз тры хвіліны. Аднак Білі Санчэс меў дастаткова светлы розум, каб усвядоміць, што гэты, такі адрозны ад прывычнага яму, парадак у любым выпадку лепш за студзеньскую непагадзь, і ўсё ж такі яму было вельмі самотна, бо ён ужо не мог зразумець, як гэта можна жыць без Нэны Даконтэ.

Як толькі ён падняўся ў пакой раніцай у сераду, то адразу зваліўся ў пасцель як быў, у куртцы, і, думаючы пра цудоўную істоту, якая непадалёку сцякала крывёй, вельмі хутка забыўся сном, такім глыбокім, што калі абудзіўся, то не змог уцяміць: цяпер пяць вечара ці раніцы, які дзень тыдня, што гэта за горад і дом, за шыбамі якога — вецер і дождж. Пакрысе ён згадаў папярэдні дзень і, думаючы пра Нэну Даконтэ, дачакаўся, пакуль добра развіднела. Тады ён пайшоў снедаць у тую ж кавярню, дзе харчаваўся да гэтага, і там даведаўся, што сёння чацвер. Агні шпіталя свяціліся, і дождж скончыўся, а ён усё

стаяў, абапершыся на ствол каштана насупраць галоўнага пад'езда, праз які ўваходзілі і выходзілі лекары і медсёстры ў белых халатах – ён спадзяваўся сустрэць лекара-азіята, што прымаў Нэну Даконтэ. Не ўбачыў яго і пасля абеду вымушаны быў адмовіцца ад чакання, таму што змерз. А сёмай ён выпіў яшчэ кавы з малаком і з'еў два вараныя яйкі, якія сам узяў у буфеце; вось ужо сорак восем гадзін ён еў тое ж самае ў тым жа месцы. Калі вяртаўся ў гатэль, каб легчы спаць, то ўбачыў толькі сваю машыну ля ходніка, а ўсе астатнія стаялі на супрацьлеглым баку, – за дворнікі было засунута паведамленне аб штрафе. Брамніку гатэля "Ніколь" давялося доўга тлумачыць яму, што па няцотных днях месяца трэба паркавацца ля ходніка няцотнага боку, а наступным днём – ля супрацьлеглага ходніка. Гэткія рацыяналістычныя пасткі заставаліся незразумелымі для Санчэса дэ Авіла, які яшчэ два гады назад уехаў у кінатэатр іхняга квартала на службовай машыне галоўнага алькальда, чым да смерці напалохаў фацэтных паліцэйскіх. Яшчэ менш ён што-кольвек зразумеў, калі гатэльны брамнік параіў яму заплаціць штраф, але не пераводзіць машыну ў іншае месца ў такую пару, бо трэба будзе вяртаць яе назад а дванаццатай уначы. Той ноччу ён упершыню не думаў пра Нэну Даконтэ, круціўся ў ложку і згадваў бурныя пагулянкі ў шынках з дзеўкамі на гарадскім рынку ў Картахэне-дэль-Карыбэ. Ён успамінаў пах смажанай рыбы і какосавую сечку ў корчмах на прыстані, дзе швартаваліся арубскія шхуны. Успамінаў свой дом са сценамі, пакрытымі браткамі, дзе цяпер была толькі сёмая гадзіна ўчарашняга вечара, і бачыў свайго бацьку ў шаўковай піжаме, як той чытае газету, дыхаючы свежым паветрам на тэрасе.

Успомніў сваю маці, пра якую ніколі не было вядома, дзе яна, вабную і балбатлівую, у нядзельным касцюме і з ружай за вухам, як яна задыхалася ад спёкі, ахутаная раскошным рыззём. Аднойчы ўвечары, тады яму было сем гадоў, ён нечакана зайшоў у яе пакой і заспеў яе голай у ложку з адным з выпадковых каханкаў. Гэты інцыдэнт, пра які яны ніколі не згадвалі, усталяваў між імі даверлівыя адносіны, што былі больш карысныя за любоў. Аднак ён не ўсведамляў ні гэтага, ні іншых жахаў самоты адзінага дзіцяці да апошняй ночы, калі круціўся ў ложку на змрочнай парыжскай мансардзе, не маючы нікога, каму б мог распавесці пра сваё няшчасце, і з адчайнай злосцю на самога сябе, бо не мог утрымацца ад слёз.

Бяссонніца пайшла на карысць. У пятніцу ён устаў разбіты і нявыспаны, але з жаданнем рэальных дзеяў. Урэшце ён насмеліўся зламаць замок свайго чамадана, каб памяняць вопратку, таму што ўсе ключы былі ў сумачцы Нэны Даконтэ, як і большая частка грошай ды тэлефонны нататнік, дзе можна было б знайсці нумар каго-небудзь з парыжскіх знаёмых. У той самай кавярні ён раптам сцяміў, што навучыўся вітацца па-французску і заказваць сэндвічы з шынкай і каву з малаком. Хаця ён ведаў, што ніколі не здолее заказаць ані масла, ані адмыслова прыгатаваных яек, але масла заўсёды падавалася з хлебам, а вараныя яйкі былі выстаўлены ў буфеце і іх можна было браць, не пытаючыся. Да таго ж, на трэці дзень абслуга прызвычаілася да яго і дапамагала паразумецца. На снеданне ў пятніцу, спрабуючы давесці да ладу сваю галаву, ён змог нават заказаць цялячае філе са смажанай бульбай і бутэльку віна. Ад гэтага яму так палепшала, што ён заказаў яшчэ бутэльку, выпіў яе да паловы і пайшоў праз вуліцу з рашучым намерам

уварвацца ў шпіталь сілай. Білі Санчэс не ведаў, дзе шукаць Нэну Дакontэ, але ў яго з'явілася ўпэўненасць, што сёння ён сустрэне лекара-азіята. Ён пайшоў не праз цэнтральны ўваход, а праз прыёмны пакой, які, здавалася, слабей ахоўваўся, але ён не паспеў прайсці па калідоры нават да таго месца, дзе Нэна Даконтэ развіталася з ім, махнуўшы рукой. Дзяжурны ў халаце, заплямленым крывёй, нешта спытаўся ў яго, але Білі Санчэс не звярнуў на яго ўвагі. Дзяжурны не адставаў, паўтараючы тое ж пытанне па-французску, і ўрэшце схапіў за руку з такой сілай, што ён спыніўся як укопаны. Білі Санчэс паспрабаваў адштурхнуць дзяжурнага, але той, вылаяўшы яго маці па-французску, заламаў яму руку за спіну і, не перастаючы бэсціць сучку-маці, павалок амаль поцягам да дзвярэй, дзе, не зважаючы на крыкі болю, выкінуў, нібыта мех з бульбай, на сярэдзіну вуліцы.

Тым вечарам, пакутуючы ад болю пасля бойкі, Білі Санчэс раптам стаў дарослым. Ён нарэшце даўмеўся звярнуцца да пасла, што даўно зрабіла б Нэна Даконтэ. Брамнік гатэля, нягледзячы на свой змрочны выгляд, быў гатовы дапамагчы кожнаму і, да таго ж, цярпліва ўспрымаў любую мову. Ён знайшоў нумар тэлефона і адрас пасольства ў тэлефонным даведніку і занатаваў іх на картцы. На тэлефонны званок адказала вельмі ветлівая жанчына, у яе мерным, без яркасці, голасе Білі Санчэс адразу пазнаў дыкцыю жыхароў Андаў. Ён пачаў прадстаўляцца сваім поўным іменем, упэўнены, што ўразіць жанчыну двума прозвішчамі, але голас у слухаўцы не змяніў тону. Жанчына паўтарала завучаную на памяць лекцыю пра тое, што сеньёра пасла зараз няма ў кабінеце і што яго не чакаюць да заўтрашняга дня, ды і ў любым выпадку пасол не зможа прыняць яго інакш, як па папярэднім

запісе і толькі па надзвычайнай справе. Білі Санчэс урэшце зразумеў, што і гэтым шляхам не дабярэцца да Нэны Даконтэ, і падзякаваў за інфармацыю з той жа ветлівасцю, з якой яму паведамілі яе. Потым узяў таксі і паехаў у пасольства, якое знаходзілася на Елісейскай вуліцы, 22, пасярод аднаго з самых ціхіх кварталаў Парыжа. Білі Санчэса ўразіла, як ён мне пра гэта расказваў у Картахэне-дэль-Індзіяс праз шмат гадоў, сонца, такое ж яркае, як на Карыбах; яно з'явілася ўпершыню пасля ягонага прыезду сюды, і адразу стала бачнай Эйфелева вежа ў ззяючым небе.

Чыноўнік, які прыняў яго замест пасла, здавалася, толькі што перажыў смяротную хваробу, на што паказвалі не толькі касцюм з чорнага сукна, заціснуты каўнер і жалобны гальштук, але ж таксама слабая жэстыкуляцыя і кволы голас. Ён зразумеў імпэт Білі Санчэса, але нагадаў яму, не губляючы ласкавасці, што яны знаходзяцца ў цывілізаванай краіне, строгія нормы якой засноўваюцца на самых старажытных і разумных правілах, не тое, што ў варварскіх Амерыках, дзе дастаткова даць хабар брамніку, каб прайсці ў шпіталь. "Не, мой даражэнькі малады чалавек, — сказаў ён. — Больш няма спосабу, як толькі падпарадкавацца ўладзе розуму і чакаць да аўторка".

— А ў прынцыпе, ужо застаецца ўсяго чатыры дні, — заключыў чыноўнік. — Тым часам схадзіце ў Луўр. Гэта варта зрабіць.

Неўзабаве Білі Санчэс апынуўся на плошчы дэ ла Канкорд і не ведаў, што далей рабіць. Убачыў над дахамі Эйфелеву вежу, яна падалася яму такой блізкай, што ён вырашыў пайсці да яе па набярэжнай. Але вельмі хутка сцяміў, што вежа значна далей, чым здавалася, ды, акрамя таго, ён неўпрыкмет заблукаў. Білі Санчэс сеў на лаву на беразе Сены і пачаў думаць

пра Нэну Даконтэ. Глядзеў, як пад мастамі праплывалі параходы з буксірамі, падобныя да плавучых дамоў з размаляванымі дахамі, вокнамі, з кветкамі ў гаршчочках на падаконніках і дротам над бортам, дзе сушылася бялізна. Ён доўга-доўга ўглядаўся ў нерухомага рыбака з нерухомай вудай і нерухомай лескай і стаміўся чакаць, пакуль там што-небудзь паварушыцца, а ўжо цямнела, і ён вырашыў узяць таксі, каб вярнуцца ў гатэль. Толькі тады да яго дайшло, што ён забыўся назву гатэля і адрас, як і не ўяўляў, у якім сектары Парыжа знаходзіцца шпіталь.

Яго ахапіла паніка, ён зайшоў у першую кавярню, заказаў каньяку і паспрабаваў сабрацца з думкамі. Пакуль думаў, убачыў сябе ў шматлікіх паўторах і з розных бакоў у люстэрках на сценах, убачыў, які ён напалоханы і самотны, і ўпершыню ад нараджэння падумаў пра рэальнасць смерці. Але пасля другой чаркі яму стала лепш, і прыйшла ў галаву разважная ідэя вярнуцца ў пасольства. Ён палез у кішэню па картку, каб паглядзець назву вуліцы, і на адваротным яе баку ўбачыў назву і адрас гатэля. Яго так уразіла ўся гэта прыгода, што рэшту дня ён выходзіў з пакоя, толькі каб пад'есці і пераставіць машыну да адпаведнага ходніка. Тры дні бесперапынна сыпала тая ж брудная імжа, што і раніцай іхняга прыезду. Білі Санчэс, які ў сваім жыцці не дачытаў ніводнай кнігі да канца, захацеў пачытаць што-небудзь, каб не нудзіцца ў ложку, але ў чамаданах жонкі знайшоў кнігі на якіх заўгодна мовах, толькі не па-кастыльску. Ён чакаў аўторка, узіраючыся ў вензелі, што паўтараліся на шпалерах пакоя, і ні на імгненне не пераставаў думаць пра Нэну Даконтэ. У панядзелак ён навёў сякі-такі парадак у пакоі, падумаўшы, а што яна сказала б, калі б знайшла яго ў такім становішчы; і толькі

ўпарадкоўваючы рэчы, убачыў на норкавым футры плямы сухой крыві. Ён увесь вечар адмываў футра пахучым мылам, якое знайшоў у сумачцы, пакуль яно не стала такім, як было, калі яны выходзілі з самалёта ў Мадрыдзе.

Раніца аўторка была пахмурная і марозная, але без імжы. Білі Санчэс устаў а шостай і чакаў ля ўваходу ў шпіталь разам з натоўпам сваякоў хворых, якія трымалі пакункі з падарункамі і букеты кветак. Яны ўвайшлі гуртам, ён нёс у руцэ норкавае футра і не пытаўся нікога, дзе можа быць Нэна Даконтэ, бо яго падтрымлівала перакананне, што гэтым разам абавязкова сустрэне лекара-азіята. Ён прайшоў праз вялікі двор з кветнікам і дзікімі птушкамі, па баках якога знаходзіліся аддзяленні з хворымі: жаночае – справа, а мужчынскае – злева. Следам за іншымі ён увайшоў у жаночае аддзяленне. Убачыў доўгі шэраг хворых, якія сядзелі на ложках у баваўняных шпітальных кашулях, пад яркім святлом з вокнаў, і падумаў, што ўсё гэта выглядае не так ужо і паныла, як можна ўявіць звонку. Ён прамінуў калідор двойчы і пераканаўся, што ніводная з хворых не была Нэнай Даконтэ. Потым яшчэ раз абышоў ужо галерэю, зазіраючы праз вокны ў мужчынскія палаты і, здалося, пазнаў лекара, якога шукаў.

Сапраўды, гэта быў ён. Разам з іншымі лекарамі і некалькімі медсёстрамі ён абследаваў хворага. Білі Санчэс увайшоў у палату, адсунуў адну з медсясцёр і знерухомеў перад лекарам-азіятам, які нахіліўся над хворым. Гукнуў яго. Лекар зірнуў на Білі Санчэса смутнымі вачамі, хвіліну падумаў і ўрэшце пазнаў яго.

– Але дзе ж гэта Вас чэрці насілі?

Білі Санчэс аслупянеў.

– Я быў у гатэлі, – сказаў ён. – Тутака, за рогам.

Неўзабаве ён даведаўся пра ўсё. Нэна Даконтэ памерла ад страты крыві ў 7.10 уначы на чацвер 9 студзеня, пасля сямідзесяці гадзін марных намаганняў лепшых французскіх спецыялістаў. Да апошняга моманту яна была азораная ды спакойная і тлумачыла, як шукаць ейнага мужа ў гатэлі "Пласа Атэна", дзе ў іх быў зарэзерваваны пакой, і папрасіла, каб звязаліся з ейнымі бацькамі. Бюро пасольства паінфармавала бацькоў тэлеграмай-маланкай, калі яны ўжо ляцелі ў Парыж. Пасол асабіста заняўся справамі бальзамавання і пахавання, трымаючы кантакт з прэфектурай парыжскай паліцыі, якая шукала Білі Санчэса. Экстрэннае паведамленне з ягонымі асабістымі данымі перадавалася з ночы ў пятніцу да вечара ў нядзелю па радыё і тэлебачанні, і гэтыя сорак гадзін яго шукалі, як нікога іншага па ўсёй Францыі. Ягоны фатаздымак, знойдзены ў кішэні Нэны Даконтэ, паказвалі паўсюль. Былі адшуканыя тры "Бэнтлі" той жа мадэлі, але сярод іх не апынулася ягонага.

Бацькі Нэны Даконтэ прыбылі апоўдні ў суботу і сядзелі ля цела ў шпітальнай капліцы да апошняга, спадзеючыся дачакацца Білі Санчэса. Бацькі хлопца таксама збіраліся ляцець у Парыж, але ўрэшце раздумалі. Труну вынеслі ў нядзелю а другой гадзіне дня, і гэта адбывалася ўсяго ў двухстах метрах ад змрочнага гатэльнага пакоя, дзе самотны Білі Санчэс пакутаваў ад кахання да Нэны Даконтэ. Чыноўнік, які прымаў яго ў пасольстве, сказаў мне праз два гады, што менавіта ён атрымаў тэлеграму праз гадзіну пасля таго, як Білі Санчэс выйшаў з прыёмнай, і што ён шукаў хлопца па ўсіх самых аддаленых барах прадмесця Сент-Анарэ. Чыноўнік прызнаўся мне, што не звярнуў на Білі Санчэса асаблівай увагі падчас

прыёму, таму што не мог уявіць сабе, што гэты агаломшаны Парыжам правінцыял у скураной куртцы, якая кепска сядзела на ім, можа мець гонар належаць да такога славутага роду. Тады ж, познім вечарам у нядзелю, калі Білі Санчэс ледзь стрымліваў слёзы адчаю, бацькі Нэны Даконтэ спынілі яго пошукі і паклалі забальзамаванае цела ў металічную труну: тыя, каму давялося пабачыць нябожчыцу, шмат гадоў паўтаралі потым, што ніколі не сустракалі больш прыгожай жанчыны, ані жывой, ані мёртвай. Такім чынам, калі Білі Санчэс урэшце трапіў у шпіталь раніцай у аўторак, то ягоную жонку ўжо пахавалі ў смутным пантэоне Ла Манга, у некалькіх метрах ад дома, дзе яны ўпершыню падабралі ключы ад шчасця. Лекар-азіят, які паведаміў Білі Санчэсу аб ходзе трагедыі, хацеў даць яму супакойваючыя таблеткі, але той адмовіўся. Ён пайшоў, не развітаўшыся, не падзякаваўшы нікому, з адной думкай, што трэба тэрмінова камусьці раструшчыць морду, каб расквітацца за сваё няшчасце. Калі ён выйшаў са шпіталя, то нават не заўважыў, што з неба падаў густы снег, пяшчотныя і чыстыя камякі якога былі падобныя на галубіныя пёркі, і што на вуліцах Парыжа панавала святочная атмасфера, бо гэта быў першы моцны снегапад за дзесяць гадоў.

*1976*

**Пераклаў з іспанскай**
**Валеры БУЙВАЛ**

*Gabriel Garcia Marquez.*
*Doce cuentos peregrinos.*
*Barcelona, 1997*

## ШАХМАТНЫ ПАДЗІШАХ У ШАФЕ

Шафа стаіць у цэнтры кабінета
такая чыноўніцкая афрыканская кабета
пазірае на мяне праз свой марскі бінокль
пазірае таксама праз бляклы манокль
яна наглыталася за год пылу і тоўстых папак
у яе ад гемарою баліць попа
я часам даю ёй жоўты маласольны агурок
цалую ў тоўсты дубовы пупок
запаўзаю пад чорныя грудзі
і там варушуся як чарвяк-чарадзей
і мару ікнуць я моцна ўвосень
каб наліць у шклянку воцату
і выпіць за здароўе шафы
каб стала яна падзішахам
у гэтай хамскай дзяржаве

*16 жніўня 1999*

## ЗАПАЗЫКІ ПЕРАМЕННЫХ НАПРАМКАЎ

Вочы галоўны стрыжань маёй паэзіі
ляжаць яны як лом-медзь
вакол металічная сетка
Сетка ілюзорыцца салодкімі сотамі
Краны выцягваюць метровыя муштукі
як балюча Як Балюча Як
я здаю штодня свой метал на пераплаўку
у доменнай печы пунсовыя языкі
вылізваюць чыста

вылузваюцца лісты
выпузваюцца пасля пляжнай хімчысткі
нейкія павукі
нейкія вужакі
нейкія не жахі
на кій нашпіленыя мухі
вуха крычыць страшна
там з прычыны захопу транспарта
згубілася партыя шклянак з мятлушкамі
разлічваюся вачыма
раскідваю запазыкі

*1998–2000*

***

нервы – гэта струны
не гітарныя не кантрабасныя
чалавечыя Цела майго зігзагнага
яны зроблены з сонечных промняў
з балотнай ціны і кветак пунсовых
я нацягваю іх паміж вагонамі цела
і наўскід б’ю пальцамі
какафонія не для Баха не для Шастаковіча
не для Стравінскага
штосьці для Сталіна

*2000*

***

на люстэрку няма халата
яно свалачное Выяўляе толькі палату
акуляры хаваюць падлодкі з перыскопамі

выратуй маё сумленне літрам Джына
мы будзем з ім будзіць п’янае сонца паэзіі
На снежных мастах цяпер халодна
і няма Вольгі і няма вялікай падлодкі
мы пойдзем разам на дно
толькі дай квіток на польскае метро
там пад зямлёй цішыня
моцныя цягнікі як алені
ну прыглядзіся да святла палоннага
гэта не краты і не калоны
гэта натуральны хлеб салёны
ну мне проста весела

*Варшава, 23.11.99*

***

Я спазнюся на сустрэчу з чыноўнікам.
Як цудоўна!
Я с[illegible] абед да чыноўніка.
Як цудоўна!
Я спазнюся да адказнага чыноўніка.
Як цудоўна!
Я не патраплю да чыноўніка.
Як цудоўна!
Я не буду адбіўной у гэтага
невегетарыянскага чыноўніка,
у гэтага апартэідна-небяспечнага
апаратнага супрацоўніка!
Як цудоўна!
Я застануся жывы.

*2000*

# ДЭЗІ НА ФОНЕ ФАРМАКАЛОГІІ ФАРМАЦЫІ

чорнымі ручаінкамі збягуць змеі з твару
чорныя звяры возьмуць тару
і будуць кідаць туды марангаў
чорнымі ручаінкамі сыйдуцца ніці лета
Я не люблю савецкія газеты!

*10.06.99*

***

у абойме чатыры патроны
гладкіх і бліпчастых цары
першага раскрышу аб белы граніт
вока што ляжыць тутака
упрыгожанае кругамі броваў
выцісну вон
і ўпаду ў жоўтае лісце
другі быццам гуляючыся ў
стрэлку гадзінніка
пераляціць па арбіце пакоя
пакіне пячатку на люстэрку
на маім адлюстраванні
а трэці падобны да
знятага з трона
да залатога сабакі
ўгрызецца ў неба
у блакітны халадзец
у мёртвае цела
чацвёртага апранутага пацалункамі
карануючы сам

*1998*

Віктар СЛІНКО

*Трава,*
*бухматая ад пылу,*
*уздоўж каляін, і*
*прадзед Васіль пад*
*лейцы вядзе каня.*
*А ты на самым*
*высокім стозе,*
*гайдаешся між*
*яблынь калгаснага*
*саду – невысокіх,*
*дзе нават старая*
*пчала ўзляціць на*
*вышынную*
*кветку –*
*і мяжу не*
*скасіць ніякай*
*касою, дзе ты*
*неўзабаве*
*жывы.*

# 13-16 ЛІСТАПАДА 1998 ГОДА

*(паэма)*

Ты не прэтэндуеш ні на што, аўтсайдэр, апошні ў любой чарзе, жыхар горада ў цэнтры Еўропы, чые прамавугольнікі шэрых дамоў нічога не гавораць тваёй памяці. Гэта твая радзіма?

Аднойчы, у маленстве, калі бацьку твайго перавялі ў далёкае лясніцтва, у глухую вёску, дзе вы займалі палову хаты, а ты быў зусім малы, да вас у хату запоўз вуж. Адрознілі яго бацькі па жоўтых плямках на галаве – інакш бы забілі, а так – кіем падштурхнулі ў вядро і аднеслі ў зарослую асотам сажалку – зусім блізка, пэўна адтуль ён і прыпоўз.

Радзіма – твая сям'я, але як ні ўспомніш сябе – займалі палову хаты, і толькі пазней, калі ты вырас, маці прабілася ў сталіцу і перавезла сям'ю. Там нарэшце ўпершыню купілі свой дом, і як кпіла суседка – помніш: "Завязнеце вы тут..." Цягалі рэчы праз гразь, бо не было дарогі, але – бацька прывёз гравію і ўдвух вы масцілі дарогу, бы грэблю, праз слату – нейкія восемдзесят метраў дарогі, але затое – свая. А яшчэ сусед казаў – чулі размову – хай плацяць тысячу рублёў, дазволю хадзіць праз свой двор.

Ведаеш і помніш: ёсць у цябе

свой пакой акном у сад, але калі мала сонца і лішак вільгаці, бацька ідзе зранку секчы шыпшыну – каб не засланяла акно. Каб было добра чалавеку – зробіш, каб добра ўсім – не. І тады яшчэ нешта гаварыла-падказвала, што гэта радзіма – не назаўжды твая.

А ты не быў трывушчы і ўпарты ў жыцці, і трацячы сілы на тое, што іншыя мелі так, адбывала-ся – на іншае цябе ўжо неставала. Але іншага, што мусіць знайсціся ў табе, яшчэ не ведаў, і думаў – нічога не маеш свайго.

Чырвонай вежы касцёла недастаткова, каб ажывіць абцяжараную ўласнай велічынёй плошчу, па перыметры якой у розных кірунках пульсуюць бензінавыя артэрыі аўтастрад. Адчуеш сябе тромбам у гэтай крыві – так незадаволена яны спыняюць свой рух, нават калі табе – зялёнае святло. Але ёсць іншая кроў, якой ніішто не пярэчыць, даўняя сон-трава, семафор вясны, і частка гэтай крыві – у табе.

Калісьці адчынілі табе стары куфар і сказалі: бяры, што захочаш, але толькі адно. Падобнае гэтаму адчуў у фае бібліятэкі 19 лютага 1989 года, убачыўшы яе: калі і жадаць некага, то толькі яе...

Тэлефонныя халады наступілі праз паўтара месяца пасля таго, як ты запісаў яе нумар на правай руцэ. Ты яшчэ не меў сілы на словы – цябе хапала на жэст, на працяглую ноту ля сляпучай рампы – а потым імклівы адыход назад, у цемру куліс.

Узяўся аднойчы адрамантаваць яе магнітафон, дома стаў разбіраць яго і ўключыў паяльнік. Раптам паяльнік зварухнуўся і паляцеў уніз... а ты выкінуў далонь і злавіў распалены кавалак жалеза. Навошта? Каб не даць упасці таму, што ўпасці мусіць?..

Пастаяльцы гавораць шэптам, а ты ў сваім доме –

гаспадар. Прызнае сабака цябе, парэчкі пасаджаныя прызнаюць, маліны дзікія – як сказаць...

Хадзіў да сябра праз чатыры хаты – кідалі нож у дрэва, хто лаўчэй, і табе шанцавала, гаварыў – выпадкова, і зараз сабе – выпадкова! – бы апраўдваешся, хочаш сказаць. А вуліцы, людзі і нават яна – усе, здаецца, стаялі ў чарзе за табою, за тым, што ў куфры старым узяў. Не аддаў нікому і ёй не аддаў – ведаў: забярэ і пойдзе, хай лепей так ідзе – і яна пайшла, але табе засталося тваё.

Ляжала семя ў зямлі, а босы хлопчык наступіў на яго, уціснуў глыбей, да вады, і прарасло яно, але пайшоў дождж – і заліло парастак па самую макаўку, а наступнаю раніцай паверхню вады зашкліла марозам. Басанogі хлапчук, навошта так глыбока ступаеш?

Трава, бухматая ад пылу, уздоўж каляін, і прадзед Васіль пад лейцы вядзе каня. А ты на самым высокім стозе, гайдаешся між яблынь калгаснага саду – невысокіх, дзе нават старая пчала ўзляціць на вышынную кветку – і мяжу не скасіць ніякай касою, дзе ты неўзабаве жывы.

## ЗБУДАВАЎ...

Светлы дом збудаваў
Для надзеі я –
Хай жыве ў ім і маладзее!
Каменем лягчэйшым за салаўя
Вылецела
Праз акно надзея.

Збудаваў я для сонца
Няцесны дом,
Ды згарэў ён ушчэнт
Ад спякоты.
Паплыло сабе сонца
Услед за днём,
Мне пакінуўшы
Прысак пяшчоты.

Для дажджу збудаваў я
Трывалы дом.
З небам страх
Раздзяліў нас дахам.
Стала нам
Не па дарозе з дажджом.
Паляцеў мой лёс
Непрытуленым птахам.

Я для сябра
Новы дом збудаваў,
Быў мой сябра
Увагай крануты.
Кожны сам сабе
Кватараваў
У кутку сваім
Вязнем пакуты.

Дом у думках сваіх
Збудаваў я сабе.
І надзеі няма.
І да сонца высока.
І няўзнакі мне дождж.
І раздольна журбе.
І цяплее ў самоты
Спагаднае вока.

## ШАНУЙ, ЧАРОЦЕ...

Ля ракі старажытнай
Хвастом вавёрчыным
Распушыўся чарот.
Віроў і плыняў
Абмінаючы мытні,
Вецер вёрткі
Шукае брод.

Мне сніўся сон,
Што вецер кудысьці
Адносіць абрыўкі
Дыхання і слоў.
Мне сніўся скон
Пераспелага лісця,
Якое шукала
У небе схоў.

Шануй, чароце,
Сваю ваду,
Трымайся на вятрах,
Трапяткі,
Каб не ўпасці ў самоце
У чужую бяду,
У вялікія слёзы ракі.

Ганад ЧАРКАЗЯН

# НЕПАДУЛАДНЫ...

І думкі, і мроі
Не пойдуць на звод,
І прахам не стануць
Без дай прычыны.
На камені крэслі
Народзінаў год
І год жаданы
Сваёй канчыны.

І мора знябытасці
Заглыне
Твой камень
Вынікаў і сумневу.
Ён будзе ляжаць
На знямелым дне,
Непадуладны
Ні ласцы, ні гневу...

# І ТОЛЬКІ ВЕРНАСЦЬ...

Сва баш*, мой сябра,
На парозе раніца.
Што я магу сказаць
Сваёй самоце,
З кім падзяліцца мне
І з кім параіцца?
Адказ, як птах,
Хаваецца ў палёце.
Рож баш**, мой сябра,
Вось і дня сярэдзіна.
Ад цішыні
Адказу я чакаю.

 





Душа сябе
Трывогаю звярэдзіла.
Ад ранішніх абраз
Яна цяжкая.

Мой сябра, эвар баш***,
Журба нагадвае,
Не зводзіць вечар
З новымі сябрамі.
І толькі вернасць
Шчодрая й багатая,
Яна аднойчы
Сябра выбірае.

## ДАЗВОЛЬ...

А душу маю ўдзень і ўначы
Клопат-допыт
Бяссонна мучае,
Чым магу табе дапамагчы,
Як гаіць
Тваe раны пякучыя?

Засланіў цябе
Хмарай цяжкой
Звар'яцелы Чарнобыль
Без літасці.
Адкажы,
Дзе шукаць твой спакой,
З мора гора плысці –
Дзе плыт знайсці?

І куды паляцелі твае
Маладыя буслы



 

Белакрылыя?
І чаму ён не растае,
Лёд адчаю
З падманнай сілаю?

Хай навала цябе абміне.
Боль твой гоіцца
Светлай шчырасцю.
Беларусь,
Ты дазволь і мне
Быць тваім
Хоць маленькім апірышчам...

## БО ТЫ ЎВА МНЕ...

Сняжынкаю ўпаду
Я на твае далоні,
І ад тваўго цяпла
Растану я ў бяссонні.

Я зоркаю ўпаду
У змрок таропкай ночы,
Каб маладой зарой
Твае світалі вочы.

Усмешкай стану я
На вуснах,
Каб самоту
Прагнаць з тваёй душы
І засяліць пяшчоту.

Не трэба мне чакаць
Спагадлівай нагоды,
Бо ты ўва мне адна,
Са мною назаўсёды.

## БЯРЫЦЕ...

Як дзікі ляшчыннік, я рос
Адно што ў нябёс
Пад надзейным прыглядам.
Ламаў маё голле
Дапытлівы лёс.
І хто мяне толькі не трос.
І сыпаліся арэхі градам.

А можа, гэта слёзы былі.
Ды я і ў мароз, і ў спякоту
І сілу браў
Ад роднай зямлі,
І птушак люляў
Да зялёнага поту.

І вырас, і выстаяў я,
І ўсіх
Арэхамі тымі частую,
Якія няньчыў
Ветру ўскалых.
Бярыце,
Няма сярод іх пустых,
Смакуйце.
Я ваш спакой павартую...

## НАГАДВАЕ...

Гэта спяшаецца вецер
Ад гмаху да гмаху,
Каб развеяць прытулак
Прыспанага страху.

Гэта спяшаецца вецер
Над мроямі-снамі,
Каб пазмесці сляды,
Забытыя намі.

Гэта вецер азяблы
Сваё цёплае мейсца шукае,
Гэта вецер, як мы,
Сваю збеглую долю гукае.

Гэта вецер пад крылы бярэ
Заблуканых
У квадраце пакоры.
Думкі круглыя б'юцца
Аб сцены
Абмежаванай прасторы.

Гэта вецер нагадвае
Пра наступныя дні і былыя,
Дазваляючы свечкі зацэпліць,
Пакуль мы жывыя.

## ЧАКАЕМ...

На ўзбочыне лёсу
Мы роўныя ўсе.
Ні на міг не запыніцца
Развітання дарога.
Ды верым,
Што птах вяртання
Галінку радасці прынясе.
Чакаем,
А нас не чакае нічога.

Ганад ЧАРКАЗЯН

## УСХОД – ГЭТА...

Усход –
Гэта там, дзе пясок
Ад мудрасці плавіцца люта,
Дзе вершнік,
Нібыта прарок,
Дагнаць хоча
Мроіва людства.

Усход –
Гэта там, дзе ажно
Стамілася сонца ад млявай
Ляноты мужчын,
Дзе даўно
Вяршыні ахутаны славай.

Усход –
Гэта там, дзе вайну
Матуля спыняе ратоўна,
Ледзь толькі сваю сівізну
З-пад хусткі пакажа раптоўна.

Усход –
Гэта там, дзе кінжал
Даверыў свой страх ятагану,
Дзе жалю не ведае шал
Падступнасці, здрады,
Падману.

Усход – гэта там, дзе наўзлёт
Арол прысягае адчаю,
Пяшчоты громаадвод –
Жанчына
Бяду прадчувае.

## БАЛАЗЕ...

Балазе, што вада
Сакрэту не выдае,
Як нараджаюцца слёзы
І як ператвараюцца
У празрыстыя хвалі яе.
Магчыма й сама вада,
Народжаная журбою
І тысячагоддзямі звыкаючы
Да халаднавокага зла,
Ні мейсца, ані спакою
Знайсці не змагла
Ні на небе, ні на зямлі,
Спяшаючыся
За парог небакраю.

Вада
Чалавечы шлях паўтарае...

**З курдскай пераклаў**
**Рыгор БАРАДУЛІН.**

* Сва баш *(курдск.)* – добрай раніцы.
** Рож баш *(курдск.)* – добры дзень.
*** Эвар баш *(курдск.)* – добры вечар.

Сяргей АСТРАВЕЦ

# ГРУНВАЛЬДСКІЯ СКОКІ

*Рыцарскае апавяданне*

Прачнуўся Акінчыц напярэдадні Ольштына. (Калісьці Оленштайн.) Пазнаў дарогу і ваколіцы, якія ўжо бачыў трэці раз. За дзесяць, зрэшты, гадоў. Гэта называецца гады ў рады, па сутнасці. Але няшмат існуе месцаў, адлеглых і не звязаных з асабістымі жыццёвымі падзеямі, куды б ён трапляў з пэўнай рэгулярнасцю. Месца гэтае прыцягвала, не інакш. Магнітна. Хоць ён, нават хацеўшы, не мог бы сказаць, што там, напрыклад, пахаваны ягоны далёкі продак або хоць бы быў паранены, страціў сваю кроў ці папросту стаяў поплеч з іншымі, з мячом, якім рабіў ваярскія чыны, баронячыся за тарчай, рэзка, у чарговасці рухаў, выстаўляючы яе наперад. Альбо магчыма, ці – наадварот – зусім немагчыма, што яго прадзед ляжаў тут у балотным акопе ў самсонаўскіх шэрагах, якія мусілі ажыццяўляць чыюсьці прагу да ордэнаў, да паўтарэння няславы нямецкай. Ды былі раздушаны тэўтонскай жалезнай махінай. Знаёмыя мясціны: дарога лукаткамі, дамы і стадолы з пачарнелай дахоўкай яшчэ прускай пабудовы, купы дрэў, злева-справа – азёры.

Грунвальдскія схілы жаўцелі

пожняй, усцяж падзеленыя стракатай стужкай на сектары для машын. Памыліся мінеральнай вадою, нехта нават здолеў пагаліцца. Рыцарскі лагер стракацеў шатрамі і палаткамі. Наводдаль кантрастна знерухомелі два гэлікоптэры. З неба апусціўся наступны, да яго кінулася чарада людзей: чыноўнікі, вайскоўцы, рэпарцёры з вялізнай чорнай цыгарай мікрафона па-над галовамі. Некалькі чырвонаберэтных жаўнераў лянотна глядзелі на цікаўных, хто наблізіўся, каб з адлегласці паназіраць. З дзвярэй выбраўся літоўскі прэзідэнт, яго пасадзілі і паехалі. Метраў за трыста. Акінчыц узняўся на брукаваную пляцоўку. Публіка чакала. На двух флагштоках хваліліся літоўскі і польскі сьцягі. Калісьці флагштокаў было тры: бела-чырвоны, арол, Пагоня. На металёвых стойках пляцоўку атачылі вялікія чорныя гучнікі, чулліва фіксуючы і перадаючы чаканне трыбуннага чынавенства. Урыўкі банальных фраз. Акінчыц выняў з заплечніка навюткі дыктафон, падлучыўшы пінжачны мікрафончык з зашчэпкай. Побач спыніліся два ахоўнікі, суцэльна чорныя – ад чаравікаў і друкоў да кепак-бейсболак.

“Пане прэзідэнце! Шаноўні паньства!” Ах, колькі слодычы ў прамовах! Колькі мядовасці! Колькі станоўчасці, найвышэйшай ступені! Ідылія ідэальная! Два народы, менавіта яны – літоўцы і палякі – перамаглі хцівых – самых моцных, наймагутнейшых, найбольш узброеных сярод усіх – тэўтонаў! Пане прэзідэнце, якога яшчэ сіропу падліць – з малін, марэляў? – куды яшчэ пацалаваць?! А можа, дадаткова лыжачку цукру? Калі ласка! Два народы, гэткія сяброўскія, якіх няма болей у Еўропе! Мір-дружба,

братэрства па зброі! Эўрыбадзі хэпі! Акінчыца ледзьве не званітавала. Ад крывадушнасці і маны. "Слаўнае і вялікае войска геройскіх літоўцаў пасля Грунвальдскай перамогі кудысьці раптам знікла! Адно паваявала потым крыху з палякамі ў дваццатым годзе (навошта хлусіць, пане прэзідэнце?!), капітуляваўшы потым, як патрабаваў молатаўскі ультыматум. Без адзінага стрэлу. Ганебна, як армія баязліўцаў. Рукі ўгору – дый годзе! Не заўважыць беларусаў, як тая шаўка – вялізную жывёліну, элефанта, раздзьмухаўшы шэрую мышку ў баявога слана... Нейкі спектакль, гульня ў голага караля! Непераможнае літоўскае войска – недарэчны "голы кароль". Зарабілі на беларусах, на карку іхнім. Гарадзенскія, магілёўскія, мсціслаўскія... харугвы. "Войска літоўцаў". Пане прэзідэнце, нех пан не муві таке бздуры! Тады прысабечылі перамогу. У дваццатым беларускія батальёны таўклі для іх палякаў. Пад жоўта-зялёна-чырвоным сцягам. Усё забыта! Што за народ, такі празмерна спрытны, круцельскі?! Гэта зусім не цырк на дроце, гэта значна горш". Зрэшты, Акінчыц насамрэч не быў нагэтулькі з'едлівы. Пра тое ж самае ён падумаў значна спакайней, больш апатычна. Дваццаць гадоў літоўская сталіца была пад польскай акупацыяй, дваццаць гадоў на нажах, і гэта – мір-дружба?

Знянацку з дынамікаў загучала старажытная "Багародзіца", якую змрочна-нетаропка войска заспявала калісьці, перад самай сечай. Тэўтонаў было больш, яны былі мацнейшыя вонкава. Яны былі дома. Навокал – нямецкія вёскі з нямецкімі назвамі і насельніцтвам. Таненберг, напрыклад. Родныя сцены дапамагаюць. Іншае войска атачаў з флангаў шчытны лес, непрыветны, варожы. Яны бараніліся "Багаро-

дзіцай", напаўнялі сэрцы гартам. "Госпадзе!" – зусім не па-польску і, пагатоў, не па-жмудзінску спявалі ваяры. Акінчыц адчуў стрыманыя радасць і гонар. Але фанаграма патрэбна была, каб новая польска-літоўская хваля скасавала апошнія рэшткі надзеі на саломіну. Польска-літоўскае вайсковае майстэрства, моц, гарт! Новы моцны штуршок да супрацоўніцтва грунвальдскага тандэма – НАТО! Помнік героям Грунвальда аздаблялі пасярэдзіне з бела-чырвонымі і трохколернымі блакітныя з азімутам паўночнаатлантычныя сцягі. Абапал стаялі вартавыя. Высокі літоўскі госць узнагароджвае камандзіра механізаванай дывізіі імя караля Уладзіслава Ягайлы ордэнам Гедыміна. Ура! У адказ польскім крыжам адзначаецца літоўскі палкоўнік Ёнас Жукас, абвяшчаюць дынамікі. "Жукас? Пшэцеж то поляк!"–абзываецца самазадаволена публіка навокал. Лішняя падстава для Акінчыца аблаяць саманадзейных гаспадароў. Нават жука беларусам не пакінуць!

Акінчыц назірае за прамоўцамі, стоячы спінай да падзеі. Ззаду на вялікім экране начальства адлюстроўваецца падрабязна, з усімі жэстамі, паваротамі галавы, усмешкамі, з мімікай, з чытаннем кавалкамі – дзеля перакладчыка – тэкстаў. Тэмпература ўзаемнага двухбаковага братэрства дасягае максімуму. Абодва прэзідэнты прадстаўляюць urbi et orbi – упершыню! – "літ-поль-бат", як гаворыць віленскі госць. Супольны міратворчы батальён. Яго жаўнеры прысутнічаюць тут, на гістарычным месцы, са зброяй у руках! і г.д. На гергетанні Акінчыц адключае дыктафон. Ужцякс, ужцякс. Задаволіўшыся пахвальбамі адзін аднаму, прэзідэнты выконваюць наступны пункт праграмы, урачыста крочаць за

афіцэрамі-венцаносцамі да помніка – чатырохкантовага слупа з высечаным грубым каменным тварам. Прэзідэнты вызвалены нават ад абавязку ўскласці вянкі. Іхняе заданне максімальна палегчана: адно расправіць стужкі – двух- і трохколерную адпаведна. Дзенькі, дзенькі... Публіка захвалявалася, нагадваючы віхуру ў шклянцы з вадою. "Ідзь бліжэй. Тэраз. Зачэкай!.. Пане прэзідэньце! Ту!" – экзальтавана-фамільярна заклікае падысці бліжэй захопленая кабетка перадпенсійнага веку. І хапаецца на хвілю за яго руку. Шчаслівы момант для абываценя. Зрэшты, Акінчыц узнімае аберуч сваю "мыльніцу", бачачы вокамгненна штосьці накшталт спалоху, хутчэй дробнай занепакоенасці ў вачах абодвух, але болей у бліжэйшага – у паляка. Пстрык! Бэндзе зд'енце.

Калі абодва прэзідэнты вяртаюцца на прыступкі подыума, штосьці робіцца з экранам: прэзідэнты зелянеюць, нібы фантамасы, асабліва госць. Тэхнічная служба, відаць, мітусіцца, зялёны колер чаргуецца палосамі. Нехта падыходзіць да экрана з відэакамэрай і здымае. Акінчыцу робіцца зусім нецікава: прэзідэнцкае сюсюканне з харцэрамі. Часам супольнага аддзела таксама не зрабілі? Літ-поль-харц? Наўскасяк цераз пагорак крочаць у барвовых шатах лучнікі-падлеткі ў бок месца бітвы, да якой яшчэ шмат часу. Але там ужо займаюць пазіцыі іншыя. Акінчыц хавае дыктафон і фотаапарат, кіруецца ў рыцарскі табар. Там сваё жыццё, рыцараў ані цікавяць кітайскія афіцыйныя цырымоніі, салодкамоўныя прамоўцы, юбілейная мітусня. У іх пануе жыццё сярэднявечнага горада. Гандлёвыя рады. Гэты прадае шабеткі скураныя на талеры. Кат за грошы літасціва дае пабыць у скуры пакаранага злачынцы. Галаву і рукі кабеткі замыкае ў

драўляным шчыце, бярэ ў рукі бізун. Уперад, як размахнуцца і ашчадна пасцябаць, прамаўляе ў досыць куртуазным духу: "Які пенькны ма тылэк! Пан монж ма быць бардзо задаволёны!" Муж, сапраўды, побач у захапленні стараецца зрабіць чым болей кадраў уяўнага пакарання сваёй багданай. Але ўвага гледачоў ужо пераскочыла на калегу ката, вельмі маляўніча-сярэднявечна апранутага, з суцэльным каўпаком на галаве, у якім толькі шчылінкі для вачэй. Бацькі з замілаваннем назіраюць, як іхні сынок кладзе на калоду галаву, і просяць ката крыху затрымацца з узнятай над хлопчыкам сякерай, каб паспець зняць за свае грошы сапраўднае кіно для хатняга ўжытку. Каб паказаць потым суседзям, калегам, бабулі!

Вястун з драўлянае вежы абвяшчае публіцы, што сёння, дакладна а шаснаццатай, паўторна адбудзецца славутая пераможная Дубровенская бітва. Рыцары з розных земляў заклікаюцца ўзяць чынны ўдзел у валечнай падзеі, а слухачы запрашаюцца прыйсці і забяспечыць відовішчнасць упершыню ладжанай "повтуркі" гістарычнае вялікае перамогі. У спектаклі, бяскрыўднай інсцэнізацыі, у якой ролі распісаныя наперад, маналогі канкрэтызаваны храністамі.

Дзе напэўна ж няма месца для імправізацыі, для магчымасці штосьці змяніць, засярodзіцца на чымсьці нетрадыцыйным, звярнуць увагу на іншае, пра што не пажадаў або забыў распавесці храніст. Пацеркі, бурштын, каралі, пярсцёнкі, рыцарскія сыгнэты. Усё даволі звычайна. Звыкла. З левага боку – цікавей. Майстры з гарадскіх цэхаў дэманструюць свае здольнасці і вырабы. На вачах адбіваюць фальшывыя манеты. Mennica – паведамляе шыльда. Можна купіць талер, солід або дынар. Але Акінчыцу цікавей пастаяць

каля друкароў. Паназіраць, як з дрэварыту адбіваюцца старыя выявы: лоўля селядцоў для Гданьскага порта або герб "Пагоня" грунвальдскіх часоў. Другі друкар тлумачыць публіцы, што грунвальдская грамата адбіта адмысловай фарбай, прыгатаванай паводле старых алхімічных рэцэптаў. Што сама папера выраблена гэтак жа па-старасвецку. З канопляў. Тоўстая, крохкая, на ёй бачная кратчастасць рэшата. Але папера белая, кідка новая. Нетаропка майстар прымацоўвае знізу на вяроўцы цяжкую сургучовую пячатку ў драўляным футарале, якіх побач вялікі запас. І спакусна, і занадта муляжна. Подпіс на грамаце чамусьці зусім не каралеўскі: "Таварыства аматараў Грунвальда", ці штосьці падобнае. Акінчыц ідзе далей, бачыць спартаванне рыцараў, вершныя практыкаванні, гарматкі – як сапраўдныя. З чыгуну ці, можа, з бронзы.

За агароджай малады жаўнер у чырвоным берэце размаўляе з тэлефона-аўтамата. У чарзе дамы і багаты шляхціц. Насупраць у дрэвах – камуфляжны гарадок, дзе падрыхтаваны пачастунак для найвышэйшых гасцей. Уздоўж ланцугом сшыхаваліся чырвонаберэтныя. Начальства чакалі пасля харцэрскіх прамоў бранябойныя аўто і бус – для летувіса, каб правезці сто метраў да сталоў. Блізка ўваходу чакае публіка, каб пабачыць, як дзяржаўныя галовы, пачаставаўшыся, падзяліўшы перамогу на двох, з'едуць. Акінчыц будзе сядзець у аўтобусе каля шыбы і пабачыць, як міма праедзе спачатку пан Аляксандр, за ім – самотны ў вялізным аб'ёме аўтосалона былы амерыканскі пенсіянер. Іх нібы Грунвальд не зацікавіў. Ці, хутчэй, папросту надта небяспечна было заставацца сярод дзесяткаў тысяч гледачоў без адпаведнага сховішча. Дзейных палітыкаў цікавяць толькі сучасныя

вайсковыя гульні а-ля НАТО. Акінчыц кіруе на пагорак. Жвава крочаць у бок баёвішча астатнія рыцарскія дружыны. Несучасныя сцягі, не разабрацца – хто дзе. Ён выбягае наперад, проста на яго рушыць не цугам, а грамадою нейкая амаль хеўра. Ваяўнічыя твары, гыркі, латы і шлемы: разыдзіцеся! прэч з дарогі! швабы крочаць! Акінчыц чым хутчэй націскае на гузік, каб сысці з дарогі, але не даціскае да канца, кадр не атрымліваецца. Як шкада! Быў бы самы цікавы. Хапіла б аднаго. Зрэшты, каб усе нашыя пралікі былі гэткія. У Акінчыца на пад'ездзе выпала шкельца з акуляраў, і ён напалову сляпы, нават хацеўшы не ўбачыць спектакль напоўніцу. Кава без задавальнення. Яму ўвогуле болей падабаецца глядзець падобныя відовішчы праз тэлебачанне, у якім усё заўжды дасканала: кадры, ракурсы, планы, мантаж. Цэлая панарама. З розных бакоў. Сам гэтак ніколі не разгледзіш, папросту немагчыма.

Выязджае Ягайла. Сярод пешага войска ён на кані выглядае надзвычай выйгрышна. Вышэйшы на дзве галавы адразу – сваю ды конскую. Акінчыц, на жаль, бачыць пасрэдна. Акуляры! Пагатоў з-за спінаў ужо відаць няшмат. Але палёт Ягайлы з каня Акінчыц не прапусціў, даволі падрабязна ўсё заўважыўшы. Кароль на кані. "Чалавек дробнага розуму і малых здольнасцяў", – як амаль паспявае падумаць пра яго Акінчыц словамі польскага храніста. Можна сказаць, што не паспявае. Кароль гатовы ўзначаліць перамогу. Войска не павінна чакаць! Асаблівага запрашэння. Хаўрусніцкая артылерыя моцна залпуе. Каралеўскі конь, спуджаны агнявой пальбою, кідаецца ўперад, наўскасяк поля. Першым разам, аднак, збраяносец паспявае схапіць яго за збрую, сяк-так стрымаць. Новы

залп! Яшчэ мацнейшы за папярэдні. Конь ляціць стрымгалоў, вершнік крыжам пляскаецца аб дол. Енк зляканага гледача, усе ўражаны. Гучыць сірэна "хуткай дапамогі". Злева ад Акінчыца публіка рассоўваецца, прапускаючы машыну. Наводдаль па пагорку рухаецца другая сярод людской гушчы. Бітва пачынаецца, рыцары б'юцца каля "хуткіх дапамог", якія затрымаліся чамусьці хвілін на дваццаць дакладна, Акінчыц не мае гадзінніка. Яго нельга было везці? Ці медыкі спрабавалі вярнуць войску ягонага слаўнага пераможцу хоць бы пад заслону? У Акінчыца няма адказаў. Ён па-хрысціянску шкадуе, але не можа таксама стрымаць мінімума злараднасці, які дапускаецца ім як прадстаўніком абражанай нацыі, выкасаванай, як слова з песні. Фанабэрыя далася ў знакі. Беларус не можа не бачыць у здарэнні наканаванасці, калі не адплаты ўвогуле. Што, хіба лягчэй стала, што нас замаўчалі? "Беларусы славутыя сваёй храбрасцю на вайне"! Няўжо не чыталі паэта, якога прысабечылі сабе разам з іншымі беларускімі? "Пруская вайна" – гэта ж менавіта пра ваш Грунвальд чортавы!

Па-над валечным спектаклем – парахавая хмара. Мацней і гучней паліць, безумоўна, польска-літоўская артылерыя. Крыжацкая адказвае менш імпэтна, толькі аднойчы, перад самай паразай, нямецкія гарматы выбухаюць папросту вулканічна. Кам'ё зямлі ляціць па-над галовамі тых, хто яшчэ не стаміўся махаць мячамі. Жаўнеры ў натаўскай форме і касках, абсеўшы джып колеру хакі, з цікавасцю сочаць за архаічнай вайной. Ягайлы ўжо няма, "хуткія дапамогі" зніклі неяк раптам, неўпрыкмет. Хоць, магчыма, жаўнераў болей цікавяць рыцарскія дамы, якія знаходзяць сабе нават нейкі занятак у самы пякельны час, не пакідаючы

тэатра вайсковых падзей. Наплывае набрынялая хмара згары, растварае дажджом рэшткі парахавога дыму. Акінчыц пад парасонам паварочваецца і пстрыкае натаўскую ваеншчыну. Дождж перастае. Заканчэнне дзеі. Эўрыбадзі хэпі. Апроч аднаго небаракі, зразумела. Шмат хто кідаецца наперад, каб убачыць рыцараў зблізку, па магчымасці памацаць, або нават сфатаграфавацца побач. Акінчыц таксама пстрыкаецца на фоне тых, хто фатаграфуецца. Але спачатку ён робіць здымак гарматкі на козлах, праз якую гэтак фатальна давялося перапісаць гісторыю. Нішто сабе гакоўніца! Следам за публікай затым кіруецца туды, дзе ліецца піва, прынамсі, ручаём і спажываюцца каўбаскі. Грунвальд напалам захапілі, здаецца, Акоцім і Жывец. Акінчыц падыходзіць да тэлефона-аўтамата і разумее, што нічога не атрымаецца. Перадаць рэпартаж на радыё з месца падзеі. Побач, навокал гавораць адначасова тысячы галасоў, а насупраць – на эстрадзе – загучаў рок-гурт. “Дзе мая камурка?!” – рытарычна думае Акінчыц. І кіруецца дахаты. Самотны, дзьме жаласліва ў сваю дуду выкапаны шатландзец. Строй – дасканала выкананы. На полі нядаўняга спектакля – страляніна і велізарная парахавая хмара. Спецаддзел “Гром” дэманструе свае здольнасці. Але большасць публікі “ма то в носе” ды п’е сабе піва. Ёй ужо хапіла, яна спакушана каўбаскамі і “грахуўкай”. Машыны пачынаюць раз’язджацца. Іх тысячы. Калі Акінчыц апынаецца ў аўтобусе, выбухае залева. Поле ператвараецца ў гліняную куламесу, машыны буксуюць, а яму хочацца дамоў: хопіць!

Беларускае вогнейка ніяк не запальваецца, некалькі ўжо гадзін. Усім разам корпацца вакол яго няма сэнсу дый нецікава. “Гайда да літовак!” –

прапануе нечакана археолаг. Бярэцца піва, некалькі бляшанак, і яны ўтрох, ці хутчэй удвух – два гісторыкі і Акінчыц пры іх – апынаюцца каля вогнішча, над якім два кавалкі расцятай нейкай жывёлы, засмажанай і напэўна гатовай да ўжывання. Піва прымаецца, але гасцям прыходзіцца хадзіць, як тым катам, мудрагелістымі шляхамі, але лепей мясам праз гэта не запахла. Збіраюцца да сваіх паненак мужчыны, нейкія выкапаныя лясныя жмудзіны. Сярод іх – сціплы дзед у драўлянай, не новай бутафорскай кароне. Вітаўт. Прабачце, Вітаўтас. "Чым ён займаўся, калі Ягайла ляснуўся?" – міжволі падумалася Акінчыцу. Расчараваныя гісторыкі рэціруюцца. Не дапамаглі ім саладкамоўныя жарты і намёкі. Літоўкі застаюцца ў цэнтры ўвагі, з імі ўсім хочацца зрабіць фота. Даводзіцца вяртацца. У табары – экзатычныя рыцары з рознакаляровымі пасмамі і нават брывамі. Гэта, нечакана, свае. Але, як тлумачыць археолаг, які ўсё ведае, яны "рускамоўныя", праз гэта з імі не хоча сябраваць купка рыцараў, якія ўмеюць размаўляць па-беларуску. Лінгвістычны канфлікт з грунвальдскай афарбоўкай. Акінчыца гэта крыху забаўляае, хоць ён таксама злёгку пагарджае тымі, хто не адчувае эклектыкі: усё адно́ як у савецкім кіно, дзе эсэсаўцы размаўляюць паміж сабою па-расейску. Заставалася пачуццё непраўдзівасці. Нехта прапануе выкарыстаць на дровы агароджу дзённага грунвальдскага спектакля. Вогнішча сапраўды распальваецца і ўбіраецца ў сілу! Даходзяць чуткі, што рыхтуецца рыцарская бяседа, для якой засмажаны на ражнах цэлыя дзікі. Акінчыц з прыяцелямі бачылі, як састаўляліся ў адзін доўгі стол сталы і лавы абапал. Ды ўжо не рыхтуецца, ужо распачалася, мяркуючы па мужчынскіх галасах! Чаму мы не рыцары, а толькі гледачы? – пачынаюць

шкадаваць моўчкі каля вогнішча. І – о дзіва! – суседскі рыцар прыносіць адзін на ўсіх шмат вепручыны. Пакаштаваць. Акінчыцу таксама даводзіцца адкусіць разок. Сапраўды, смаката!

Акінчыцу не стаіцца, сесці нельга, бо трава дагэтуль мокрая. Ён ідзе на гукі сярэднявечнай музыкі ў рыцарскі табар. Тамака ён трапляе ў незвычайную атмасферу. Упершыню ў жыцці знаходзіцца паміж рыцараў перад трыо ў чорных шатах з архаічнымі інструментамі ў руках. Лера, якая мае замест класічна-песняроўскай "скрыпкавай" формы выгляд падоўжанай скрыначкі без аніякіх аздоб з ручкай пры баку – каб круціць. Незразумелы драўляны інструмент накшталт ліры, якой яе малявалі старажытныя грэкі. І апошняя – дуда, болей сёння вядомая як "валынка" нават сярод беларускамоўных рыцараў. А якія спевы! Пра рыцара Раланда і ваяванне сарацынаў, маўраў, іншых паганцаў.

Спявак-баюн, які з лірай, апавядае публіцы, уперад як спяваць, пра што будзе чарговая балада. Наступная – пра славутага Рышарда Ільвінае Сэрца, які вяртаўся з крыжовага паходу і трапіў у вязніцу да каварнага зусім не сарацына, а найхрысціяннейшага аўстрыйскага князя. Чакаючы за кратамі свайго выкупу, кароль напісаў сумна-чароўную песеньку. Каб публіка ведала, існавалі дзве ейныя версіі – правансальская і французская. "То шпевай по-провансальску!" – раптам патрабавальна выгукае адзін з рыцараў, злева ад Акінчыца. Хвілёвая паўза, і баюн лагодна тлумачыць, што, "каб усіх пагадзіць прысутных, ён праспявае зараз па-польску". Акінчыц абарочваецца і пачынае разумець, што навокал адны рыцары і дамы, ён адзін – белая варона. Ён вяртаецца да

вогнішча. Публіка, згуртаваўшыся вакол агню, якім ужо можна сагрэцца, пачынае патрыятычныя спевы пра магутнага Бога і шчыльныя рады, у канцы агучыўшы Яся, які аднаго разу "касіў канюшыну". Але Акінчыца цягне назад, да трубадурскіх мелодый. Раптам на чорным небе расцвітае феерверк. Цёплы, вабны. Не халодны, чымсьці злавесны, як дома.

Вакол вогнішча пачынаецца працяг дзённай размовы. "Латышы мякчэйшыя, да нас болей падобныя, чымсьці гэтыя". – "Дзе яны ваявалі? Толькі паліцэйскія батальёны. У сябе жыдоў душылі і ў нас лютавалі, спецыяльна прысылалі". – "Мой дзядзька расказваў, у Клецку стаялі літоўцы. Гадкія былі. Калі дзяўчына якая адмовіцца, не пойдзе танчыць з іхнім, абавязкова адпомсціць". – "Беларускіх батальёнаў да іх не пасылалі. Да нас, бо сваіх не было, прысылалі карнікаў – хахлоў ды летувісаў". – "У латышоў быў легіён, стварылі. У нас – дывізія "Беларусь". А што ў іх? Адныя карнікі?" – "Хлопцы, літоўцы нам усё адно не ворагі", – перапыніў усіх раптам археолаг. Аднак Акінчыц больш не слухаў, ён пайшоў назад, крыху іншай дарогай. Каля шатра сушылася ці папросту была развешана рыцарская шата. Не пазнаючы сябе самога, ён хуткімі рухамі ўсё зняў і пайшоў далей. За дрэвамі пераапрануўся, склаўшы сваё джынсавае адзенне ў руказак... За рыцарскім бяседным сталом было цёмна, але баляванне не закончылася. "За Бялорусь!" – пачуў Акінчыц, прычым двойчы, мабыць – тост. "Нашыя праводзяць агітацыю", – падумалася яму. "Бялорусіні! Літвіні!" – не вельмі цвярозым голасам зноўку выгукнуў хтосьці нябачны. Акінчыц падышоў бліжэй. "Ходзь ту, рыцэжу, – пачуў ён, – выпій з намі піва

правдзівэго рыцэрскего. Чэнстуемы!” – “Добжэ, дзенькуе”, – адказаў ён і прыняў бляшанку. Моцны хмялёвы смак, крыху саладжавы, ледзь-ледзь. Чымсьці знаёмы смак. Вогнішча на хвілю асвяцілася агнём. Сапраўды–Dortmunder! Які падабаўся Акінчыцу, і які, як ён заўважыў, калі было яшчэ не цёмна, жлукцілі рыцары. Нямецкі гатунак польскага вырабу. Піва, якое прадаецца ціха, без рэкламы. Пры беларускім вогнішчы пілі разрэкламаваныя і недарагія Акоцім ды Жывец, якаясьці добрая душа ўзяла па блоку. Накшталт колішняга жыгулёўскага, амаль кіславатае. Міжволі паверыш абывацельскаму: што празмерна рэкламуецца, тое лепей не купляць.

“Такі пожондны рыцэж і не хцэ таньчыць!” – Акінчыц зразумеў, што гэта – да яго. “Завшэ до дыспозыц’і пенькных пань”, – амаль не марудзіўшы, сказаў ён фальшывую фразу, якая скочыла на язык. “Пані ту тылько една”, – пачуўся адказ. “В такім разе – затаньчымы!” – празмерна гулліва выгукнуўшы, не даў ён дагаварыць, сам сабе ў думках дзівячыся. Якраз пачаліся гэткія скокі, нібы карнавальны пляц у каменным горадзе вырашыў святкаваць перамогу скокамі non-stop, пакуль усе не паваляцца. З боку рыцарскай бяседы адно выбухалі агнём петарды, рвучы паветра. Гэта толькі паддавала імпэту танцоўным парам. Акінчыц схмялеў ад разумення таго, што ён не вылучаецца з усіх і ніхто не зважае на яго, прыняўшы за свайго. Які ўдзень хадзіў сцяной на сцяну ў латах і шоламе, з мячом і тарчай. Падман! Але ўсе астатнія – таксама так ці інакш удзельнікі маскараду, пераапранання, удавання прыдуманых асобаў. Яны – больш, Акінчыц – крыху меней. Хіба гэта правіна? Рыцары яго пачаставалі, прызналі за свайго! Чаго ж

яшчэ? Думкі снаваліся ў галаве віхурай. "Ніштаватая полечка, даволі пекная. Я нават не ведаю яе імя", – падумалася яму. Надвор'е было халаднаватае, але Акінчыцу даўно зрабілася горача. "Умеш таньчыць!" – крыкнула яму скрозь узмоцненую музыку полька. "Ты – ешчэ лепей!" – у самае вушка адказаў ён. "Сама вем!" – вясёла, чым гучней прамовіла яна. А музыка, музыка сапраўды была сярэднявечная толькі зместам; па выкананні, а асабліва сваім гукам, была яна надзвычай сучасная. Дзяўчына пастуквала ў ручны барабан. Побач граў на акустычнай гітары ейны калега. Два астатнія рабілі гуку кожны за двух: электрычная гітара і галаслівая флейта, у горле якой сядзеў мікрафон. "Хцэм почэнстоваць цебе бенэдыктынэм. Ходзь зэ мнон!" – знянацку спыніўшыся, пацягнула яна яго за руку. Музыка па-ранейшаму віравала. "Чаму б і не? – падумалася яму. – Чаму б не пагрэць душу? Калі я апошні раз піў той бенедыктын?.."

У шатры яна на хвільку схапілася за бутэльку, крыху лыкнуўшы, і перадала Акінчыцу. "Здрове пенькных пань! – паспеў вымавіць стандартнае глупства ён і патлумачыў больш-менш самавіта: – Кеды трунэк рыцэрскі, то длячэго втэды рыцэр не можа его трохэ выпіць? Тым бардзей з пенькнон дамон". Сказаў і здзівіўся, што яна не здзівілася, бо адчуў, што загаварыў чамусьці, як яму здалося, з нямецкім акцэнтам. "Што за дурата? Хіба ўжо зап'янеў?" – узнікла ў галаве думка. "За пань тшэба і по раз другі, і по раз тшэці", – патлумачыла яна, спачатку таксама адпіўшы з рыльца. А потым яны кахаліся. Гэта здарылася раптоўна, быццам маланка запаліла стог сена, але доўжылася не хвіліны. Пакуль з ночы гучала музыка. А музыкі не стамляліся доўга.

“Мано Вітаўтас”, – выдыхнула яна і, як у прорву, яны праваліліся ў сон... На дасвецці Акінчыц цішком выбраўся вонкі з лёгкім пачуццём прыкрасці. Падаўся ўбок, пераапрануўся пад хмызам, пакінуўшы на ім вопратку. Зусім не рыцара, а – збраяносца! Дзверы аўтобуса не былі замкнуты, некалькі асобаў дасыпалі ў нязручных паставах. Таксама не мелі спальніка і палаткі. На сядушцы ляжала “Газэта Альштынска”. “Запрошаны рыцары з Англіі, Францыі, Італіі”, – прачытаў Акінчыц запозненую навіну. Ніякай ангельшчыны ён не чуў. Апроч як польскай ды, хіба, расейскай – іншай ад рыцараў не было чуваць. “Нават лабусы па-польску шпрэхалі, – падумаў ён. – А сам – што?”

Прачнуўся ён, калі пачалі вяртацца начоўнікі з табару. Вочы расплюшчваць не хацелася. З іхняй размовы Акінчыц зразумеў, што нехта прывесіў на флагшток з літоўскім сцягам бел-чырвона-белы сцяг. “Самі ж і павесілі”, – уцяміў ён. Амаль усю дарогу спаў. Па відэа глядзелі шалёна зробленую “Жану Д’Арк”. Спыніліся пад’есці ў памежным горадзе. Была пятніца, Акінчыц замовіў рыбу па-грэцку – у моркаўцы з поліўкай. І куфаль піва. Апроч Акоціма, іншага не было. Ён адарваўся ад талеркі і ўбачыў за шыбай, на другім баку вуліцы, на сцяне піўную – акоцімскую рэкламу з казлом. З надпісам: “А Грунвальд, стары, паменташ?” – “Ешчэ як!” – выгукнуў моўчкі Акінчыц.

*24–31 ліпеня 2000 г.*

*Адметныя творы беларускай літаратуры-2000*

## Экспрэс-анкета ... "Крыніцы"

### Галіна ДУБЯНЕЦКАЯ

**Паэзія:**

***Юрась Пацюпа.*** "Цэнтоны і санеты." (Гучалі ў Мінску ў выкананні аўтара.)
***Валянціна Аксак.*** "Антычны дождж". (Вільня. 2000 г.)

**Проза** (умоўна):

***Алесь Разанаў.*** "Гліна. Камень.Жалеза". (Беласток. 2000 г.)
***А.Лукашук.*** "Імя А." ("Крыніца".)

**Эсэ:**

***Людка Сільнова.*** "Крышталёвы сад". ("Фрагмэнты".)

### Людка СІЛЬНОВА

**Паэзія:**

Пераклады з заходнееўрапейскай паэзіі ***А.Разанава, В. Сёмухі, Р.Барадуліна.*** (Найперш, відаць, кніга "Кропка, кропка, працяжнік" — тры нямецкія паэты ў перакладзе ***А.Разанава.)***
***В.Аксак.*** "Антычны дождж". (Вершы. Вільня.)

**Проза:**

***Кастусь Тарасаў.*** "Беларусь". Альбом для хлопчыкаў і дзяўчынак... і для дзядуль і бабуль іхніх. Да прыкладу, мае бацькі вельмі ім цешацца.

**Эсэ:**

***В.Дашук.*** "Нацыя халуёў".
Інтэрв'ю ***Марыны Бяляцкай*** у газеце "Свободные новости" з цікавымі людзьмі Беларусі.

Гумарыстычныя малюнкі ***Васіля Быкава***, якія мільганулі ў канцы года ў перыёдыцы.
І яшчэ адзін арыгінальны жанр – літаратура "акшн" (action): удзел беларускіх літаратараў у "Літаратурным экспрэсе-2000".

**Уладзімір КОНАН**

**Проза:**

***Васіль Быкаў.*** "Чырвоныя пятліцы". (Апавяданне. "Полымя".)

**Эсэ:**

***Зянон Пазьняк.*** "Глёрыя Патрыя". (Вершы і фатаграфіі. Вільня. 2000 г.)

**Юры СТАНКЕВІЧ**

**Паэзія:**

Падборка вершаў у "ЛіМе" ***А.Разанава.***

У адмоўным сэнсе – выхад (у 2-гі раз, па сутнасці, аднаго і таго ж тэксту ***Я.Хвалея***, накладам 11 тыс.(!) асобнікаў "Пра наступствы наркаманіі сярод падлеткаў". Кніжка бязглуздая і бяздарная, як і паэтычныя кніжкі таго ж аўтара, як і ўся творчасць гэтага псеўдапісьменніка.

Асобна – верш ***Л.Галубовіча*** "Нянавісць", у кніжцы "апошнія вершы леаніда галубовіча".

**Уладзімір АРЛОЎ**

***Л.Геніюш*** "Выбраныя творы".
"Накірункі свету" (паэма) ***К.Шэрмана*** (на чатырох мовах).
"Саксафон Чынгісхана" ***Дз.Падбярэзскага.***
***В.Мудроў*** (аповесці і эсэ "Н.Н").
***Л.Маракоў*** (аповеды).
"апошнія вершы ***леаніда галубовіча***".
***В.Аксак*** "Антычны дождж".

## Вінцэсь МУДРОЎ

**Паэзія:**

***Л.Галубовіч*** "Нянавісць" (зб. "апошнія вершы леаніда галубовіча").

**Проза:**

***Ю.Станкевіч*** "Бесапатам" ("Крыніца").

**Эсэ:**

"Эпізоды" ***Я.Кіпеля.***

## Андрэй ФЕДАРЭНКА

**Паэзія:**

***Л.Галубовіч*** "апошнія вершы леаніда галубовіча".

**Проза:**

***В.Кадзетава*** ("ЛіМ").

**Эсэ:**

***А.Дубравін*** ("Наша свабода").

## Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

**Паэзія:**

***В.Зуёнак*** ("Полымя". №6).

**Проза:**

***Я.Брыль*** "Лірычныя запісы". ("Полымя". №11).

**Эсэ:**

***Г.Далідовіч*** "Лецішча" ("Маладосць". №3);
***П.Панчанка*** "З запісных кніжак" ("Полымя").

## Міхась ТЫЧЫНА

1. ***У.Бутрамееў*** "Карона Вялікага Княства" (раман-анекдот з малюнкамі і паралелямі).

2. ***Р.Барадулін*** і ***В.Быкаў*** "Лісты з Хельсінкі" (віртуальная перапіска праз Інтэрнэт).

**Барыс БУР'ЯН**

Нанова адчуў, што лірычная страфа сапраўднага верша – гэта працяг цішы маўклівых вуснаў, калі душа нібы прагаворваецца і выдае тайну сэрца, як тое бывае на малітве, – прачытаўшы нізкі твораў ***Д.Бічэль*** і ***Л.Галубовіча*** (часопіс Х.Лялько "Наша вера". №2. 2000 г.).

Апавяданне ***А.Сямёнавай*** "Я кварту восені вып'ю..."

**Ганна КІСЛІЦЫНА**

**Паэзія:**

"апошнія вершы ***леаніда галубовіча***".
***Гала Гара*** ("Калосьсе").

**Крытыка:**

Уся крытыка часопіса "Калосьсе". ***(С.Шыдлоўскі*** і ***К.***).

**Адам ГЛОБУС**

1. ***Сяргей Харэўскі*** "Зьвяры-суайчыньнікі".
2. ***Іван Пташнікаў*** "Тартак".
3. ***Міхась Раманюк*** "Беларускія крыжы".

**Ігар БАБКОЎ**

***В.Акудовіч*** "Разбурыць Парыж" (эсэ).
***Алег Мінкін*** (верш "Дворнік").
***А. Разанаў*** "Жалеза" (паэма).

**Алесь АНЦІПЕНКА**

***В.Акудовіч*** "Разбурыць Парыж" (эсэ).

***А.Разанаў*** "Гліна", "Камень", "Жалеза" (паэмы).
"Медыі і камунікацыі". Навуковая проза (курс лекцый у Беларускім калегіуме).

**Сяргей ПАТАРАНСКІ**

**Паэзія:**

***Леанід Галубовіч*** ("апошнія вершы леаніда галубовіча").
***Віктар Шніп*** ("Песьні нашага двара).
***Галіна Дубянецкая*** (падборка ў час. "Першацвет" №10).
***Алесь Разанаў*** (паэма "Жалеза").
***Людка Сільнова*** (падборка "Піянерскае лета").
***Наталля Кучмель*** (падборка ў газ. "Сям'я").

**Эсэ:**

***Людка Сільнова*** ("Крышталёвы сад").
***Алесь Чобат*** (эсэ ў газ. "ЛіМ").

**Драматургія:**

***Аляксей Дудараў*** ("Палачанка").
***Алена Папова*** ("Вандроўнікі ў Нью-Йорку").
***Сяргей Кавалёў*** ("Трыстан і Ізольда").

**Новае імя:**

***Таццяна Будовіч*** (падборка ў час. "Крыніца" № 59).
***Вольга Базылёва*** (першыя падборкі).

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

**Паэзія:**

***Андрэй Хадановіч*** (нізкі вершаў у перыядычных выданнях).

**Проза:**

***Ю.Станкевіч*** (кніжка "Любіць ноч — права пацукоў").

**Эсэ:**

***Анатоль Сідарэвіч*** ("Поўны не акадэмічны", артыкул пра

збор твораў Я.Купалы, час. "Arche-Скарына").

***Алесь Чобат*** (эсэ ў перыядычных выданнях).

**Ірына БАГДАНОВІЧ**

**Паэзія:**

***Д.Бічэль*** – вершы ("Полымя" і "Наша вера").

Эсэ ***А.Сідарэвіча*** пра Купалаўскі збор твораў ("Arche-Скарына").

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

Міжнародная акцыя "Літэкспрэс-2000", якая падштурхнула нашых літаратараў перакладаць сучасных заходніх калег. Я сам пераклаў тэксты двух французаў і аднаго бельгійца – лічу, карысныя для разумення цяперашняга еўрапейскага ладу жыцця і спосабу мыслення (на жаль, французы пакуль дазваляюць апублікаваць гэтыя творы толькі ў Інтэрнэце).

Аповесць ***Аляксандра Лукашука*** "Імя А." ў "Крыніцы" №59. Апошнім часам Аляксандр піша ўсё лепш і лепш. Варта было б выдаць кніжкаю цыкл ягоных эсэ "Лісты з Амерыкі", якія гучаў сёлета на радыёхвалях.

Альманах "Nihil" (№2) Новага Фронту Мастацтва – адзіны ў Беларусі сапраўды незалежны выдавецкі праект, які цалкам ігнаруе і Дзяржкамдрук, і заходнія дабрачынныя фонды, а таму можа дазволіць сабе абсалютную свабоду ў выбары тэм і спосабаў іхняй трактоўкі. Лепшы, на мой густ, матэрыял нумара – апавяданне ***Іллі Сіна*** "Над раскіданым гняздом".

Непрыемна ўразіў часопіс "Arche-Скарына" сваімі не надта абгрунтаванымі выпадамі супраць Акадэміі навук, часопісаў "Фрагмэнты" і "Першацвет", "Бум-Бам-Літа", ***Валянціна Акудовіча*** і ***Алеся Аркуша.*** Крытыка – рэч добрая, а ў нас і надта рэдкая, але яна павінна быць, прынамсі, пераканаўчай.

З кніг найбольш запомніўся зборнік паэм ***Алеся Разанава*** "Гліна. Камень. Жалеза", які выйшаў у Беластоку, дзякуючы падтрымцы польскага Міністэрства культуры і "Нацыянальнай спадчыны". Хацелася б дачакацца таго часу,

калі і нашая дзяржава асэнсуе творчасць Разанава як нацыянальную спадчыну.

Не забуду і заяву ***Леаніда Галубовіча*** пра тое, што ён кідае рыфмаваць свае думкі, як раней кінуў піць і паліць. Сапраўды, рыфмаванне — адна з галоўных шкодных звычак беларускай літаратуры. Дзіўна, што ў "ЛіМе" не было некралога на смерць паэта Галубовіча. Я задаволены, што ў нас сталася адным паэтам меней, а эсэістам — болей.

**Вітаўт ЧАРОПКА**

***Лявон Вашко*** ("Ампутацыя міндалінаў").
***Ігар Сідарук*** ("Скула").
***Юрась Пацюпа*** (вершы ў "Калосьсі" №8).

**Алена ВАСІЛЕВІЧ**

***Генадзь Бураўкін.*** "Паміж зоркай і свечкай".
***Алесь Пісьмянкоў.*** "Я не памру – пакуль жыву".
***Алесь Разанаў.*** "Гліна. Камень. Жалеза".
На гэтых старонках хапіла і душы маёй, і сэрцу, і розуму і светласці, і высокіх захапленняў.
"Я кварту восені вып'ю..." – гэта апавяданне ***Алы Сямёнавай*** надрукаванае ў беластоцкім часопісе "Тармапілы". Шкада, што яно не трапіла на старонкі нашых часопісаў. Так стылёва, элегантна і лексічна *вытанчана* (у лепшым сэнсе!), каб пісаў хто ў нашай беларускай прозе, я не ведаю другога аўтара... А ў "Кварце..." яшчэ і бездакорная дакладнасць і выверанасць кожнага псіхалагічнага тэксту, кожнага эмацыянальнага зруху.

**Алена ІГНАЦЮК**

**Паэзія:**
***Л. Рублеўская*** (вершы, "ЛіМ").
**Проза:**
***Эжэн Іянеска*** (раман "Адзінотнік" у перакладзе А. Асташонка ў часопісе "Крыніца").

# Яно

**Таццяна СЛІНКО**

**Паэзія:**

1. ***А. Разанаў*** зб. "Гліна. Камень. Жалеза".
2. ***Г. Дубянецкая*** падборка вершаў у "Першацвеце".
3. ***А. Хадановіч*** "Крынскія санэты" ("Наша ніва" за 26.12.2000 г.).

**Проза:**

1. ***Кастусь Шызы*** "Над раскіданым гняздом" ("Nihil". № 2).
2. ***Зіга Зюзінскі*** "Алергія" ("Nihil". № 2).
3. ***Лявон Вольскі*** "Новая кватэра Казімера" ("Наша ніва" за 26.12.2000 г.).

**Эсэ:**

1. ***В. Акудовіч*** "Разбурыць Парыж" ("Фрагмэнты". № 9).
2. ***У. Бабкоў*** "4 вэрсыі ідэі свабоды" (прадмова да час. "Фрагмэнты". № 8).
3. ***М. Жбанкоў*** "Культура сьмецьця" і "сьмецьце культуры" ("Фрагмэнты". № 7).
4. ***Натальля Зэт*** "Неразборлівае слова" ("Фрагмэнты". № 7).
5. ***А Хадановіч*** "Прамова пра Міцкевіча" ("Наша ніва" за 26.12.2000 г.).
6. ***П. Васючэнка*** "Наша здрада" ("Фрагмэнты". № 8).